# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 ( 32 ) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2005 г.

## У НУМАРЫ:





## ЛІДСКІ ЗАМАК

*Чырвоныя сцены Лідскага замка асабліва ярка глядзяцца на фоне белага снегу і белага неба*



**Між белых снягоў
і белых нябёсаў
Чырвоныя сцены стаяць.
За ласку багоў
і зменлівых лёсаў
Стагоддзі над імі бруяць.**

**Стагоддзі няслі
то разруху, то войны,
Пажарамі горад пылаў,
А сімвал зямлі,
у вяках неадольны
Мацней да валоў прырастаў.**

**Парушаны сцены
і вежы ўзарваны,
І ўвесь ужо ў крушні залёг,
Ды ў сіле нязменнай
і славе нязганнай
Яго абярог моцны Бог.**

**І вось з-пад грахоў
і бяздолля наносаў
Зноў час нам спадобіў паўстаць...
... Між белых снягоў
і белых нябёсаў
Чырвоныя сцены стаяць.**

*Станіслаў Суднік.*



**Генерал Кандратовіч.** *А. Крывенка. Алей. 2004 г.*
*Публікуецца ўпершыню.*

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 ( 32 ) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2005 г.


# Традыцыя вярнулася



З надыходам сёлетняй зімы Лідскі замак набыў новае функцыянальнае прызначэнне. У старажытнай цвердзі залілі ка-ток, які адразу стаў самым папу-лярным у горадзе. Спорткамітэт арганізаваў пракат канькоў, а на варотах замка адразу ж з'яві-ліся аб'явы з прапановамі канькі прадаць.

Хаця каток у Лідскім зам-ку і не такая ўжо навіна, як можа падасца. Яшчэ перад вайной, пры міжваеннай Польшчы ў зам-ку залівалiся каткі. Археолаг Алег Трусаў, які вёў раскопкі ў замку распавядае, што падчас раскопак у замку знаходзілі канькі "снягуркі", якімі карыс-таліся ў тыя часы. Таму, фак-тычна, сёлета ў Лідзе адрадзілася добрая гістарычная традыцыя, традыцыя яднання новай куль-туры з культурай былых пака-ленняў, і новая культура мае тут векавечную апору.



Мы просім ўсіх,
хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі
Ліды і краю, дасылаць іх на адрас:
Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.


ПАСВЕДчАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ Г 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 300 асобнікаў**
**9 друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.
Замова № 5
Часопіс падпісаны да друку 15. 02. 2006 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1740 руб.
індывід. 6 мес.- 3480 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# КРОНІКА ЛІДЫ



***Жнуць у Мажэйкаве***

На рэспубліканскіх дажынках у Слуцку ЛРСУП “Мажэйкава”ўзнагароджана за 1-е месца ад Гарадзенскай вобласці па выніках уборкі збожавых і збожжа-бабовых.

Кіровец ГАЗ-53 Іван Буйко з Мажэйкава ўзнагароджаны за 3-е месца ў спаборніцтве па перавозцы збожжа, перавёз 2,75 тысяч тон.



***Іван Буйко***



***Званіца і царква св. Сергія Раданежскага***

10 кастрычніка ў Паўночным гарадку асвечана званіца каля храма св. Сергія Раданежскага. У асвячэнні бралі ўдзел старшыня камітэту памежных войскаў генерал Паўлоўскі і епіскап лідскі і наваградскі Гурый.

30 кастрычніка асвечаны прыстол храма Хрыста Збаўцы ў мікрараёне вуліц Рыбіноўскага і Тухачэўскага. Асвячэнне правёў епіскап лідскі і наваградскі Гурый.



***Храм Хрыста Збаўцы***




30 кастрычніка на IX з'ездзе ТБМ было прадстаўлена інфармацыйна - даведачнае выданне **"Летапісдзейнасці Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", 1989 - 2004."**

Укладальнікі: Ірына Марачкіна (Менск), Станіслаў Суднік (Ліда).

20 снежня ў ЛРСУП "Мажэйкава" ўведзена ў эксплуатацыю ферма "Новы век", абсталяваная па апошнім слове тэхнікі, укамплектаваная венгерскімі племяннымі каровамі.



***Ферма "Новы век"***



***Супермаркет "Цэнтральны"***

24 снежня ў Бярозаўцы адкрыты супермаркет "Цэнтральны", пасля рэканструкцыі былой крамы "Спадарожнік"

27 снежня на на Лідскай ЦЭЦ здадзены ў эксплуатацыю новы турбагенератар.





***Генератар запускае старшыня Лідскага райвыканкаму А. Худык***

# Кроніка айкумены

Лідскі гістарычны каляндар

## кастрычнік – снежань

**1495 год.** Двор Олдава (Голдава) набыты берасцейскім намеснікам Сёмкай Алізаравічам у жалудокскага баярына Пятрашкі Міхайлавіча.

**1495 год.** Вялікі князь Літоўскі Аляксандр выдаў дэкрэт аб высяленні яўрэяў з Літвы: “Жыдову з зямлі прэч выбіці.”

**1505 год, 13 снежня.** У Беліцкай воласці намеснічаў князь Юры Аляксандравіч Гальшанскі.

**1515 год.** На сродкі Андрэя Давойнавіча- падкаморыя ВКЛ пабудаваны першы Ішчолнскі касцёл.

**1575 год, 15 снежня.** Стэфан Баторы абраны польскім каралём і Вялікім князем Літоўскім.

**1625 год.** Ваявода мсціслаўскі Януш Тышкевіч, знаходзячыся ў Рулевічах, пісаў лісты каралю з нагоды дамовы са Швецыяй.

**1655 год, 12 лістапада.** У Вільні прыведзены да прысягі рускаму цару Аляксею Міхайлавічу лідскія шляхціцы, у тым ліку: лідскі падкаморы Якуб Кунцэвіч, лідскі земскі пісар Мікалай Нарбут і інш.



*Стэфан Баторы*

**1705 год, 20 снежня.** Расійскі цар Пётр І з войскам прайшоў праз Беліцу.

**1765 год.** З Лідскага павету сабрана 21500 злотых падатку, у тым ліку са старасты судовага Ігната дэль Кампа Сцыпіёна 120 злотых, з Кульбак- 190, з дзяржання Гарні- 60, Пурсці -30, лідскага войтаўства -80, дзяржання Цыбары Дамініка Аляксандравіча пісара земскага -30, з дзяржання Мендзічы Казіміра Камінскага -30, з дзяржання Конюхі Яна Юрыя Ёдкі, падкаморыя Лідскага павету -30, і т. д - 36 плацельшчыкаў.

У Лідскім павеце лічылася 18 харугваў, 1761 шляхціц і 105 ураднікаў.

**1785 год.** Прывілей караля Станіслава Аўгуста Паўлу і Ганне Канапніцкім на пляц у Лідзе на Замкавай вуліцы.

У склад маёнтка Пастаўшчына ўваходзілі: фальварак, млын на р. Лідзейцы і вёска Расклякі.

**1795 год, 24 (13) кастрычніка.** Трэці падзел Рэчы Паспалітай. Пецярбургская канвенцыя Расіі, Аўстрыі і Прусіі. Уся тэрыторыя ВКЛ уключаная ў склад Расійскай імперыі.

**1795год, 26 (16)** лістапада. Кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў Гарадзенскім новым замку падпісаў адрачэнне ад пасаду - адмовіўся ад трона на карысць Кацярыны ІІ.

**1795 год, 14 снежня.** Уключэнне Лідчыны ў Расійскую імперыю. Начальнікам Лідскага павету прызначаны секунд-маёр расійскіх войскаў Карл Мейр.

**1805 год.** Праз Лідскі павет праехаў імператар Аляксандр I, быў у Маламажэйкаўскай царкве, загадаў зрабіць рамонт, даверыў слонімскаму абшарніку Юндзілу.

**1805 год.** На Лідскіх прыхадскіх каталіцкіх могілках збудаваная драўляная капліца.

**1815 год.** У Лідскім у земскім судзе прынята да разгляду справа па спрэчцы лідскага мешчаніна Антоневіча з плябанам лідскага касцёла Гушынскім (Рушынскім) аб правах на валоданне млыном у Лідзе. Спрэчка працягвалася 10 гадоў да 1825 года.

**1845 год.** Кармеліцкі кляштар перароблены на шпіталь, касцёл стаіць без даху.

**1845 год.** У Лідскім павеце ў абшарніцкіх маёнтках на 172 заводах выраблена 57550 вёдраў гарэлкі, у маёнтках да 50 душ -- 55 заводаў, 8250 вёдраў гарэлкі, 50-100 душ -- 46 заводаў,13800 вёдраў; 100-200 душ -- 27 заводаў, 10800 вёдраў; 200-300 душ -- 9 заводаў, 3600 вёдраў; 300-400 душ -- 7 заводаў, 4800 вёдраў; 400-500 душ -- 3 заводы, 1500 вёдраў; больш 500 душ -- 25 заводаў, 14800 вёдраў гарэлкі.

**1855 год.** У Лідскай павятовай вучэльні гісторыю і геаграфію выкладаў Герард Іосіфавіч Мінейка кандыдат права Маскоўскага універсітэта, выхадзец з Ашмяншчыны.

**1855 год.** Ксёндз Хлявінскі ахвяраваў фарнаму касцёлу драўляны абраз Святога Казіміра ў пазалочанай раме, намаляваны мастаком Мірскім.

**1865 год.** Пры Лідскай прыхадской навучальні з'явілася жаночая пасляабедзенная змена, законанастаўнікам прызначаны Іосіф Іосіфавіч Каяловіч.

**1865 год.** Лідскім царкоўна - будаўнічым камітэтам прынята рашэнне пабудаваць у Дакудаве мураваную царкву.

**1865 год, 10 снежня.** Расійскі ўрад забараніў асобам каталіцкага веравызнання і польскага паходжання купляць зямлю ў Беларусі.

**26 снежня.** Іосіф Іосіфавіч Каяловіч прызначаны законанастаўнікам пры дваранскай навучальні.

**1875 год.** У "Спісе фабарык і заводаў Расійскай імперыі", выдадзеным у 1903 годзе пад рэдакцыяй Варзара, годам заснавання крыштальнай фабрыкі "Нёман-Б", называецца 1875 г.

**1885 год.** Заснаваны гута Зянона Ленскага ("Паказальнік фабарык і заводаў Еўрапейскай Расіі" пад рэдакцыяй М.А. Арлова і З.Г. Будагова, 1894 г.). На шклозаводзе З. Ленскага працавалі 28 чалавек: 16 мужчын, 6 жанчын і 6 падлеткаў, выраблена прадукцыі на 2 тыс. руб. Выпускаў бутлі і бутэлькі.

**1905 год.** У Лідзе на будаўніцтве чыгункі працаваў дзесятнікам Казімір Карлавіч Кастравіцкі (Карусь Каганец). Яго сям'я жыла ў Лідзе. У снежні арыштаваны і пасаджаны ў менскую турму.

**1905 год.** На тытунёва-махорачнай фабрыцы Віленчыка працавалі 143 чалавекі.

**1925 год, кастрычнік.** На тартаку Эліяша Гурвіча, на тартаку і млыне Беркі Мельніка адбыліся штрайкі.

**1925 год.** На Лідскі аэрадром прыбыў 11-ты зьнішчальны полк.



***Лётчыкі 11-га палка***

**1935 год.** Завершанае будаўніцтва паштамта на вул. Міцкевіча.



***Паштамт на Міцкевіча***

**1935 год.** На кафляным заводзе "Танур" ("печ", з яўрэйскага)- 20 работнікаў, 2 печы, 10 майстроў, ручны выраб, 400 штук кафлі ў дзень.

На ліцейным заводзе і фабрыцы сельскагаспадарчых машын "Поланд" братоў Е. і Ю. Шапіраў 100 работнікаў. Пры фабрыцы маюцца сталовая, умывальня, гардэроб. Выпускае ручныя і конныя сячкарні, прывады, малатарні, арфы.

На фабрыцы "Карона" выпускаюць чарніла, туш, лакі, фарбы акварэльныя, мастацкія, алейныя ўсякіх гатункаў і колераў.

"Ардаль" - фабрыка гумовых галёшаў фабрыканта Мейлупа. 800 або 720 працоўных, працоўны дзень 10 - 11 гадзін, зарплата - ад 50 грошаў да 2,5 злотых у дзень, кваліфікаваная работніца атрымлівае 5 злотых за 200 пар галёшаў.

**1935 год, 28 снежня.** Пачаўся трохмесячны штрайк рабочых фабрыкі "Ардаль".

**1945 год, 30 кастрычніка.** Выканкам гарсавету вырашыў: пераназваць вуліцу Гарнянскую ў вуліцу Ракасоўскага, вуліцу Каштанавую ў вуліцу Жукава, вуліцу Камунальную ў вуліцу Чарняхоўскага, вуліцу Пасялковую ў вуліцу Пакрышкіна, вуліцу Пагулянка ў вуліцу Зоі Касмадзям'янскай, вуліцу Шкляную ў вуліцу Янкі Купалы.

**1945 год.** У горадзе пасаджаныя 500 дэкаратыўных і 80 фруктовых дрэваў. Гарадскі сад пашыраны да 11 га, вакол яго ўзводзіцца агароджа.

**1945 год, 7 лістапада.** На Дошку пашаны ў гонар 28-й гадавіны Вялікага Кастрычніка занесеныя прадпрыемствы, якія перавыканалі план кастрычніка:

1. Лесазавод (дырэктар Сіньков, старшыня заўкаму Халявінскі);
2. Піваварны завод (дырэктар Пішчыкаў, старшыня заўкаму Міхайлоўскі);
3. Цвікавы завод (дырэктар Парнікель, старшыня заўкаму Прыгарын);
4. Завод сельгасмашын № 1 (дырэктар Авецікаў, старшыня заўкаму Трышчанка);
5. Завод сельгасмашын № 2 (дырэктар Макоўскі, старшыня заўкаму Лявіцкі);
6. Мясакамбінат (дырэктар Бараноўскі, старшыня заўкаму Запаснік);
7. Фабрыка "Ардаль" (дырэктар Васільеў);
8. Мельзавод № 10 (дырэктар Сліўкі, старшыня заўкамуХруль);
9. 8-я дыстанцыя каляі (начальнік Гапонаў, сакр. партарганізацыі Парынава, старшыня мясцкаму Халібінскі).

**1945 год.** Да прамкамбіната далучаны цагельні ў Масявічах і Шайбаках.

Пачалося аднаўленне фабрыкі "Ардаль"

Пры Лідскай будаўнічай канторы адчынілася школа, якая рыхтавала кваліфікаваных рабочых: столяраў, цесляроў, муляроў, печнікоў.

Адкрыты Лідскі школьны дзіцячы дом, складаўся з двух драўляных аднапавярховых будынкаў і аднаго двухпавярховага, дырэктарам прызначаны Хромаў Іван Рыгоравіч, завуч - Раманава Ірына Сямёнаўна.

**1945 год, 18 снежня.** Апублікаваныя склады выбарчых камісій па выбарах у Савет Саюза і Савет Нацыянальнасцяў. У складзе чальцоў камісій работнікі цвікавога завода, заводаў сельгасмашын № 1 і 2, завода харчовых канцэнтратаў, АРЗ-ДН 3, рамеснай вучэльні № 12, чыг. вузла, станцыі Ліда, паравознага дэпо, 8-й дыстанцыі службы каляі, службы руху 4-га вагоннага ўчастку, службы руху 3-га аддзялення.

**1945 год, 31 снежня.** Гадавы план 1945 г. па валу выкананы на 72,9 %.

Індывідуальнымі забудоўшчыкамі адноўлена і пабудавана 10 дамоў з жылой плошчай 391 м. кв.

**1955 год, 12-13 лістапада.** Адбылася Х гарадская партыйная канферэнцыя.

**1955 год.** Адчынены кінатэатр "Кастрычнік".

Будынак былога кінатэатра "Эра" рэканструявалі, на першым паверсе размясцілі дзіцячую бібліятэку, на другім - гарадскую.

Адкрыты 2-гі аўтобусны маршрут.

Камбінат харчканцэнтратаў пабудаваў для сваіх працаўнікоў дзіцячы сад на 50 месцаў.

Парэшткі камандзіра 86-га кавалерыйскага палка падпалкоўніка Труханава і камандзіра супрацьтанкавай батарэі лейтэнанта Арцёменкі перанесеныя ў брацкую магілу ў гарадскім парку. Устаноўлены помнік.

**1965 год.** На месцы растрэлу яўрэяў устаноўлены абеліск.

Адкрыты 5-ты аўтобусны маршрут.

Уведзеныя ў эксплуатацыю новыя карпусы заводаў электравырабаў і "Лідсельмаш".

Пабудаваныя два новыя клубы ў в. Дакудава і ў в. Паперня.

У калгасе "Нёман" пабудаваны сельмаг.

У Ганчарах пабудавана цагляная тыпавая СШ.

У Лідскім раёне 31 клубная ўстанова: 1 РДК, 2 СДК і 28 сельскіх клубаў, 84 чырвоных куткоў, 6 касцёлаў і цэркваў.

**1965 год, 12 снежня.** Адбыліся выбары народных суддзяў горада і раёна. Народнымі суддзямі абраныя: Валынец А.Ф., Давідзюк І.І. і Літвінаў У.І.

**1965 год, канец.** Насельніцтва Ліды: 37500, мужчыны -16600, жанчыны -20900, беларусы -12100, палякі -13160, рускія -9870, украінцы -1580, іншыя -790.

**1975 год.** На рацэ Лідзейцы збудавана другое вадасховішча.

**1985 год, лістапад.** У Бердаўцы Лідскага раёна заснаваны сямейны ансамбль Парфенчыкаў. Касцяк ансамбля - муж і жонка Аляксандр і Інэса Парфенчыкі.



*Кінатэатр "Кастрычнік"*



*Былы кінатэатр "Эра"*



*Вадасховішча на Лідзейцы*



*Сямейны ансамбль Парфенчыкаў*

# *Першая лідская марка*

15 лістапада 2005 года ў Лідзе адбылася ўнікальная для горада Ліды падзея. Тут упершыню ў гісторыі горада адбылося спецгашэнне паштовай маркі, дакладней, блока з дзвюх паштовых марак. У новай серыі "Архітэктура старажытнай Беларусі" выйшла марка № 628 "Замак Вітаўта. Гродна. З гравюры XVI ст." наміналам 500 руб. і № 629 "Замак у Лідзе, XIV-XV стст. Рэканструкцыя." наміналам 1000 руб. Пры гэтым выданне "лідскай" маркі ажыццёўлена ў многім, дзякуючы ініцыятыве Таварыства беларускай мовы, старшыня якога Алег Трусаў звярнуўся да кіраўніцтва "Белпошты" з прапановай выдаць марку з выявай Лідскага замка. Блок выйшаў накладам 15 тысяч асобнікаў. Выява Лідскага замка на паштовай марцы - гэта пейзаж-рэканструкцыя, намалёваны менскім мастаком Віктарам Маркаўцом. Выява на марцы замка Вітаўта ў Гародні - рэпрадукцыя з гравюры 16-га стагоддзя, выкананая гэтым жа мастаком. Друк афсетны, паўнаколерны, папера дыхтоўная. Памер марак у блоку 40x30,24 мм. Памер блока 113x73 мм. На марках прыменены элементы аховы. На дзень гашэння ў Ліду было дастаўлена 500 блокаў.




***Блок "Архітэктура старажытнай Беларусі"***



***Канверт першага дня.***




***Штамп першага дня.***

Першапачаткова спецгашэнне было спланавана ў Гародні, потым перапланавалі яго на Менск, але кіраўніцтва Лідскага райвыканкаму, прыклаўшы адпаведныя намаганні здолела пераканаць "Белпошту" ў мэтазгоднасці правесці гашэнне ў Лідзе.

На 11 гадзін 15 лістапада ў будынку Лідскага паштамта "Ліда-11" па вул. Міцкевіча сабраліся калекцыянеры, філатэлісты, прадстаўнікі ўладных і грамадскіх арганізацый, сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку і Лідскага тэлебачання.

Гашэнне праводзілася на канверце першага дня, створаным на тэму марак, а таксама па жаданні на паштоўках спецыяльным штампам, які дзейнічаў усяго 6 гадзін: з 11.00 да 17.00 15 лістапада 2005 года, а 16 лістапада быў знішчаны. Масціка гашэння чорная.



***Ідзе гашэнне марак.***



***Выступаюць вучні Гімназіі № 1.***

Працэс гашэння быў аздоблены песнямі пра Ліду і мастацкім экскурсам у гісторыю Ліды і Лідскага замка, здзейсненым вучнямі лідскай Гімназіі № 1. Са словамі да прысутных з нагоды гашэння марак выступілі начальнік аддзела ідэалагічнай работы выканкаму І. Белуш і намеснік начальніка раённага вузла паштовай сувязі П. Сурконт.

Спецгашэнне 15 лістапада 2005 года далучыла Ліду да спісу "філатэлійных" гарадоў і ўпісала яшчэ адну слаўную старонку ў гісторыю, як Лідскай пошты, так і горада ў цэлым.

15 тысяч марак з выявай Лідскага замка пайшлі па Беларусі і свеце, несучы імя слаўнага горада Ліды, нагадваючы тысячы і тысячы разоў кожнаму, хто бачыць выяву Лідскага замка на гэтых марках, пра наш абавязак перад гэтым замкам, перад горадам Лідай, перад усёй Беларуссю ў справе захавання нашай гістарычнай спрадчыны, у справе яе папулярызацыі ўсімі магчымымі спосабамі, у тым ліку і такім, як выпуск паштовых марак, канвертаў, паштовак, каляндарыкаў і інш.

***Станіслаў Суднік.***

# С П І С

## гістарычна - культурных каштоўнасцяў Лідчыны, якія зарэгістраваны ў Дэпартаменце аховы помнікаў з наданнем катэгорыі

| *Рэгістр. №* | *Назва гіст.-культурнай каштоўнасці* | *Датаванне* | *Месца знаходжання* | *Катэг.* | *№ рашэння і дата рэгіст.* |
|---|---|---|---|---|---|
| *Спіс Сусвет. спадчыны ЮНЕСКА)* | **Геадэзічны знак - пункт Дугі Струве** | (1825-1826 гг.) | в. Дакудава, 200 м на паўн.-захад ад вёскі | *0* | 15.07.2005 г. |
| **1а1Е200443** | **Лідскі замак** | (1328 г., пачатак будаўніцтва 1323 г.) | г. Ліда, вул. Замкавая | *1* | № 64 ад 27.03.2001 г. |
| **1а1Е200877** | **Касцёл Узвіжання Святога Крыжа** | 1770 г. | г. Ліда, вул. Савецкая, 2 | *2* | № 71 ад 28.02.2002 г. |
| **1а1Е200878** | **Ансамбль былога кляштара (калегіюма) піяраў:** | | | | |
| | **а/ Язэпаўскі касцёл** | 1825-1842 гг., 1919-1958 гг. | г. Ліда, вул. Савецкая, 20 | *2* | № 71 ад 28.02.2002 г. |
| | **Свята - Міхайлаўскі сабор** | 1863-1919 гг., з 1996 г. | | | |
| | **б/ Гімназічны корпус** | 1937 г. | | | |
| **1а1Е200879** | **Будынак пошты** | паб. ў 1935 г., адкр. ў 1938 г. | г. Ліда, вул. Міцкевіча, 8 | *2* | № 71 ад 28.02.2002 г. |
| **1а1Е201317** | **Міхайлаўскі касцёл** | 1908 г. | в. Белагруда | *2* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е201284** | **Адміністрацыйны будынак** | канец 19 ст. | г. Ліда, вул. Савецкая, 31 | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е201285** | **Галоўны вытворчы корпус півабарнага завода** | 1876-1910 г.г. | г. Ліда, вул. Міцкевіча, 32 | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е201286** | **Будынак друкарні** | канец 19 ст. | г. Ліда, вул. Ленінская, 23 | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е201287** | **Будынак абутковай крамы** | 1904 г. | г. Ліда, вул. Фабрычная, 6 | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е204372** | **Брацкая магіла** | 1941-1944 гг. | г. Ліда, вул. Міцкевіча, на тэр. бальніцы | *3* | № 28 ад 25.02.2003 г. |
| **1а1Е204373** | **Брацкая магіла** | 1944 г. | г. Ліда, вул. Міцкевіча, у парку | *3* | № 28 ад 25.02.2003 г. |
| **1а1Е201310** | **Капліца Дзевы Марыі** | 1824 г. | в. Беліца, Беліцкі с/с | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е201311** | **Крыжаўзвіжанская царква** | 1928 г. | в. Беліца, Беліцкі с/с | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е201312** | **Пакроўская царква** | 1900 г. | в. Збляны, Беліцкі с/с | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е201313** | **Пакроўская царква** | 1774 г. | в. Ганчары, Ганчарскі с/с | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е201314** | **Сядзіба-парк** | 1 палова 19 ст. | в. Мажэйкава, Мажэйкаўскі с/с | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е201316** | **Царква Нараджэння Багародзіцы** | 1793 г. | в. Голдава, Голдаўскі с/с | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1а1Е201316** | **Крыжаўзвіжанская царква** | 1810 г. | в. Бабры, Голдаўскі с/с | *3* | № 77 ад 13.11.2002 г. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **1a1E201318** | **Касцёл св.Архангела Міхаіла** | 1837 г. | в. Няцеч, Тарноўскі с/с | 3 | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1a1E201319** | **Сядзіба** | канец 19 - пачатак 20 ст. | в. Тарнова, Тарноўскі с/с | 3 | № 77 ад 13.11.2002 г. |
| **1a1E201586** | **Селішча сярэднявечча** | 6-8 стст. 12-13 ст.ст. | в. Белагруда | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201587** | **Стаянка перыяду неаліту і бронзавага часу** | 3-2 тысячагоддзі да н.э | в. Беліца | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201588** | **Бескурганны могільнік** | 16 ст. | в. Бенявічы, на паўн.-усх. ускр. вёскі | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201589** | **Стаянка мезаліт - неаліт** | 7-3 тысячагоддзі да н.э. | в. Бор, на паўн.-усх. ускр. вёскі | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201590** | **Стаянка каменнага - бронзавага вякоў** | 10-7 тысячагоддзі да н.э. | в. Бурносы, на паўн.-усх. ускр. вёскі | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201591** | **Стаянка каменнага - бронзавага вякоў** | 10-7 тысячагоддзі да н.э. | в. Ганчары, за 1 км на паўн.-усход ад вёскі | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201592** | **Селішча жалезнага веку сярэднявечча** | 1-е -пачатак 2-га тысячагоддзя н.э. | в. Гарняты, 1 - на паўд. ускр. вёс, 2 - за 1 км на поўдз.ад вёскі | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201593** | **Стаянкі каменнага веку, каменны могільнік, селішча** | 10-7 тысячагоддзі да н.э. | в. Збляны, 1 - за 500 м на паўн.-усх ад вёскі, 2 - за 600 м на паўн.-усх. ад вёскі, 3 - каля дарогі Збляны- Беліца, 4 - на правым беразе р. Нёмана | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201594** | **Стаянка і крэмнеапрацоўч. майстэрня каменнага веку** | 3 тысячагоддзе да н.э. | в. Даржы,1 - за 1 км на поўн. ад вёскі, 2 - каля паўн. захаду дзюны Боркава гара | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201595** | **Курганны могільнік перыяду сярэднявечча, каменны, могільнік** | 10 - 11 стст. 13 - 14 стст. | в. Касоўшчына, 1 - за 1,5 км на зах ад вёскі, 2 - за 0,5 км на ўсх. ад вёскі | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201596** | **Камень-следавік эпохі бронзы** | 3-2 тысячагоддзі да н.э. | в. Мейеры, за 0,2 км на паўдн. ўсход ад вёскі | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201597** | **Гарадзішча-селішча** | 1 тысячагоддзе да н.э. | в. Мыто, 1 - за 1,5 км на паўн. зах ад вёскі, 2 - побач з гарадзішчам. | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201598** | **Гарадзішча-селішча** | 6-10 стст. н.э. | в. Ольжава, 1 - за 1 км на поўдз ад вёс., 2 - за 2 км на поўдз. ад гарадз. | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E201598** | **Селішча жалезнага веку, стаянкі мезаліту - бронзавага веку** | Канец 1 тысячагоддзя да н.э., 5 тысячагоддзе да н.э. | в. Пескаўцы, каля зах. ускр. вёскі, 2-за 0,4 км на зах ад вёскі, 3- каля ўскр. мал. лесу. | 3 | № 79 ад 4.12.2002 г. |
| **1a1E204373** | **Брацкая магіла** | 1944 г. | в. Бердаўка | 3 | № 28 ад 25.02.2003 г. |
| **1a1E204374** | **Брацкая магіла** | 1944 г. | г. Бярозаўка | 3 | № 28 ад 25.02.2003 г. |
| **1a1E204375** | **Брацкая магіла** | 1941 г. | в. Гуды | 3 | № 28 ад 25.02.2003 г. |

***Лявон Лаўрэш***

# Генерал Кіпрыян Кандратовіч

***Расійскія гісторыкі называюць іх вялікімі здраднікамі Расійскай імперыі. Яны - гэта вышэйшыя афіцэры Расіі, генералы і члены світы імператара, якія падчас рэвалюцыі перайшлі ў нацыянальныя рухі і пайшлі па шляхах стварэння на крушнях рухнуўшай імперыі маладых нацыянальных краінаў, хаця называць іх здраднікамі неэтычна, яны прысягалі не Расіі, а імператару. Не стала імператара, не трэба было трымацца і прысягі. Найбольшую прыкрасць у расейскіх гісторыкаў выклікаюць імёны барона Манергейма, гетмана Скарападскага, генерал-лейтэнанта Доўбар-Мусніцкага і генерала ад інфантэрыі Кандратовіча.***

***Манергейм Карл Густаў Эміль (1867-1951). У 1889-1917 на службе ў рускай арміі, генерал-лейтэнант (1917). Удзельнік 1-й Сусветнай вайны. У 1918 г. узначаліў Узброеныя Сілы Фінляндыі, разагнаў фінляндскіх рэвалюцыянераў і забяспечыў поспех у аддзяленні Фінляндыі ад Расіі (1918). Маршал (1933). Галоўнакамандуючы фінскай арміяй у войнах Фінляндыі супраць СССР у 1939-40 і 1941-44 гг. У 1944-46 прэзідэнт Фінляндыі, пайшоў у адстаўку пад ціскам СССР.***

***Скарападскі Павел Пятровіч (1873-1945), генерал-лейтэнант рускай арміі (1916). Адзін з кіраўнікоў трагічнага змагання ўкраінскага народа за незалежнасць, гетман Украінскай дзяржавы (1918). Войскі Скарападскага былі разбіты бальшавікамі, сам гетман уцёк у Германію.***

***Доўбар-Мусніцкі Юзаф Рамуальдавіч (25.10.1867-28.10.1937), генерал-лейтэнант рускай арміі (1917). Скончыў Акадэмію генеральнага штаба (1902). Удзельнік руска-японскай вайны. У час 1-й Сусветнай вайны камандзір дывізій на Каўказскім і Паўночным франтах. У снежні 1916 г. загадаў без суда і следства расстраляць 13 салдатаў, пасля чаго быў пераведзены на Заходні фронт камандуючым 38-га армейскага корпуса 10-й арміі. У красавіку 1917 года выведзены са складу дэлегатаў з'езду арміі за манархічныя выступленні. У 1917 г. са згоды Вярхоўнага галоўнакамандуючага Л. Г. Карнілава арганізаваў на Заходнім фронце 1-шы польскі корпус. 12(25).1.1918 г. аб'явіў вайну Савецкай Расіі. З 1918 г. на польскай службе, генерал брані. У 1919 г. арганізатар і камандуючы польскімі войскамі ў час антыгерманскага паўстання ў т. зв. прускай Польшчы.***

***Кандратовіч Кіпрыян (Цыпрыян) Антонавіч, генерал ад інфантэрыі (поўны генерал, раўназначна цяперашняму генерал-палкоўніку). У 4-тым томе "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" пра яго сказана:***

**"КАНДРАТОВІЧ** Кіпрыян (Цыпрыян) Антонавіч (1859—?), бел. і рус. военачальнік. Ген.-лейт. (1905). Скончыў Мікалаеўскую акадэмію Генштаба. Удзельнік рус.-японскай вайны 1904- 05, нач. 9-й Усх.-Сібірскай дывізіі. З 1906 камандзір 2-га арм. корпуса, з 1907 пам. туркестанскага ген.-губернатара і камандуючага войскамі, з 1910 камандзір 1-га Каўказскага армейскага корпуса, з 1913 камандзір 23-га армейскага корпуса, удзельнічаў у 1-й Сусв. вайне. У 1884—1900 супрацоўнічаў у газ. "Московские ведомости". Аўтар працы "Плеўна і грэнадзёры 28 лістапада 1877 г.". У 1917 далучыўся да бел. нац. руху, уваходзіў у *Цэнтральную беларускую вайсковую раду,* узначальваў спец. аддзел па фарміраванні бел. вайсковых адзінак. У маі—чэрв. 1918 чл. Нар. сакратарыята БНР. У снеж. 1918 разам з В. Ластоўскім узначальваў Савет дзярж. бяспекі БНР. У 1919 як член рады БНР уваходзіў у дэлегацыю БНР на Парыжскай мірнай канферэнцыі. Застаўся жыць у Парыжы. Далейшы лёс невядомы."

***Аднак, дзякуючы даследванням лідскіх краязнаўцаў і ў першую чаргу Лявона Лаўрэша, апошнія сказы ў энцыклапедычным артыкуле, як і некаторыя іншыя фрагменты гэтага артыкула, больш не адпавядаюць рэчаіснасці. Лёс аднаго з віднейшых беларускіх ваеначальнікаў і нацыянальнага дзеяча Кіпрыяна Кандратовіча на сёння добра вядомы спецыялістам, а зараз мы пастараемся са старонак нашага часопіса зрабіць яго вядомым для ўсіх лідзян і нашых чытачоў за межамі Лідчыны***

***Станіслаў Суднік.***

**Кіпрыян (Цыпрыян) Антонавіч Кандратовіч** нарадзіўся 28 красавіка 1859 года ў вёсцы **Зіневічы** каля **Ваверкі** (Лідскі раён). Паводле сямейнага падання ён быў незаконнанароджаным сынам графа **Юрыя Трубяцкога**, павятовага суддзі. Маці - **Зінаіда Залеская** - дачка абшарніка, меўшага маёнтак **Місевічы** каля Зіневіч. Маці выйшла замуж за шляхціца **Кандратовіча**, чыё прозвішча і імя па бацьку Кіпрыян атрымаў.

Кандратовічы - старажытны ліцвінскі род, (герб - **Сыракомля**), што паходзіць ад Кандрата, якому ў 15 ст. былі падараваны некалькі маёнткаў. Род Кандратовічаў падзяліўся на 7 галін, унесеных у 1 і 6 частку радаводных кніг Віленскай, Віцебскай, Ковенскай, Менскай і Магілёўскай губерняў. Кандратовічы ёсць і ў спісах шляхты Лідскага павету (1).



*Герб Кандратовічаў “Сыракомля”*

Бацька Юрыя Трубяцкога – генерал-маёр **Мікалай Мікалаевіч Трубяцкі**, менскі губернатар. Трубяцкія – Гедзімінавічы, паходзяць ад князя Зміцера Альгердавіча, унука Гедзіміна, князя бранскага, чарнігаўскага, трубчэўскага, удзельніка Кулікоўскай бітвы, забітага пад Ворсклай у 1399 г. Ягоныя нашчадкі на пачатку 16 ст. ад’ехалі з Літвы служыць маскоўскаму князю. З 17 ст. гэта магутны і разгалінаваны дваранскі род Расійскай імперыі, які карыстаўся вялікім уплывам.



*Герб Трубяцкіх. У ніжнім левым куце “Пагоня”, якая сведчыць пра паходжнне роду з Вялікага Княства Літоўскага*

Трубяцкія дапамагалі выхоўваць малога Кіпрыяна, далі магчымасць атрымаць адукацыю і пачаць вайсковую кар’еру. Ён вучыўся ў **Лідскай павятовай дваранскай школе**. Вайсковую службу пачаў ў 1875 г. у Вільні (2).

**1. Расійска-турэцкая вайна, акадэмія**

У 1877 г. на пачатку руска-турэцкай вайны Кандратовіч – малады афіцэр Грэнадзёрскага корпуса. Грэнадзёры з’явіліся ў расійскім войску ў 1704 г. У грэнадзёры бралі найбольш смелых, падрыхтаваных, фізічна моцных жаўнераў і афіцэраў. У сярэдзіне жніўня 1877 г. грэнадзёрскі корпус з летніх лагерных збораў адпраўлены на вайну. У бітве пад Плеўнай 28 лістапада 1877 г. грэнадзёры перамаглі турак, страціўшы 18 афіцэраў і 542 жаўнераў. На пачатку лістапада 1878 г. корпус вяртаецца ў Расію. Праз некалькі год пасля вайны, капітан Кандратовіч, афіцэр для асобых даручэнняў пры штабе Грэнадзёрскага корпуса, напісаў кнігу **“Плеўна і грэнадзёры 28 лістапада 1877 г.”** (3) (ПЛЕВНА И ГРЕНАДЕРЫ, 28 НОЯБРЯ 1877 г. / сост.: Кондратович К.А., Сокол И.Я. ; под ред. Маныкина-Невструева А.И. М.: Унив. тип., 1887. X, 223, 61 с., [12] л. ил. Содерж. части: Очерк действий гренадер под Плевною в 1877 году; Плевненский памятник). Апісваючы месяцы перад адпраўкай корпуса на вайну, ён пісаў: *”Грэнадзёры прагна сачылі за весткамі з тэатру вайны. Часта жаўнеры пыталіся ў сваіх афіцэраў: “Чаму нас не бяруць? Ці хапае войскаў за Дунаем?” Балюча было чуць і чытаць аб здеках турак над балгарамі. З пачуццём зайздрасці праводзілі афіцэры і жаўнеры сваіх таварышаў з першай дывізіі, якія выпраўляліся на Каўказ ваяваць з туркамі”* (4). Кніга атрымала шырокі розгалас і добра вядома гісторыкам руска-турэцкай вайны 1877-78 гг.

У 1884 г. Кандратовіч К. А. скончыў **Мікалаеўскую акадэмію генеральнага штаба ў Санкт – Пецярбургу**. Конкурс пры паступленні дасягаў 20 чалавек на месца, пры тым, што большасць афіцэраў здавала папярэднія іспыты ў сваіх вайсковых акругах. Кожны год, закончвалі самагубствам афіцэры, якія не паступілі ў акадэмію ці былі адлічаны пасля першага ці другога года. Акадэмія генеральнага штаба давала вельмі добрую вышэйшую вайсковую адукацыю, і для “простых” афіцэраў гэта была практычна адзіная магчымасць хуткага службовага росту. Таму і ў арміі, і ў гвардыі выпуснікоў акадэміі не любілі, называлі мянушкамі “мамэнты” ці “фазаны”.



*Нагрудны знак Мікалаеўскай Акадэміі генеральнага штаба ў Санкт-Пецярбургу.*

Пасля акадэміі К. А. Кандратовіч у 1884-1900, працягваючы службу ў войску, супрацоўнічаў у газеце “Московские ведомости” у якасці вайсковага аглядальніка.

**2. Расійска-японская вайна**

У 1900-1901 гг. К. Кандратовіч - начальнік 2-й брыгады 30-й пяхотнай дывізіі. Летам 1900 г. прымае ўдзел у задушэнні паўстання баксёраў у Кітаі, атрымоўвае чын генерал-маёра (5). У 1900 — 1901 гг. начальнік 2-й брыгады 30-й пяхотнай дывізіі. У прадчуванні вайны з Японіяй Расія хутка павялічвае колькасць сваіх войскаў на Далёкім Усходзе. Кандратовічу даручана сфармаваць у Паўднёвай Манчжурыі 9-ю Усходне-Сібірскую брыгаду з 4-х палкоў 3-х батальённага складу. 30 студзеня 1904 г. па загаду цара пачалося дафармаванне брыгад новымі батальёнамі. Але да пачатку вайны паспелі павялічыць толькі 9-ю брыгаду. 18 лютага 1904 г. Кандратовіч завяршыў фармаванне сваіх войскаў. 6-га лютага пачалося фармаванне 1-га Усходне-Сібірскага корпуса ў складзе 3-й, 4-й, 9-й брыгад. Да лета 1904 г. 9-я брыгада папаўняецца новымі батальёнамі і становіцца 9-й Усходне-Сібірскай дывізіяй. Камандзірам 9-й Усходне-Сібірскай дывізіі прызначаецца генерал К. А. Кандратовіч. Дывізіённы дабрачынны, а. Георгі Шавельскі, які, дарэчы, таксама быў беларусам, пісаў, што адносіны с афіцэрамі дывізіі былі складанымі, напрыклад *“палкоўнік Лісоўскі дэманстраваў яму сваю непавагу, і ён* (Кандратовіч – заўвага аўт.) *... цярпліва зносіў гэта”*. Цяжка сказаць чым былі выкліканы такія адносіны да свайго камандзіра, магчыма яго “нізкім” паходжаннем, але талерантнасць генерала не можа не выклікаць павагу. Тым больш, што дывізія была адна з найлепшых, і яна “зрабіла імя” Кандратовічу (6). Наогул, Кандратовіч быў элегантным, вытанчаным і вельмі патрабавальным афіцэрам.

Руска-японская вайна пачалася 27 студзеня 1904 г. з міннай атакі японцамі рускай эскадры ў Порт-Артуры. Вайна ішла безпаспяхова для Расійскай арміі. 2 чэрвеня 1-шы корпус генерала Штакельберга, у склад якога ўваходзіла дывізія Кандратовіча, атрымаў паразу ў Вафангоў ад войскаў японскага генерала Оку. Згодна с дыспазіцыяй рускія наступалі 3-мя калонамі, *“... агульнае кіраўніцтва над сярэдняй і правай калонамі даручаецца начальніку 9-й дывізіі генерал-маёру Кандратовічу”*(7). У бітве на р. Шаха ў канцы верасня 1904 г. войскі 1-га Сібірскага корпуса вялі наступ на перавалы Чангаўлін, Заходні і Ўсходні Тумылін з мэтай захопу гэтых пералаў. Кандратовіч кіраваў левай калонай з 9-ці батальёнаў і вёў наступ на перавал Заходні Тумылін (8). У “Гісторыі руска – японскай вайны” 1907 г., імя Кандратовіча успамінаецца шматкроць (9).

13 студзеня 1905 г. , падчас наступу расійскага 1-га Сібірскага корпуса генерала Штакельберга, Кандратовіч быў паранены на камандным пункце. Гэты момант адлюстраваны ў мемуарах А. А. Ігнаццева: *“ Бой разгараўся з кожнай хвілінай. Загрукатала артылерыя. Хэгаўтай (кітайская вёска) пакрыўся разрывамі снарадаў. Спачатку яны ляцелі толькі з усходу, потым аднекуль з поўдня, дзе разгортвалася наша 9-я дывізія Кандратовіча ... “Добрыя войскі! Хто іх выхаваў? – падумаў я ...*

*- Аляксей Аляксеявіч* (Ігнаццеў А. А.), *я паранены, - нечакана сказаў мне генерал Кандратовіч, які стаяў побач са мной, павіснуўшы на маёй руцэ. Кандратовіч меў рацыю, бо, паглядзеўшы на яго плечы, я заўважыў у яго шынялі выхадую адтуліну кулі. Падбеглі санітары, і Штакельберг ... сказаў:*

*- Здайце камандаванне, генерал, жадаю вам хуткага выздараўлення.”* (10). А. А. Ігнаццеў называў генерала К. Кандратовіча *“элегантным генштабистом”.*

Пасля выздараўлення, напрыканцы 1905 г., Кандратовічу К. А. прысвойваецца званне генерал-лейтэнанта (5).

17 ліпеня 1906 г. генерал-лейтэнант, на-



***Генерал-лейтэнант К. Кандратовіч***

чальнік 9-й Усходне-Сібірскай дывізіі Кандратовіч Кіпрыян Антонавіч узнагароджаны Ордэнам Св. Георгія 4 ст., вышэйшай афіцэрскай узнагародай за асабістую мужнасць (не блытаць са "Знакам Георгіеўскага ордэна" ці "Георгіеўскім крыжам" 4-х ступеняў, які быў жаўнерскай узнагародай) (11).



***Ордэн Святога Георгія***

### 3. Паміж войнамі

З 1906 г. К. Кандратовіч - камандзір 2-га армейскага корпуса, а з 1908 г. намеснік Туркестанскага генерал – губернатара (3) і адначасова намеснік камандуючага Туркестанскай вайсковай акругі, начальнік штаба Сямірэчанскага казачага войска (5). Камандуючым войскамі акругі быў аднагодак Кандратовіча і аднакашнік па Акадэміі генеральнага штаба (таксама выпуск 1884 г.) – генерал Самсонаў А. В. Пасада Кандратовіча ў Сярэдняй Азіі – пасада адміністратара. Напрыклад, у адміністратыўнай кнізе Туркестанскага губернатара подпісы генерала з візай "*Зацвярджаю", намеснік генерал-губернатара генерал-лейтэнант Кандратовіч"*, стаяць на паперах аб атрыманні крэдыту на насенне 294 кіргізам ..., якія пакутавалі ад неўраджаю. (15 траўня 1909 г.) ці *"аб выдачы крэдыту ў памеры 2465 р. на насенне для 58 арандатараў, з якіх 57 туземцаў і 1 рускі"* (23 траўня 1909 г. ) (12).

У 1910 г. Кандратовічу нададзена годнасць генерала ад інфантэрыі (поўны генерал) (5), і ён прызначаны на пасаду начальніка 1-га Каўказкага армейскага корпуса(3), намесніка генерал-губернатара ў Тыфлісе.

Генерал ад інфантэрыі - гэта прыблізна генерал-палкоўнік у сучасным войску. Вышэйшае званне ў расійскай арміі – фельдмаршал, але на той час, амаль што 50 гадоў, гэтае званне не прысвойвалася і, фактычна, годнасць генерала ад інфантэрыі (ад артылерыі, ад кавалерыі – "поўныя генералы") была найвышэйшай у войску. Поўныя генералы насілі генеральскія пагоны без зорак з кантам колеру, залежным ад роду войскаў, у генералаў ад інфантэрыі - з чырвоным кантам. У 1913 г. у расійскай арміі было 177 поўных генералаў, пры гэтым толькі трохі больш за палову з іх мела вышэйшаю адукацыю, пры сярэднім узросце - 66,5 гадоў. Самым маладым з іх, нават праз 3 гады пасля атрымання звання, быў генерал ад інфантэрыі Кандратовіч.

Каля 1910 г. Кіпрыян Антонавіч пабраўся шлюбам з Адай фон Рыхтар (1879(?) – 1954). Ада фон Рыхтар (Ada von Richter) – дачка расійскага генерала фон Рыхтара, нарадзілася ў Рызе, выпускніца Смольнага інстытута ў Санкт-Пецярбургу. У 1912 г., калі Кіпрыяну Антонавічу было 53 гады, у Тыфлісе нарадзілася Вера, адзіная дачка.

18 лютага 1910 г. у газеце "Новое время" адзін з найбольш уплывовых вайсковых аглядальнікаў таго часу Меншыкаў М. А. у артыкуле "Ці можа Расія ваяваць", ацэньваючы перспектывы будучай Сусветнай вайны, пісаў: *"У нашых заходніх суседзяў толькі нешматлікія камандзіры карпусоў нюхалі порах, у нас жа 10 000 начальнікаў розных ступеняў ваявалі. Генералы: ... Самсонаў, ... , Кандратовіч ... , складаюць цэлую пляду. Усё яны дасведчаныя ільвы ў мундзірах".*



***Генерал К. Кандратовіч у парадным мундзіры***

Са жніўня 1913 г. Кандратовіч — камандзір 23-га армейскага корпуса, 2-й арміі, камандуючым якой за тры тыдні да пачатку вайны прызначылі генерала ад кавалерыі Самсонава (13). Самсонаў, кавалерыйскі камандзір вялікай асабістай мужнасці, займаў адказныя штабныя (у тым ліку і ў Варшаўскай акрузе) і адміністратыўныя пасады, але не камандаваў нават корпусам (14).

**3. 1-я Сусветная вайна**

1 жніўня 1914 г. у 17.00 Германія аб’явіла вайну Расіі (14).

Згодна з планамі расійскага камандавання вайна павінна была пачацца з дзеяння ў расійскай арміі супраць Усходняй Прусіі: 1-я расійская армія генерала Рененкампфа наступае з усходу, з раёна Вільні, адначасова з ёй 2-я армія генерала Самсонава наступае з поўдня, з раёна Варшавы. Аднак яшчэ ў красавіку 1914 г. на камандна-штабной гульні ў Кіеве, якую праводзіў вайсковы міністр Сухамлінаў, і ў якой бралі ўдзел усе камандзіры карпусоў і армій, у тым ліку і Кандратовіч, стала зразумела, што 2-я армія абавязкова спозніцца з-за адсутнасці дарог ў зоне яе высоўвання. Гэта дасць магчымасць манеўру немцам і прывядзе да разгрому. Як быць? Вышэйшае вайсковае кіраўніцтва знаходзіць “бліскучае” выйсце. Даецца ўводная, што ў Францыі саюзнікі перамагаюць, немцы вось-вось атрымаюць паразу і нічога не робяць на ўсходзе дзеля выратавання. Наогул, было вырашана, што колькасць расейскіх войскаў будзе настолькі значнай, што немцы будуць разбітыя без вялікіх перашкод (15).

У жыцці было ўсё наадварот. Каб ўратаваць ад поўнага разгрому французаў з англічанамі, наступаць давялося на 15-ты дзень ад пачатку мабілізацыі. Да гэтага тэрміну сканцэнтравалася толькі 30% планаваных сілаў. Для падходу наступных 30% небходна было яшчэ 8 дзён, але немцы былі ўжо пад Парыжам, і, каб не застацца з ворагам адзін на адзін, раніцай 17 жніўня 1-я расійская армія перайшла мяжу (16). Усходне-Прускай аперацыі прызначана шмат кніг, гэта адна з найбольш цяжкіх і павучальных бітваў 1-й Сусветнай вайны. Але наша мэта - расказаць аб удзеле ў ёй нашага земляка, генерала ад інфантэрыі Кандратовіча К. А.

23-ці корпус пасля заканчэння мабілізацыі быў адразу разабраны на часткі. 3-я гвардзейская дывізія (генерал-лейтэнанта Сірэліўса) была адпраўлена ў Саколку, у рэзерву Паўночна-заходняга фронту, **штаб якога ў гэты час знаходзіўся у Лідзе.** 2-я пяхотная дывізія (генерал-лейтэнанта Мінгіна) засталася ў цвердзі Новагеоргіеўск (зараз Модлін) і была падпарадкавана каменданту цвердзі. Кавалерыя корпуса (гвардзейская кавалерыйская брыгада) адпраўлена на Паўднёва-заходні фронт супраць аўстрыйцаў, мартырны дывізіён передадзены ў 2-гі армейскі корпус, сапёрны батальён – у цвердзь Гародня. Потым дывізію Мінгіна зноў перадалі Кандратовічу, і яна даганяла карпусы, якія наступалі. У камандзіра застаўся толькі штаб корпуса. Аднак у загадах і дырэктывах корпус лічыўся так, як быццам бы ён дзейнічаў у поўным складзе (17).

17 жніўня 2-я армія пачала высоўвацца да дзяржаўнай мяжы. Стаяла спякота. Карпусы наступалі бязспынна па сыпучых пясках, без тылавога суправаджэння, па некалькі дзён нават без хлеба. Дывізія Мінгіна, наогул, не мела абозаў, і ёй было загадана харчавацца з абозаў 15 корпуса (14). Ішлі без перапынкаў, без адпачынку ўдзень. Адолеўшы за 3-е сутак 80 км, армія Самсонава 20 жніўня перайшла дзяржаўную мяжу (18). 2-я армія складалася з 1-га, 2-га, 6-га, 13-га, 15-га і 23-га армейскіх корпусоў. Гэтак жа ў яе склад уваходзілі 4-я, 6-я і 15-я кавалерыйскія дывізіі, усяго 150000 чалавек, 702 гарматы, прыкладна такую ж моц мела і 1-я армія Ранненкампфа (19).

14 жніўня ў Беластоку Кандратовіч выдае загад па войсках корпуса № 7: *“Вярнуўшыся з камандзіроўкі 13 жніўня, прыступіў да камандавання корпусам … 18 жніўня да 6 гадзін вечара корпусу сканцэнтравацца каля Новагеоргіеўска …”* (20) .

Аднак тэлеграма Галоўнакамандуючага фронтам ад 14 жніўня № 3 загадвала 3-й гвардзейскай дывізіі заставацца ў Саколцы. 16 жніўня дывізія была перасунута ў Беласток, а 17 жніўня дывізіі загадана рухацца ў бок фронту, на Дэмбрава (17). Ад такога кіравання штабам акругі дывізіямі корпуса Кандратовіча, войскі пераблыталіся і генерал, прыкладна да 27 жніўня збіраў свае дывізіі.

Ад пачатку наступлення ў баях удзельнічала толькі 2-я пяхотная дывізія, наступаючы паміж 1-м і 15-м карпусамі. 24 жніўня гэтая дывізія была падпарадкавана камандзіру 15-га корпуса генералу Мартасу. 3-я гвардзейская дывізія, даганяючы войскі, падыходзіла ў гэты дзень да Млавы, 1-я стралковая брыгада была яшчэ ў Новагеоргіеўску. Такім чынам, пры выхадзе 23-га корпуса на лінію наступлення 2-й арміі, 2-я пяхотная дывізія была ў 15-м корпусе, 3-я гвардзейская дывізія ўваходзіла ў бой часткамі, пры чым яе Кексгольмскі полк быў перададзены 2-й дывізіі (17). Больш заблытаць працу штаба 23-га корпуса не змаглі б нават немцы!

Амаль што да канца жніўня, 2-я армія наступала без значных сутыкненняў з супраціўнікам і прайшла палову адлегласці ад расійскай мяжы да Балтыкі. Войскі смяротна стаміліся, адсутнічалі палявыя пякарні, сілкаваліся толькі сухарамі і тым, што адбіралі ў нямецкага насельніцтва. Штаб арміі не меў сувязі са штабамі карпусоў, штабы карпусоў - з дывізіямі. Ужыва-

лася радыёсувязь, але ж да пачатку вайны штабы не распрацавалі нават кодаў, і загады войскам ішлі адкрытым тэкстам. У гэта цяжка паверыць, але не была арганізавана, нават, выведка, і ніхто, ні ў штабе фронту, ні ў штабах армій і карпусоў не ведаў, дзе немцы! Кавалерыя не рабіла рэйдаў па тылах супраціўніка, а ішла за пяхотай. Авіяцыя дастаўляла пакеты паміж штабамі, а расійскія жаўнеры, якія ніколі не бачылі самалётаў, абстрэльвалі сваіх, мяркуючы, што такую хітрую машыну маглі мець толькі немцы (21).

У германскіх штабах не маглі паверыць, што рускія адкрытым тэкстам па радыё кіруюць сваімі войскамі. Але дакладная выведка з паветра красамоўна сведчыла, што радыёперахопам можна верыць. Гэтак жа працавала і нямецкая тэлефонная сувязь: аб кожным кроку расійцаў, тутэйшае насельніцтва інфармавала па тэлефону германскі штаб!

Немецкія генералы ўмелі ваяваць і ваявалі надзвычай добра. Атрымаўшы паразу ад Ренненкампфа пад Гумбіенам (20 жніўня), нямецкія карпусы адарваліся ад расійцаў, для аховы Кенігсберга пакінуўшы толькі нязначныя часткі ландверу (апалчэнцаў). Выкарыстоўваючы шчыльную сетку чыгунак, нямецкія войскі былі перавезены на левы і правы флангі арміі Самсонава. У гэты час, раскіданыя па фронце на адлегласці ў 120 вёрст, войскі генерала Самсонава ішлі насустрач свайму лёсу, нічога не ведаючы аб супраціўніку. Дадаўшы да сваіх сілаў на ўсходзе два пяхотныя карпусы з французкага фронту (так расійская параза выратавала Парыж), **26 жніўня** немцы выцялі ў флангі, адразаючы расійцаў ад сваіх баз. Камандзір 6-га корпуса Благавешчанскі пакінуў свае войскі і збег. У гэты дзень, у 7:25 Кандратовіч дасылае Самсонаву тэлеграму: *" ... немцы перайшлі ў энергічны наступ супраць 1-га корпуса з захаду. ... жадана супраць ... наступаючых высунуць ... 2-ю пяхотную дывізію ... загадаў адной брыгадзе 6-й кав. дывізіі перасунуцца на правы фланг ..."*(22) .

**27 жніўня** 1-шы корпус пасля жорсткага бою адышоў да Сольдаў, камандзір гэтага корпуса генерал Артамонаў ўзяў вінтоўку і пайшоў кіраваць ротамі, кінуўшы камандаванне корпусам. *"1-шы армейскі стаіць як скала!"*- далажыў ён Самсонаву і праз гадзіну аддаў загад адступаць. Артамонаў быў неадкладна зняты з пасады. У гэты ж дзень 2-ая пяхотная дывізія з корпуса Кандратовіча, падпарадкаваная штабу 15-га корпуса, была разгромлена каля Грос-Гардзіена (14). Самсонаў абедаў разам з англійскім ваенным аташэ Но-



ксам, недалёка ад фронту ў Найдэнбургу, калі жаўнеры разбітай 2-й дывізіі з'явіліся на вуліцах горада. Людзі былі *"жахліва стомленыя, тры дні не бачылі хлеба, на працягу двух дзён жаўнеры не атрымлівалі аніякай ежы, ніводзін з абозаў не падышоў…"* – апавядаў Ноксу адзін з палкавых камандзіраў (21). У 23:00 Самсонаў далажыў камандуючаму фронтам аб разгроме 2-й дывізіі: *"2-я дывізія панесла цяжкія страты … Рэвельскі полк амаль што знішчаны, засталіся сцяг і адзін звяз … Эстляндскі полк у вялікай мітусні адышоў да Найдэнбурга, дзе па майму загаду застаўся…"* (23). Раніцай 27 жніўня Кандратовіч знаходзіўся ў Млаве, калі атрымаў загад прыбыць ў Найдэнбург, каб кіраваць 2-й дывізіяй. Каля 8-мі гадзін раніцы генерал разам са штабам на 3-х аўтамабілях выехаў з Млавы. На дарозе ён затрымаў адступаўшыя часткі 2-й артылерыйскай брыгады і загадаў ім заняць абарону. Да аддзелаў 2-й дывізіі Кандратовіч прыбыў каля 3-х гадзін дня. Камандзір генерал Мінгін далажыў аб вялікіх стратах і цяжкім стане 2-й дывізіі. Увечары Кандратовіч разам са сваім штабам накіраваўся ў Найдэнбург да Самсонава. У асабістай размове Самсонаў выказаў незадаволенасць Мінгіным, і даў пісьмовы загад прыняць агульнае кіраванне над тым, што засталося ад 2-й дывізіі, каб абараніць Найдэнбург і Франкенаў.

З раніцы **28 жніўня** генерал Кандратовіч кіраваў абаронай: затрымаў і вярнуў на пазіцыі зноў Эстляндскі полк, які зноў быў кінуўся на ўцёкі, даваў указанні пяхоце і артылерыі, указваў кірункі атакі кавалерыі і г. д. Да вечара становішча дывізіі стала невыносным і генерал, каб пазбегнуць акружэння, дазволіў Мінгіну пачаць адыход. На прапанову Кандратовіча кіраваць адыходам, генерал Мінгін папрасіў яго не турбавацца, таму што, ён за апошнія дні настолькі вывучыў справу манеўравання падчас бою, што можа сам выканаць гэты манеўр. Пасля гэтай размовы Кандратовіч пакінуў штаб Мінгіна і больш не вяртаўся (17).

У гэты ж дзень Самсонаў сам "страціўшы галаву" з'ехаў са штабу арміі. Перад гэтым, ён, у 7:05 раніцы, даслаў тэлеграму ў штаб фронту: *"1-шы корпус … учора ўвечары адступіў… зараз пераязджаю ў штаб 15-га корпуса … апарат Юза здымаю, часова буду без сувязі з вамі"* (24). Такім чынам было цалкам дэзарганізавана кіраванне арміяй. *"З гэтага моманту армія перастала існаваць як цэльны арганізм: Самсонаў яе сакрушыў, і Гіндэнбургу засталося яе толькі дабіць"* – пісаў вядомы расійскі вайсковы гісторык Кярсноўскі А.А. (14).

З дакладу ўрадавай камісіі, якая даследвала гэтую катастрофу (17), вядома, пахвілінна распісана, што рабіў Кандратовіч 28 жніўня. І таму абсалютна не зразумела, чаму А. Салжаніцын такую пісаў лухту: *" И генерал Кондратович, которому — счастье выпало? — что его корпус раздёргали, и, будто бы собирая его, можно было долго кататься поездами между Варшавой и Вильной, … Кондратович примчался в Найденбург и, не имея тут никого выше себя чином, распорядился: командиру Эстляндского полка взять шесть рот и пулемётную команду и с ними уходить на восток, по шоссе, сопровождая и охраняя его, генерала Кондратовича. Он, очевидно, так расчёл, что одна растрёпанная дивизия его несобранного корпуса всё равно уже подчинена Мартосу, Кексгольмский полк занял позиции и сам продержится, остальные гвардейские полки сюда вовсе не дойдут, — и ему, корпусному, делать нечего, а безопаснее отойти за русскую границу и там ждать, чем кончится "* (25). Гэта пра тых самых панічна напужаных жаўнераў Эстляндскага палка, якія ўжо некалькі дзён уцякалі з усіх пазіцыяў, пра якіх пісаў Нокс. Гэтых жаўнераў, згодна з вывадамі ўрадавай камісіі, расследваўшай катастрофу ва Ўсходняй Прусіі, як раз 28 жніўня Кандратовіч асабіста вяртаў на пазіцыі: *"Тым часам конніца немцаў пачала прасоўвацца на поўдзень, у кірунку на Найдэнбург. … Генерал Кандратовіч выправіўся ў Найдэнбург, каб хутка з'арганізаваць там абарону. Прыбыўшы ў Найдэнбург, ён знайшоў там толькі 1 000 чалавек эстляндцаў, сабраных камандуючым дзеля адпачынку. Эстляндцам, пры якіх было 2 штаб-афіцэры, было загадана заняць вышыні на захад ад горада, … пасля чаго генерал Кандратовіч зноў выехаў з Найдэнбурга на поўнач, да астатніх частак свайго корпуса. Аднак, праехаўшы 2-3 вярсты, даведаўся, аб адыходе эстляндцаў … зноў вярнуўся,… і асабіста, разам з чынамі штабу,давёў частку эстляндцаў да тых вышынь,якія яны павінны былі ўтрымліваць… Устанавіўшы на пазіцыі эстляндцаў, генерал Кандратовіч зноў выправіўся да аддзела Мінгіна на крайні правы фланг"* (17). Толькі ўвечары, каля 19-й гадзіны, пасля гарачай размовы з генералам Мінгіным, пад час якой Мінгін практычна адмовіўся падпарадкоўвацца (не вядома як складаліся адносіны гэтых генералаў да вайны, у расійскім войску бывала ўсялякае, напрыклад, паміж двума камандуючымі арміямі – Самонавым і Рененкампфам пад час Расійска – японскай вайны была дуэль, гэта лёсавызначальным чынам адгукнулася ў 1914 г.), Кандратовіч пакінуў аддзелы Мінгіна (23). Прычыны гэтага ўчынку незразумелыя, і тут маглі б дапамагчы мемуары абодвух генералаў, якіх, нажаль, мы не маем.

Верагодна, што Салжаніцын кіраваўся кнігай Яўсеева "Августовское сражение в Восточной Пруссии 1914 г." (26), якая была выдадзе-

на ў 1936 г., калі Кандратовіч для Масквы быў ворагам – нацдэмам. Яўсееў сцвярджае, што генерал Кандратовіч з'ехаў з фронту яшчэ ў 12 гадзін на чале аддзела з шасці рот 8-га Эсляндскага палка і кулямётнай каманды лейб-гв. Петраградскага палка. Апісанне дзеяннеў генерала ў "Чырвоным коле" Салжаніцына, літаральна супадае з тым, што напісана ў гэтай кнізе. Але на карысць Кандратовіча кажа невераголны факт, які выкладае ў сваёй працы афіцэр – эмігрант Багдановіч П.Н. (27). Ен цытуе ўспаміны камандзіра нямецкага корпуса генерала Франсуа, аб тым, што каля 15 гадзін дня, каля ягонага штаба праехаў аўтамабіль з незнаёмымі афіцэрамі. Франсуа лічыў, што гэта быў камандзір 23-га корпуса. Аўтамабіль немцы нават не абстралялі! Вось так, у дзень пагрому расейскага войска, Кандратовіч перамяшчаючыся сярод сваіх напалову акружаных войскаў, ледзь сам не трапіў у палон …

Як прайшла ноч, невядома, але ж назаўтра ўсё было скончана.

**У ноч з 28 на 29 жніўня** Самсонаў аддае загад аб агульным адступленні войскаў 2- й арміі (21).

**29 жніўня** наступіла агонія. Сакрушальны выт немцаў па тылах прывёў да разгрому расійскіх войскаў. Генерал Самсонаў застрэліўся. Штаб 15-га корпуса абстраляны з кулямётаў, і камандзір корпуса генерал Мартас узяты ў палон. Камандзір 13-га корпуса Клюеў здаўся ў палон разам з вялікім аддзелам сваіх войскаў. Два дні з месца разгрому не было ніякай інфармацыі.

**30 жніўня** Кандратовіч дасылае тэлеграму ў штаб акругі, у якой дае інфармацыю аб стане войскаў і знікненні камандуючага арміяй. У той жа дзень штаб фронту загадвае: *" ген. Кандратовічу сабраць усе … сілы каля Харжэле, адтуль дзейнічаць па абставінах …"* (28). Некалькі дзён генерал з малымі сіламі прыкрываў шлях на Варшаву.

* * *

Усходне-Пруская аперацыя 1914 г., якая пачыналася з перамог расійскага войска, праз некалькі тыдняў скончылася поўным разгромам і ўцёкамі дзвюх расійскіх армій. Перамогу над 2-й арміяй Самсонава, у якую ўваходзіў 23-ці корпус Кандратовіча, немцы назвалі бітвай пад Таненбергам (Грунвальдам) і лічылі гістарычным рэваншам за паразу 1410 г. Пасля разгрому 2-й арміі толькі палоннымі было ўзята 92 000 чалавек, немцам спатрэбілася 60 цягнікоў, каб вывезці трафейную вайсковую маёмасць. Практычна перасталі існаваць 15-ы і 13-ы карпусы, ад іх засталося 50 афіцэраў і 2000 салдат. У 6-м і 1-м карпусах засталося па адной дывізіі, у 23 -м – каля брыгады. Два камандзіры карпусоў былі ўзяты ў палон, усе астатнія адхілены ад сваіх пасад. Айцец Георгі Шавельскі, які на гэты час стаў протапрасвітэрам (галоўным праваслаўным святаром) усяго расійскага войска, піша, што ён спрабаваў заступіцца за Кандратовіча, свайго былога камандзіра, перад Галоўнакамандуючым, але гэта не дапагло (6) …

Поўную паразу атрымала і 1-я армія Раненкампфа. Сам генерал Раненкампф, кінуўшы армію, збег на аўтамабілі.

**З верасня 1914 г. па 1917 г.** дакладнай інфармацыі пра генерала Кандратовіча К. А. у расійскім войску няма. Верагодна, што прозвішча "генерал Кандратовіч", якое час ад часу з'яўляецца ў дакументах, як, напрыклад, у Нарачанскай аперацыі расейскіх войскаў 1916 г., адносіцца да генерал-маёра Лукі Лукіча Кандратовіча, украінца, які дарэчы таксама перайшоў на бок украінскага нацыянальнага руху. Найверагодней, што Кярсноўскі (14) памылкова лічыў што ўжо ўвосень Кандратовіч К. А. быў начальнікам штаба 2-й арміі.

Але дакладна вядома, што ў 1917 г. Кіпрыян Кандратовіч камандаваў 75-й пяхотнай дывізіяй (29).

**4. Беларускае войска**

У 1917 г. генерал ад інфантэрыіі Кіпрыян Кандратовіч далучыўся да беларускага нацыянальнага руху. На з'ездзе воінаў- беларусаў Заходняга фронту ён быў абраны ў **Цэнтральную Беларускую Вайсковую Раду (ЦБВР)**.

Пасля стварэння Рады пачалася канкрэтная праца па арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Утворанае ў гэты час бюро па арганізацыі беларускага войска ўзначаліў генерал К. Кандратовіч, ветэран балканскай, японскай і 1-й Сусветнай войнаў, аўтар тэарэтычных працаў у вайсковай галіне, які ўваходзіў у той час у **Беларускі выканкам Заходняга фронту**. Ягонымі памочнікамі былі **генерал-маёр Пажарскі, палкоўнік Камароўскі і паручнік К. Езавітаў**. Працу па



***Кастусь Езавітаў***

непасрэдным фармаванні беларускіх палкоў на Заходнім фронце, па перамовах са Стаўкай расійскага войска ўзяў на сябе К. Кандратовіч.


*Сымон Рак-Міхайлоўскі*

У канцы кастрычніка 1917 г. дэлегацыя воінаў - беларусаў Заходняга фронту ў складзе старшыні выканкаму ЦБВР **С. Рак-Міхайлоўскага, К. Кандратовіча, М. Ярушэвіча і І. Шчэрбы** выехала ў Стаўку ВГК дзеля перамоваў з Вярхоўным галоўнакамандуючым генералам М. Духоніным аб арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Гэта быў час, калі нацыянальныя рухі Расійскай імперыіі карысталіся з дэмакратыі, здабытай пасля перамогі лютаўскай рэвалюцыі. Генерал М. Духонін (30) першапачаткова нічога канкрэтнага не адказаў, але праз некалькі дзён прыслаў тэлеграму, якая дазваляла фармаванне беларускіх адзелаў праз папаўненне беларусамі выбраных адзінак расейскага войска. К. Кандратовіч распрацаваў адпаведны план і атрымаў дазвол на стварэнне беларускага палка ў Менску, а ў наступным і беларускага корпуса на Заходнім фронце. У час, калі генерал К. Кандратовіч чакаў на выканаўчыя распараджэнні Стаўкі, М. Духоніна паглынаў нарастаючы канфлікт з бальшавіцкімі ўладамі. 9 лістапада генерал М. Духонін быў зняты з пасады Галоўнакамандуючага. На яго месца бальшавікі прызначылі паручніка Мікалая Крыленку. М. Духонін не падпарадкаваўся гэтаму загаду і застаўся ў Стаўцы. Бальшавікам удалося на той момант зняць з пасады Галоўнакамандуючага Заходнім фронтам генерала П. Балуева.

Генерал К. Кандратовіч, выконваючы прысягу, чакаў распараджэнняў ад вышэйшага кіраўніцтва. Пазіцыя старога ваякі складалася ў тым, што патрэбна палітычнае рашэнне, пасля якога прафесійныя вайскоўцы выканаюць свой абавязак. Але Часовага ўраду, ад імя якога Духонін дазволіў стварэння беларускага войска ўжо не было, а да прыняцця палітычнай дэкларацыі аб суверынітэце Беларусі заставалася яшчэ 3 месяцы, па мерках рэвалюцыйнага часу - цэлая эпоха. Не з'яўляючыся палітыкам, як напрыклад Пілсудскі, фармаваць войска, якое будзе служыць невядома каму, генерал не мог. І таму ягоны намеснік, палкоўнік Камароўскі, стрымліваў маладых калег ад "неабдуманых крокаў". Такім чынам па-за межамі Менска, арганізацыйную працу па стварэнні беларускіх вайсковых фармавання генерал аддаў на волю лёсу. Між тым, дзякуючы ініцыятыве франтавых рад, якія рэалізоўвалі пастановы сваіх з'ездаў, праца па фармаванні беларускіх аддзелаў павольна прасоўвалася наперад.

Утвораныя на розных франтах беларускія арганізацыі і вайсковыя фармацыі спрабавалі наладзіць кантакт з генералам Кандратовічам, але, нажаль, безвынікова. Загады па тэлеграфу і інструкцыі сыходзілі толькі ад малодшых афіцэраў ЦБВР і кіраўніцтва яе палітычнага аддзелу. Не маючы над сабой палітычнага кіраўніцтва, Кандратовіч чакаў. Дайшло да таго што ён парваў прапанаваны яму да падпісання дакумент. Малодшыя афіцэры давялі Прэзыдыюму ЦБВР, што пакінуць вайсковы аддзел, калі генерал застанецца яго кіраўніком. Выканаўчы камітэт ЦБВР адхіліў генерала К. Кандратовіча ад кіраўніцтва аддзелам і передаў паўнамоцтвы паручніку К. Езавітаву, які быў да гэтага часу адным з намеснікаў.

Тым часам Галоўнакамандуючы М. Крыленка выдаў загад на стрыманне "нацыяналізацыі" войскаў і забараніў скліканне народных з'ездаў у прыфрантавых зонах. Суровыя загады, скіраваныя супраць украінцаў і палякаў, камандуючы Заходнім фронтам А. Мяснікоў выкарыстаў супраць беларусаў і загадаў 8 снежня далучыць салдат 1-га Беларускага палка ў Менску да размешчанага ў гэтым горадзе 289 запаснога палка пяхоты. Гэта была ліквідацыя беларускага палка.

Пасля 25 сакавіка 1918 г. стварэнне Беларускага войска было працягнута.

На пачатку красавіка немцы забаранілі дзейнасць Народнага Сакратарыяту БНР. Шукаючы выйсця са склаўшагася становішча, Рада БНР прыняла ў свой склад кіраўнікоў беларускіх правых з, утворанага ў лютым 1918 г., **Менскага Беларускага Народнага Прадстаўніцтва.** Вядучымі палітыкамі правых былі Р. Скірмунт, П. Алексюк, **ген. К. Кандратовіч**, кс. В. Гадлеўскі, ген. А. Багдановіч, пратаярэй А. Кульчыцкі, А. Уласаў, В. Чавусаў. Дзякуючы сваёй кампетэнтнасці, дзеячы Менскага Беларускага Народнага Прадстаўніцтва мелі большую павагу ў немцаў, чым сацыялісты ў складзе Рады БНР.

25 красавіка Рада БНР, па ініцыятыве Р. Скірмунта, паслала тэлеграму з падзякай нямецкаму кайзеру Вільгельму ІІ і прасіла аб дзяржаўнай незалежнасці ў звязе з немцамі. Тэлеграму падпісалі: кіраўнік Рады БНР І. Серада, кіраўнік Народнага Сакратарыяту Я. Варонка, Р. Скір-

мунт і іншыя. **Кандратовіча сяродіх не было.**

Тэлеграма нямецкаму кайзеру Вільгельму II выклікала востры крызіс у беларускім руху. Распаўся Народны Сакратарыят, з якога ў знак пратэсту выйшлі некалькі міністраў. На пачатку траўня на яго месцы была створана Рада міністраў пад кіраўніцтвам Р. Скірмунта. Міністрам вайсковых спраў у гэтай радзе быў прызначаны ген. **К. Кандратовіч**, замежных спраў - А. Алексюк, сельскай гаспадаркі - Р. Астроўскі.



***Раман Скірмунт***



***Радаслаў Астроўскі***

Галоўныя праблемы якія прыходзілася вырашаць міністру абароны - гэта грошы і кадры, бо прафесійнае і баяздольнае войска на энтузіязме не ствараецца. І таму толькі 9 лістапада беларускі ўрад выдаў яшчэ адну пастанову аб фармаванні войска. 11 лістапада ген. К. Кандратовічу, палкоўніку К. Езавітаву даручана стварэнне штаба 1-га Беларускага палка. К. Кандратовіч, як сябар Рады БНР, прапанаваў праект арганізацыі 200-тысячнага войска і паведаміў, што віленскія банкіры і грамадзяне ў падтрымку гэтай ідэі гатовы выдаткаваць значныя фінансавыя сродкі. Адзінай перашкодай, паводле ген. К. Кандратовіча, была неабходнасць згоды немцаў і пастаўка праз іх зброі.

Напрыканцы нямецкай акупацыі Беларусі кіраўніцтва Ober-Ostu (у Коўне) выказала згоду на фармаванне агульнай для ўсіх нацыянальнасцяў міліцыі пад кіраўніцтвам ген. К. Кандратовіча, з чым аднак не былі згодныя палякі, якія ўтваралі Аддзелы Самаабароны Зямлі Менскай, Лідскай і інш. Таму, у часе сустрэчы ген. К. Кандратовіча з польскім камандуючым ген. Уладыславам Вейкам, было вырашана, што кожная народнасць будзе мець уласныя аддзелы самааховы на прынцыпах аўтаноміі і толькі ў выпадку агульнай пагрозы будзе падпарадкоўвацца агульнаму кіраўніцтву. У хуткім часе ў Менску адбылася супольная нарада, на якой ген. К. Кандратовіч прапанаваў месца начальніка штабу паляку, палкоўніку Фабіяну Кабардо. Аднак да ўтварэння агульнага фронту супраць бальшавікоў не дайшло, і абодва бакі стваралі асобныя вайсковыя сілы.

У сувязі з магчымай акупацыяй Менска на пачатку снежня 1918 г. частка беларускіх дзеячоў з А. Луцкевічам на чале падалася ўслед за адыходзячымі нямецкімі войскамі ў Вільню. Разам з А. Луцкевічам былі генерал К. Кандратовіч і палкоўнік К. Езавітаў з групай афіцэраў добраахвотнікаў.



***Антон Луцкевіч***

10 снежня бальшавікі занялі Менск і рушылі далей на захад.

Звяртае ўвагу невялікая лічба прафесійных афіцэраў у беларускім вайсковым руху, гэта было вынікам апалітычнасці кадравых афіцэраў і стомленасці. І, нават, тыя нямногія вышэйшыя афіцэры, якія, як К. Кандратовіч, добраахвотна вызначыліся на беларускім баку, часта сустракалі абвінавачванні ў кан'юнктурызме і клопаце выключна пра асабістую выгаду. Так, напрыклад, левыя папракалі Кандратовіча ў наяўнасці маёнтка Гародна Лідскага павету (31).

Пры канцы 1918 г. у Гародні Кандратовіч сфармаваў штаб - Беларускую камендатуру і 1-шы беларускі полк. Ад пачатку снежня 1918 г. да канца красавіка 1919 года полк месціўся ў Александраўскіх казармах і складаўся з пяці



***Беларускія гусары каля камендатуры ў Гародні. 1919 г.***

ротаў і аднаго эскадрона (32).

На пачатку 1919 г. генерал Кандратовіч разам з дэпутатам Дзяржаўнай думы Расіі Азнабішыным выязджае ў Парыж. У траўні гэтага ж года яны ўручылі старшыні канферэнцыі мемарандум ураду БНР і атрымалі дазвол на прыезд беларускай дэлегацыі ў Парыж. Пасля прыбыцця дэлегацыі, ён працаваў у яе складзе.

Немцы яшчэ раней, ў Вільні паведамілі ген. К. Кандратовічу, што не могуць дапусціць стварэнне літоўска-беларускага войска, аднак пасля паразы ў 1-й Сусветнай вайне іхні рэальны ўплыў на сітуацыю скончыўся. На пачатку студзеня 1919 г. ген. К. Кандратовіч і Я. Варонка атрымалі паведамленне аб тым, што Антанта прыняла пастанову аб дапамозе літоўцам і беларусам грашыма і зброяй ў арганізацыі войска для барацьбы з бальшавікамі.

Генерал К. Кандратовіч, згодна з дамовай паміж урадамі БНР і Летувы ад 11 лістапада 1920 г. камандаваў беларускім войскам, адступіўшым з Беларусі ў Летуву (33). Лістападаўскія пагадненні мелі на ўвазе таксама ўтварэнне беларускіх вайсковых адзінак, падначаленых літоўскаму галоўнаму кіраўніцтву. Войска літоўскае у тым часе знаходзілася ў зародкавым стане. Першы полк гэтага войска налічваў каля 30 афіцэраў і каля 200 салдат, а другі толькі некалькі афіцэраў і некалькі салдат. Такім чынам утварэнне беларускіх адзінак магло быць для літоўскага войска важным узмацненнем. Літоўскаму войску бракавала кадравых афіцэраў. З гэтай прычыны ген. Кіпрыян Кандратовіч на кароткі тэрмін быў прызначаны віца-міністрам народнай абароны ва Урадзе Літвы, але фактычным кіраўніком вайсковага міністэрства быў прем'ер А.Вальдэмарас (34).

Будучы на гэтай пасадзе, арганізоўваў літоўскае войска на Ковеншчыне. Маёр беларускага войска А. Ружанцаў пісаў у сваіх мемуарах: "... *віца - міністрам быў вельмі непапулярны сярод літоўцаў генерал расейскай службы К.А. Кандратовіч ... у хуткім часе генерал Кандратовіч падаўся ў дымісію (адстаўку)"* (35).



***Алесь Ружанцаў***

На момант адстаўкі, неаднаразова паранены ў баях беларускі генерал меў 61 год узросту.

Цікава, што БЭ піша, быццам Кандратовіч К.А. застаўся жыць у Парыжы, і яго далейшы лёс невядомы (3). Такую ж інфармацыю дае і літоўская гістарычная энцыклапедыя, выдадзеная ў Бостане (2). Але ж апошнія гады свайго жыцця беларускі генерал правёў на радзіме.

**5. Гародна**

Перад 1-й Сусветнай вайной, пасля пераводу ў Варшаўскую акругу, сям'я генерала купіла маёнтак Гародна ў Лідскім павеце: 500 га зямлі і лес, дзе генерал пасяліўся разам з дачкой Верай і жонкай Адай (36).

***Маёнтак Гародна мае вялікую і слынную гісторыю.***

Гародна, ў першай палове XVIII ст. было спадчыннай уласнасцю княгіні Саламеі Радзівіл з Сапегаў. У 1762 г. яна падаравала яго стрыечнаму ўнуку Людвіку Скумін-Тышкевічу (памёр у 1809 г.), жанатаму на княгіні Канстанцыі Панятоўскай (1759-1830). Кароль Станіслаў Аўгуст у Літве вырашыў абаперціся на Тышкевічаў. Адну з сваіх пляменніц, дачку кн. Казіміра Панятоўскага, кароннага падкаморыя, выдаў замуж за Людвіка Тышкевіча, для другой, Тарэзы, дачкі Андрэя Панятоўскага, аўстрыйскага фельдмаршала, выбраў Вінцэнта Тышкевіча, літоўскага ардынарыя. Людвік Тышкевіч, паслядоўна займаючы пасады віленскага цівуна, пісара вялікага літоўскага, гетмана польнага літоўскага, падскарбія вялікага літоўскага, а пасля падзелу краіны: губернскага маршалка "действительного статского советника" паступова пашыраў свае ўладанні вакол Гародна, набыўшы Перавозы і Забалаць з фальваркамі. Таксама былі пажалаваны яму каралём староства Эйшыскае, Васілішскае, Каняўскае, Радуньскае і інш. Цэнтрам сваёй рэзідэнцыі ён выбраў Гародна. Ягоная зямельная маёмасць, падзеленая на дзве вялікія зоны, складалася з 65 вёсак. Добры гаспадар – ён трымаў свае маёнткі на высокім гаспадарчым узроўні.

Пасля смерці Людвіка Скумін-Тышкевіча ўвесь гэты вялікі маёнтак атрымала ў спадчыну ягоная адзіная дачка Ганна (1779-1867). Яна была замужам за Аляксандрам Патоцкім, а потым за Станіславам Дуніным-Вансоўскім. Тастамантам ад 1867 г. перапісала Гародна сыну ад першага шлюбу М. Патоцкаму (1812-1879), пасля смерці якога ўсё перайшло ў спадчыну ў 1880 г. графу Аўгусту Патоцкаму. Напрыканцы XIX ст. А. Патоцкі прадаў Гародна рускаму генералу Асатураву, ад якога маёнтак перайшоў да графа Ігнаццева, ад яго — да генерала Кандратовіча. У той час маёнтак складаўся з 23200 дзесяцін зямлі і 15 фальваркаў, але Кандратовічы купілі толькі ягоную частку з Гароднам.

Людвік Тышкевіч, жанаты на княжне Канстанцыі Панятоўскай, дачцы князя Казіміра, подкаморага вялікага кароннага, роднага брата караля Станіслава Аўгуста, у 1775 г. чакаў прыезду караля, і, як кажа мясцовае паданне, на працягу аднаго году пабудаваў, хоць драўляны, але вельмі прыгожы двор у класічным стылі. Сядзіба пабудавана архітэктарам Ф. Эйсенам. Дом звонку не вылучаўся нічым асаблівым, але ў сярэдзіне быў бліскуча і з добрым густам аздоблены. На ўпрыгожванне сядзібы, Тышкевіч выдаткаваў вялікія сумы, запрашаючы мастакоў – дэкаратараў і майстроў, а таксама выпісваючы матэрыялы наўпрост з Парыжа. Кароль Станіслаў Панятоўскі ў Гародна так і не прыехаў, аднак двор быў закончаны і, не глядзячы на гульню лёсу, дастаяў да Другой Сусветнай вайны.

Патоцкія ў Гародна бывалі эпізадычна і таму з-за недахопу гаспадарчага нагляду і надта паспешнай будоўлі, паступова сцены пачалі нахіляцца, што запатрабавала рамонту. Ад зруйнавання сядзібу выратаваў М. Патоцкі, які аддаў загад адрамантаваць дом і ашаляваць сцены дошкамі. Гэта не ўпрыгожыла дом але забяспечыла яму доўгае жыццё. Таксама ў сярэдзіне былі праведзены работы па кансервацыі інтэр’еру.

Сядзібны ансамбль у Гародна стваралі тры будынкі: жылы палац, дом прыслугі, што стаяў насупраць, а з правага боку – мураваная капліца.

Цэнтр кампазіцыі – драўляны на высокім мураваным цокалі 1-павярховы прамавугольны сядзібны дом у стылі класіцызму (1780 г., архітэктар Ш. Цуг). Прасторны аднапавярховы сязібны дом меў франтальна выцягнутыя фасады, па цэнтры якіх вылучаліся рызаліты з чатырохкалоннымі дарычнымі порцікамі, пад галоўны з якіх па шырокіх бакавых пандусах уязджалі карэты. Трохвугольныя франтоны порцікаў запаўнялі пластычныя картушы. У сярэдзіне дом меў парадную анфіладу апартаментаў з вялізнай бальнай залай у цэнтры. У падвале, у які вялі тарцовыя лесвіцы, знаходзіліся гаспадарчыя памяшканні і жыллё прыслугі. Строгі і аскетычны знешні выгляд будынка кантраставаў з багаццем і пышнасцю інтэр’еру дома, аформленага з выкарыстаннем палатняных шпалер, тукавых панэляў, пазалочаных барэльефаў, медальёнаў, гірлянд, кветак, ваз з арнаментным роспісам, кафляных грубак і камінаў, жырандоляў у стылі Людовіка XVI з крышталю з пазалочанамі бронзавымі апраўамі. Захаваліся фотаздымкі 1939 г., па якіх можна ўявіць сабе выгляд дома на працягу 19-20 ст. Самы вялікі пакой займала бібліятэка. Яна аднachасова служыла памяшканням для гульні ў карты і змяшчала 4 кніжныя шафы і бронзавы, з мармуровымі упрыгожваннямі стол для гульні ў карты, 14 карцін, 4 гіпсавыя бюсты (36). Летам 1944 г. пасля бою аддзела АК з немцамі, акаўцы запалілі палац, бо баяліся, што ў ім будзе размешчана залога надыходзячай Чырвонай Арміі.



***Гародна. Малюнак Напалеона Орды.***



***Капліца Тышкевічаў у Гародна.***

* * *

Вось у гэтым прыгожым маёнтку і прайшлі апошнія гады жыцця беларускага генерала К. Кандратовіча.







***Гародна.***

Пра гэтыя гады распавёў былы памочнік садоўніка маёнтка Струкель Уладіслаў Янавіч (1916 г. нар. у 1939 г. жаўнер, абаронца Варшавы) (37).

Сям'я Кандратовічаў вызначалася інтэлігентнасцю і добразычлівасцю да людзей. Сам генерал карыстаўся расійскай, беларускай, польскай мовамі ў побыце, у залежнасці ад абставін. Можна меркаваць, што адносіны з навакольнымі абшарнікамі не склаліся, і блізкае



***Парк у Гародна.***

сяброўства ўсталявалася толькі з уладальнікам сядзібы Малое Мажэйкава інжынерам А. Брахоцкім. Госці прыязджалі з Варшавы і Парыжа, дзе жылі сваякі жонкі Ады. У маёнтку быў аўтамабіль, які бачны на адным з фотаздымкаў. Дачка Вера атрымала хатнюю адукацыю, выйшла замуж за мастака з Англіі, іспанца па паходжанні, Трыстама Рэйні (Tristam Reiney), з другой паловы 30-х і да смерці ў 1988 г. жыла ў Англіі.



***Ада Кандратовіч каля свайго аўто.***



***Вера Кандратовіч.***



***Вера і Ада Кандратовіч***

У жніво, жонка Ада сустракала кожныя першыя вазы з падзякай да сялян і келіхам гарэлкі. Сам Струкель, тады яшчэ малады хлопец, атрымліваў заробак у памеры 90 пудоў жыта ў год плюс корм для жывёлы і бульбу, колькі трэба. Асабліва жонка генерала сачыла за прыгажосцю і парадкам у парку, сваім доме і ў дамах, дзе жыла прыслуга. Людзі, якія працавалі ў Кандратовічаў, атрымоўвалі безпрацэнтныя крэдыты на развіццё гаспадаркі, і, калі гаспадары бачылі, што грошы ўкладзены з розумам, крэдыт спісваўся.

Апошнія гады Кандратовіч правёў у інвалідным крэсле, хварэючы стратай каардынацыі руху. Ён не мог хадзіць, і жонка наняла сталую прыслугу. Памёр генерал Кандратовіч 31 кастрычніка 1932 г. і быў пахаваны ў тым самым



***Аўтэнтычная пліта на магіле Кіпрыяна Кандратовіча, вывезеная з Ліды***



***Помнік на магіле Кіпрыяна Кандратовіча ў Воранаве, устаноўлены ў 2004 годзе***

мундзіры, у якім быў паранены у 1905 г. Пахаванне адбылося **на Лідскіх праваслаўных могілках.**

17 верасня 1939 г. Ада Кандратовіч вымушана была з'ехаць праз Летуву да дачкі ў Англію. У жніўні 1998 г. яе ўнук прыязджаў на Беларусь і перазахаваў труну генерала на новых могілках у г. п. Воранава. А урну з часткай праху сваёй маці, якая пражыла лепшыя гады маладосці ў маёнтку Гародна, пахаваў у прыгожым кутку парку, каля былой альтанкі, на крыжы было напісана **"Вера Киприяновна Рейни (Кондратович) 1912-1988"**. У траўні 2000 г. труна з



***Помнік на магіле Веры Кандратовіч у Гародна***

парэшткамі генерала была перазахавана каля царквы ў Воранаве.

Зараз унукі і праўнукі генерала жывуць у Англіі і ЗША.

А ў Беларусі да магілы генерала Кіпрыяна Кандратовіча прыходзяць тыя, каму дарагія ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі, за якія ён змагаўся.



***Дэлегацыя з Ліды на магіле Кіпрыяна Кандратовіча 25 сакавіка 2004 г.***



***Дэлегацыя з Ліды на магіле Кіпрыяна Кандратовіча 25 сакавіка 2005 г.***

***Літаратура:***

1. Czeslaw Malewski. Rody szlacheckiena Litwie w XIX wieku. Powiat Lidzki. Wilno, 2005. S.148.
2. Lietuviu enciklopedija, Boston, T.12. S.318-319.
3. БЭ, Т.7. С.578.
4. “Наша слова”, № 9 (596), № 10 (597), № 11 (598), 2003 г.
5. А.А. Керсновский. История Русской армии. — М.: 2000, Т. III, С.181.
6. о. Гергий Шавельский. Воспоминания Последнего Протопресвитера русской армии и флота. Том I. Издательство им. Чехова, Нью-Йорк, 1954. – С.155.
7. Русско-японская война 1904-1905 гг. Спб., 1910, т. II, С.10-12.
8. Куропаткин А.Н. Русско-японская война, 1904-1905: Итоги войны. — СПб.: Полигон, 2002. С.-309.
9. История Русско-Японской войны. Том I-II. Редакторы–издатели: М. Е. Бархатов и В. В. Функе. С.-ПЕТЕРБУРГ, 1907.
10. А.А. Игнатьев. 50 лет в строю. – Петрозаводск, 1963. – С. 294.
11. http://george-orden.nm.ru/ordgrgjap.htm
12. [ http://zerrspiegel.orientphil.uni-halle.de/t447.html ] Фонд-1 (канцелярыя Туркестанскага генерал-губернатара), опись-9, дело-256.
13. К.А. Залесский. Первая мировая война. Биографический энциклопедический словарь. М., 2000. – С.423.
14. А.А. Керсновский. История Русской армии. — М.: 2000, Т. III, С.172-200.
15. Такман Барбара. Первый блицкриг. – М.:1999, С.20.
16. Восточно-Прусская операция: Сборник документов. М:, 1939. С. 9.
17. Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция: Сборник документов. М:, 1939. С. 587-593.
18. История первой мировой войны 1914-1918 гг. М:, 1975.С. 161.
19. Восточно-Прусская операция: Сборник документов. М:, 1939. С. 12.
20. Восточно-Прусская операция: Сборник документов. М:, 1939. С. 172.
21. Такман Барбара. Первый блицкриг. – М.:1999, С.306-358.
22. Восточно-Прусская операция: Сборник документов. М:, 1939. С. 286.
23. Восточно-Прусская операция: Сборник документов. М:, 1939. С. 293.
24. Восточно-Прусская операция: Сборник документов. М:, 1939. С. 297.
25. [ http://koleso.by.ru ] Солженицын А.И. Август Четырнадцатого. Глава 36.
26. Евсеев Н. Ф. Августовское сражение в Восточной Пруссии 1914 г. М., 1936.
27. Богданович П.Н. Вторжение в Восточную Пруссию в августе 1914 г.; Воспоминания офицера генерального штаба армии генерала Самсонова. Буэнос-Айрес, 1964. С. 199-200.
28. Восточно-Прусская операция: Сборник документов. М:, 1939. С. 310.
29. “Наша слова” № 10(645), 2004 г.
30. В. Савіцкі. Беларускае войска: ад ідэі да спроб рэалізацыі (1917 г.) // Беларускі гістарычны часопіс. №4 – 1994 г., С.60 – 61.
31. O. Jatyszonek. Biaioruskie formacje wojskowe 1917-1923. Bialystok, 1995.
32. Спадчына. № 5 – 1995 г., С. 26.
33. Аўген Калубовіч. Крокі гісторыі. – Мн., 1993. – С.32.
34. Язэп Найдзюк. Іван Касяк. Беларусь учора і сяння. – Мн., 1993. – С.230.
35. А. Ружанцаў. Беларускія войскі ў Літве (1918 – 1920) // Спадчына. №4 – 1993 г., С.23.
36. Roman Aftanaz. Dzieje rezydencji. Tom 4. Wroclaw, 1993.– S.122 – 139.
37. Спадчына. № 1, 2002, С. 161-166.

***Раздзелы 1, 2, 3, 4 - Лаўрэш Л.***
***Раздзел 5 - Лаўрэш Л. разам з Круцікавым У.***

## *Гісторыя лідскіх вуліц і пляцаў*

# Незабыўная вуліца Сувальская 30-х гадоў XX стагоддзя

Вуліца Сувальская (цяпер Савецкая) у міжваеннае дваццацігоддзе была галоўнай вуліцай горада Ліды, якая вызначала яго аблічча.

Поўная назва яе: **вуліца імя Сувальскага палка**. Такая назва ёй нададзена для ўшанавання 41-га палка Сувальскіх стральцоў, якія вызначаліся ў баях за Ліду ў 1919 і 1920 гадах.

Да аднаўлення незалежнасці гэтая вуліца называлася Віленскай, бо па ёй пралягаў даўнейшы паштовы тракт, які злучаў Мір і Наваградак з Вільняю. Даўжыня вуліцы Сувальскай ад падножжа замка Гедзіміна да перасячэння з чыгуначнай каляёю на Маладзечна перавышала 1,5 км. Вуліца была брукаваная, вымашчаная палявым каменем, зрэдку абсаджаная дрэвамі.

У міжваеннае дваццацігоддзе на вуліцы Сувальскай знайходзіліся найважнейшыя ўстановы, святыні і кінатэатры. Вуліца была мейсцам шэсцяў, парадаў (фота 1), гулянняў, якія адбываліся з нагоды дзяржаўных урачыстасцяў. У гэты час вуліца набывала святочны выгляд. Дамы былі ўпрыгожаны сцягамі, вокны і балконы – зелянінаю і партрэтамі дзяржаўных дзеячаў, а вітрыны крамаў прыгожа ілюмінаваліся. Вуліца была таксама любімым месцам пагулянак жыхароў і спатканняў моладзі. А самае важнае, што на Сувальскай можна было купіць усё, чаго чалавек пажадае, а не толькі славутыя "мыдла і павідла".

Вуліцу Сувальскую трыццатых гадоў цікава паказаў Юзаф Кардаш ( "Lida pzawdziwa" Olsztyn, 1997). Да яе вяртаецца ва ўспамінах з дзяцінства Я. Ярмант (Яўгенія Ярмантовіч) у выдадзенай па-расейску кнізе "В тени замка Гедимина" (Ліда, 1995). Некалькі старонак апісанню вуліцы Сувальскай і рынка прысвяціў Уладзіслаў Нарушэвіч у сваёй кніжцы ("Wspomnienia lidzianina" (Warszawa, 2001), якая ўсцешвае вялізарным поспехам. Сувальскую 20-х гадоў XX ст. рэалістычна паказаў Ежы Путрамент ("Паўстагоддзя – маладосць", Warszawa, 1964).

На старых фатаграфіях і паштоўках най-



***1. Вайсковы парад на вуліцы Сувальскай***

часцей можна ўбачыць абодва касцёлы, рынак, фрагменты гандлёвага цэнтру.

Пэўную дакументальную вартасць маюць адносна нешматлікія аб’явы і рэклама, змешчаныя перш за ўсё ў “Ziemi Lidzkiej” і “Zyciu Nowogrodskim”. Гэта можа быць адзіным следам мінуўшчыны. Значна больш іх было ў мясцовай прэсе, якая выдавалася на мове ідыш. Яны сведчаць пра дамінантную ролю яўрэйскай супольнасці ў дзелавым жыцці.

Ліда была тыповым крэсавым горадам, які па гадах нацыянальнай няволі з цяжкасцю выбіраўся з бяды і занядбання.

У 1939 г. рэдактар Уладзіслаў Абрамовіч пісаў: *“Сам цэнтр у наш час мала адрозніваецца ад выгляду перадваеннага* (г. зн. перад I Сусветнай вайной – заўв. Л.Ц.), *былі праведзены ў парадак толькі вуліцы, некалькі разоў перабрукаваны, пакладзены тратуары, і пабудаваны некалькі новых камяніц, якія архітэктурна моцна кантраставалі з астатнімі пабудовамі. Старэйшыя будынкі з канца XIX і пачатку XX ст., якія будаваліся без выразнага стылю, перацярпелі нязначныя пераробкі. Са сценаў і аконных абрамовак прыбраны цагляныя карнізы, накладзены гладкі тынк і абноўлены вітрыны крамаў” (“Ziemia Lidzka”, 1939 /4-5).*

*“Вуліца Сувальская,* - піша Я. Ярмант, - *была густа забудавана з абодвух бакоў. Паміж разнастайнымі крамамі і крамкамі амаль не было прамежкаў, так блізка суседнічалі яны паміж сабой. Стваралася ўражанне вялікага гандлёвага цэнтра. Амаль ўсе крамы былі ўласнасцю яўрэяў. У маёй памяці захаваліся толькі два славянскія прозвішчы: Вярсоцкі і Радзевіч. Большасць фірм абслугоўчых, у тым ліку кравецкія майстэрні – мужчынскія і дамскія належалі яўрэям”*. Між іншым аўтарка ўспамінае школы, кінатэатры, бібліятэкі. Без перавелічэння піша пра багаты асартымент крамаў і культурнае абслугоўванне кліентаў.

Даўнейшыя жыхары Ліды найчасцей успамінаюць размешчаныя на вуліцы Сувальскай касцёлы, кінатэатры, школы, калегіюм ксяндзоў піяраў, “Амерыканку”, краму Голдвасара, Канеўскага, Вінаградава, Вярсоцкага, Радзевіча, Мізгера і некалькі іншых.

На пераломе дваццатых і трыццатых гадоў на вул. Сувальскай знаходзілася 20 галантарэйных крамаў, 14 з вырабамі тэкстыльнай прамысловасці, т.зв. мануфактура, 13 з таварамі спажывецкімі, 9 з т. зв. таварамі каланіяльнымі, 6 піўных, 5 крамаў з абуткам, 5 цукерняў, 3 кнігарні, 3 крамы з вяндлінамі (вэнджанасцямі), 3 з напоямі алкагольнымі, 2 з мэбляю і г.д., былі таксам 4 банкі.

Свае паслугі прапановаўвалі: краўцы, кушняры, шаўцы, цырульнікі, ювеліры, майстры гадзіннікавых спраў, фатографы, бюро даведак. З вул. Сувальскай былі звязаны прозвішчы 10 лекараў розных спецыяльнасцяў **(С. Казубоўскі, В. Галубоўскі (Golembewski), Г. Гарновіч, Я. Ялец, З. Ястрэмбскі, Э. Ёдка, Р. Кантар, Ш. Каплан, Э. Рэнерт, Р. Зарцын)**, 4 фельчараў, 5 дантыстаў, 2 ветэрынараў.

Павернутая да жыцця пасля страшных злачынстваў, папялішчаў і знішчэнняў, выкліканых II Сусветнай вайной, даўняя вуліца Сувальская змяніла свой выгляд да непазнання. Яна робіць ураження вуліцы прасторнай і меней заселенай. Няма ўжо колішняй забудовы з аднапавярховых камяніц і драўляных дамоў, такіх характэрных для старой Ліды. Нанава пабудаваныя дамы з’яўляюцца сведчаннем тэндэнцый, якія дамінавалі ў савецкай архітэктуры 60-х гадоў. У незабудованых мейсцах узніклі скверы. А ў іх ушанаваны гістарычныя асобы і палеглыя байцы ды партызаны. Знесены агароджы, якія атачалі касцёлы. Праезджая частка атрымала асфальтавае пакрыццё, была выраўнена, пашырана і падвышана. Галоўная вуліца горада. На скрыжаванні Савецкай з іншымі вуліцамі працуюць светлафоры. Зараз няма магчымасці пералічыць усе змены ў эканамічнай інфраструктуры за некалькі дзесяткаў гадоў.

Не прэтэндуючы на абсалютную дакладнасць паспрабуем прынамсі часткова нанава адкрыць перадваенную Сувальскую, прывязваючы яе да сённяшняй забудовы вул. Савецкай.

Пачнём ад левага боку, г.зн. ад пачатку вул. Сувальскай аж да адходзячай улева вул. 3 траўня (Ленінская). Правым бокам пачатак Сувальскай прылягаў да скверу пры Пляцы Славы (зараз Пляц 600-годдзя горада), што відаць на фота 2.

Блізка ад збегу вул. Сувальскай з вул. Мацкевіча пад № 1 знайходзілася **Гарадская ўправа (магістрат)**. На чале апошняй управы з 1935 г. быў бурмістр **Юзаф Задурскі**, пасол на сойм у 1935-38 гадах. Віца-бурмістрам быў магістр права **Вітольд Ёдка**. У гарадской радзе ў 1938 г. засядалі 24 асобы.



***2. Пачатак вуліцы Сувальскай - Пляц Славы***

У доме № 3 размяшчаліся: тэхнічны аддзел Гарадской управы, гарадская бібліятэка і рэдакцыя **"Ziemi Lidzkiej"**, перанесеная ў 1939 г. з вул. Замкавай, бібліятэка і чытальня працавалі ў будзённыя дні. Зборы бібліятэкі, пачаткам якой былі дарункі былога бурмістра **Рудольфа Бергмана**, налічвалі звыш 9000 пазіцый, з якіх не менш 25% прыпадала на яўрэйскую літаратуру. Бібліятэкай кіравала пані **Анэля Рашкоўская**.

Рэстаран **"Паляўнічы" ("Mysliwska")**, якім кіравала **пані Баркоўская**, знайходзіўся па № 5. Рэстаран вызначаўся ўзорнай кухняй, добра ўкамплектаваным буфетам, смачнымі і здаровымі абедамі і разам з тым даступнымі цэнамі. На рагу быў шынок, калісьці яўрэйская карчма.

Прыблізна на месцы, дзе былі дамы № 3,5,7, стаіць гандлёвы дом "Юбілейны" (Савецкая, 1).

Паміж дамамі № 5 і 7 знаходзілася між іншым **цукерня Канопкі** з забаўляльнаю рэкламаю кручанага марожанага Пата і Паташона, крама з цацкамі **Канцаленбогена**,крамы з дзіцячай вопраткай. За імі ў двары ў старым доме **Д. Мюлер** меў фотастудыю.

У прылеглым доме № 9 размяшчаўся гатэль **"Гранд"** з прыгожа зашклёным уваходам. Гатэль быў уласнасцю **Б. Ландо,** таксама, як і суседняя крама. У гэтым жа доме размяшчалася каўбасная крама **А. Вярсоцкага**, якая прапаноўвала *"тавар заўсёды свежы і найлепшага гатунку"*.

У суседнім доме, пад № 11, крамай з каланіяльнымі таварамі, вінамі, гарэлкай і лікёрамі кіраваў Міхал Баркоўскі. Пра яго канспірацыйную дзейнасць у 1939-40 гг. пісала "Ziemia Lidzka" (2000/1).

Названыя больш-менш поўна крамы знаходзіліся насупраць фарнага касцёла. За імі ў цокальным мураваным будынку (Сувальская, 13) знаходзілася сядзіба Управы дзяржаўнага скарбу, акцызу і манаполіі (фота 3).



***3. Управа дзяржаўнага скарбу, акцызу і манаполіі***

Рухаемся далей у кірунку перасячэння з вул. 3 траўня, у глыбіні спатыкаем Дзяржаўнае староства (Сувальская, 15). Яно не прылягала да самой вул. Сувальскай. Ад яе Староства аддзяляў невялікі Пляц Збавіцеля. Староства размяшчалася ў даўніх памяшканнях Кляштара абутых кармелітаў. Пад будынкам Староства было выкапана бомба– і газасховішча, якое мела ўваход у будынку Староства, а другі з боку Скарбовай управы. Старастамі лідскімі ў 30-я гады былі: **Генрык Багаткоўскі, доктар Юзаф Чушкевіч, Тадэвуш Міклашэўскі** і апошнім з канца 1937 г. быў **Станіслаў Гусоўскі** (Gonssowski). На месцы, якое займалі Скарбовая ўправа і Староства, можна прыняць, што сёння знаходзіцца музычная навучальня (Савецкая, 3). На скрыжаванні вуліц Сувальскай і 3 траўня стаяў вышынёю звыш 2 метраў макет авіяцыйнай бомбы, якая рэкламавала Лігу супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны. На рагу вуліц 3 траўня і Сувальскай 19 (зараз Савецкая, 5) у цокалі была цукерня **"Амерыканка"**, якая належала **Б. Будыне** і была найбольш вядомым рэстаранам, які наведвала інтэлігенцыя. Асабліва ўпадабалі яго афіцэры мясцовай залогі.

*"У "Амерыканку", лепшы шынок, уваход для шарагоўцаў і падафіцэраў быў загадам па палку забаронены"*, - пісаў **Юзаф Рыбінскі**, які адбываў вайсковую службу ў 5 лётным палку ("Сонца на мяжы", Беласток, 1983). У 30-х гадах над "Амерыканкай" на другім паверсе дзейнічала **Кола Полек** (Гурток полек), працавала закусачная з продажам спіртных напояў на разліў. Вечарамі часаправаджэнне рабіла больш прыемным музыка.

Далей, у доме № 19 знайходілася крама з тканінамі Б. Ковенскага і зубны кабінет **Мойшы Дварэцкага**, а таксама майстэрня па вырабу штучных зубоў і фарфаравых каронак.

На фота 4 з канца 20-х відаць адрэзак Сувальскай ад вул. 3 траўня да рынку. З левага боку відзён уваход у "Амерыканку", а над ім шыльда Каапературыўнага Народнага банка. Банк той пазней быў перанесены ў новапабудаваную сядзібу пры вул. Перацкага, 1 (вугал 3 траўня).

Пара малых крамак аддзяляла "Амерыканку" ад крамы **М. Слуцкага**, якая вяла продаж



***4. Вуліца Сувальская ад скрыжавання з вуліцай 3 траўня (Ленінскай) у бок рынку***

папяровых тавараў, а таксама лістоў для рам. Слуцкі праславіўся, як вядомы ў Лідзе выдавец паштовак (“Замак Гедзіміна”, “Касцёл айцоў піяраў”, “Рынак”, “Вуліца Сувальская”, “Вуліца замкавая” “Дзяржаўная гісназія” “Дзеканка”. У Слуцкага можна было набываць віды з часоў I Сусветнай вайны з падпісамі ра рускай і нямецкай мовах (напр. “Lida, Wilnaerstrasse - Kaffee Deutschland”, “Szene auf den Wochenmarkt in Lida, Russland”.) Гандаль такімі відамі не падабаўся мясцовым уладам.

Фірма **“Браты Вінаградавы”** (Сувальская, 21), якая існавала ад 1861 года, вяла гандаль спажывецкімі і каланіяльнымі таварамі, вінамі і лікёрамі. Пры краме працаваў рэстаран **“Брыстоль”**, адзін з лепшых у Лідзе.

Пад № 21 дзейнічалі таксама дзве меншыя фірмы. **“Электрарад”** прадаваў электратэхнічныя тавары і стэрэафанічныя прыёмнікі, а **Л. Златковіч** прадаваў дамскія футры і капелюшы.

Той самы адрас, г. зн. № 21, у двары, у завулку, мела адкрытая ў 1936 г. **“Варшавянка”**, першаразрадны рэстаран с кабінетамі, які славіўся выдатнаю кухняю. **Ігнацы Расіконь**, уладальнік “Варшавянкі”, штодзённа запрашаў на дансінг.

Электратэхнічныя тавары, а, асабліва, модныя лямпы “Tungsram”, прадавалі **браты М. і М.Палячакі**, (Сувальская,23). Побач **А. Арановіч** аказваў паслугі ювелірныя і па рамонту гадзіннікаў.

Чатыры дамы за “Амерыканкай” (прыблізна Савецкая, 9) знаходзілася **“Старая аптэка”**. Уладальнікам аптэкі быў **Левінсон**. Аптэка гэтая размяшчалася ў доме Р. Бергмана, якому раней належала аптэка. Яе выгляд паказаны на фота 5. (1927 г.).




***5. Старая аптэка***

У цукерні (Сувальская, 35) можна было скарыстацца з тэлефона-аўтамата.

Далей за крамай з мэбляй і іншымі таварамі пачынаўся рынак (цяпер Пляц Леніна), а на ім шэраг крамак, якія мелі адрас Сувальская-Рынак.

Па адрасу Сувальская, 47 касметычныя, перавязачныя і фотаграфічныя тавары прапаноўвала парфюмерная крама **“Астра” Ё. Барана**.

Крама гатовай вопраткі і галантарэі дамскай і мужчынскай **“Галіна” Міхала Слюсарчака**, адкрытая ў 1935 г, займала адно з памяшканняў па Сувальскай, 55.

Там жа знаходзілася вялікая крама **Якуба Вінера**, перанесеная пасля пажару з-пад кінатэатра **“Нірвана”**, які гандляваў *“фабрычнай гатовай вопраткай: дамскай і мужчынскай, плашчамі, футрамі, а таксама ўсякімі мануфактурнымі матэрыяламі наймаднейшых колераў і ўзораў па цэнах вельмі даступных”*.

Там, дзе рынак сваім канцом прылягаў да вул. Сувальскай, пад № 59 у вуглавым доме прыблізна насупраць уваходу ў кінатэатр **“Эра”**, знайходзілася, адкрытая ў 1923 г., крама **Яна Межвы**, інваліда, старшыні **Саюза вайсковых інвалідаў у Лідзе** і чальца Гарадской Рады (ён быў без рук). Быў там багаты выбар він і гарэлкі, тытунёвых вырабаў, а таксама слодычы **Ведла і Фухса**. Па суседству быў кааператыў **Суполкі спажыўцоў**, кіраўніком якога быў **Арэхва**. Той самы адрас, г.зн. № 59, але бліжэй да рынку мела крама, што належала **Г. Нойману і М. Рэзніку**, купцам, якія гандлявалі мануфактурнымі таварамі (шаўковымі і баваўнянымі тканінамі).

За крамай Межвы была піўная, а некалькі далей аптэка **Ізраеля Стукатара** (Сувальская, 63, фота 6). На тых дамах уласна закончваўся гандлёвы цэнтр левага боку вул. Сувальскай. За аптэкай на рагу вул. Школьнай (зараз Кірава) знаходзіўся гатэль **“Варшаўскі”**. Насупраць касцёла айцоў піяраў звяртаў на сябе ўвагу дом лекара-акуліста **Р. Зарцына.**



***6. Вуліца Сувальская. Першы дом злева - аптэка Стукатара.***

Далей размяшчаліся пераважна драўляныя жылыя дамы, у якіх зрэдку трапляліся рабочыя памяшканні.

Да сёння захаваліся толькі два дамы, пабудаваныя ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Адзін з іх двухпавярховы, які мае адрас Савецкая, 23. Другі дом цокальны з калонамі, у

якім размяшчаўся **Лідскі школьны інспектарат**, а зараз Аддзел працаўладкавання. Мае адрас Савецкая, 31.

У доме Сувальская, 81 **В. Якубоўскі** меў **слясарна-механічную майстэрню**.

**Грамадская страхавая каса** размяшчалася ў доме пад № 83.

Далей стаяў адрознага выгляду малы, мураваны будынак, у якім знайходзілася крама **"Разам" ("Spolem")**.

Пад № 99 **"Браты Жыжэмскія і Левін"** выраблялі лямец, пралі воўну, качалі сукно.

**Пётр Бінкевіч** на Сувальскай, 127 займаўся рамонтам рухавікоў, паравых машын і сельскагаспадарчых прыладаў.

Крама **Зыгмунта Капроўскага**, яна знаходзілася пад № 133, прапаноўвала вэнджанасці.

Спажывецкія тавары, часопісы і газеты можна было набываць у **В. Сушынскай** па тым самым адрасе.

За адыходзячай улева вул. Крупаўскай (зараз 8 сакавіка) расцягнулася незабудаваная пляцоўка, а за ёй былі і захаваліся да гэтага часу **праваслаўныя могілкі** з драўлянай цэркаўкай. У той парафіяльнай святыні капланскія паслугі выконваў **бацюшка Багаткевіч**.

Яшчэ далей, у канцы вуліцы Сувальскай, пад № 179, знаходзілася пабудаваная ў дваццатых гадах, **гарадская электрастанцыя** і некалькі домікаў. А пад № 189 размяшчалася **Добраахвотная пажарная дружына**.

Правы бок вул. Сувальскай браў свой пачатак ад вул. Мацкевіча і невялікай **шавецкай майстэрні Антонія Кузюмы і Антонія Хведанка**, якая працавала з 1930 г. **Каса Скарбовай управы**, Сувальская, 4, прылягала да скверу на Пляцы Славы. Да пляцу прылягаў фарны **касцёл Узвіжання Св. Крыжа**. Касцёл, пабудаваны ў стылі позняга барока, быў атачаны мураванай агароджай, а сваім фасадам быў некалькі адсунуты ад вуліцы. Шлях да касцёла адкрывалі шырокія двухстворкавыя ўязныя вароты, якія дамінавалі ў муры. З абодвух бакоў ад іх знаходзіліся вузейшыя ўваходы для вернікаў.

Унутры касцёла на адной з калонаў у 1933 г. была прымацавана мемарыяльная дошка ў памяць 250-годдзя перамогі пад Венай. Дошка тая захавалася да сёння.

Шматгадовыя капланскія паслугі ў гэтым касцёле аказваў **пробашч і дзякан Гіпаліт Баярунец** (1872-1946), вікарыем быў **Лявонці Касперак**, каплан 77-га палка пяхоты Ковенскіх стральцоў, які загінуў у верасні 1939 г.

За касцельным мурам з левага боку стаяла **званіца**. А побач з ёю шапік з прадметамі рэлігійнага культу.

Трохі далей, ідучы ў кірунку кінатэатра **"Эдысон",** пад № 6 была кнігарня **Сабіны Шкоп** альбо **Марыі Шкоп**. Заснаваная ў 1907 г., кнігарня мела турыстычны аддзел, а таксама прадавала і прадметы рэлігійнага культу. Сёння паблізу таго месца стаіць помнік Ф. Скарыну.

**Купецкі банк** знайходзіўся пад № 10.

Проста ў тарцы вуліцы 3 траўня (сённяшняга праезду ад вул. Савецкай да вул. Качана тады не існавала) па адрасу Сувальская,12, знайходзілася крама **Ёселя Ружанскага**, які прадаваў швейныя машыны, равары, музычныя інструменты і радыёпрыёмнікі.

Перад самым кінатэатрам "Эдысон" знайходзілася крама **Л. Цвайфуса** з самымі рознымі каланіяльнымі таварамі, паўднёвымі пладамі і слодычамі.

У старой двухпавярховай камяніцы 19-га стагоддзя, там дзе сённяшні сквер, размяшчаўся **кінатэатр "Эдысон"**. Яго ўладальнікам быў **Натан Левін**, які называўся дырэктарам. Яго супольнікамі былі **М. Альканіцкі і А. Мяснік**.

Гэта быў кінатэатр з балконам і буфетам. Паказу фільмаў звычайна папярэднічала надпраграма (часопіс) ПТА (Польскага тэлеграфнага агенцтва). А вячэрнім сеансам нярэдка папярэднічала рэвю (кінаагляд). У "Эдысоне" паказвалі *"лепшыя фільмы гэтага часу з моцным гукам"* і т.д. праграмы мяняліся прыблізна штотыдзень.

Так, напрыклад, у акрэсе 12 сакавіка – 8 красавіка 1939 г. на экране гэтага кінатэатра высвечваліся фільмы: "Тыран", "Вязніца без қратаў", "Каханне ў джунглях", "Таямніца Чырвонага мора". У той самай камяніцы мелі краму **сёстры Бердаўскія**, якія гандлявалі дамскай галантарэяй.

Побач з кінатэатрам працавала друкарня **Я. Каплінскага** (фота 7).



***7. Друкарня Каплінскага***

Далей за кінатэатрам і друкарняй на адрэзку Сувальскай аж да вул. Лідскай (зараз Таўлая), дзе сёння знайходзяцца: музычная школа, стэла ў гонар палеглых вызваліцеляў і партызанаў, а таксама кіно "Кастрычнік", цягнуўся цэлы шэраг самых розных галін дробных

прадпрыемстваў, частку якіх, нават, немагчыма ўспомніць у ўпарадкаванай чарговасці.

Знакамітая фотастудыя належала **А. Глаўберману.**

Тавары каланіяльныя і слодычы прапаноўваў у немалым выбары **Далінка**.

Вуглавую краму (рог Сувальскай і Лідскай, сёння Савецкай і Таўлая) з абуткам меў **С. Шварц.**

**Шымон Пупко** разам з сынамі, займаючы участак з № 20, гандляваў будаўнічымі матэрыялямі і вырабляў кафлю, канкуруючы з дзвюмя іншымі кафлярнямі.

На рагу вул. Сувальскай і Камерцыйнай размяшчаўся гатэль **"Камерцыйный"** і невялікая **кнігарня.**

**Цукерніку** належала вялікая цукерня на Сувальскай, 30, якая прапаноўвала пышныя пірожныя "макагігі", булачкі з мёдам, макам і г.д., займала памяшканне ў цокалі (крама) і на паверсе, дзе былі пастаўлены столікі, фартэпіяна, а госці на мейсцы маглі карыстацца прэсай. У цукерні быў тэлефон-аўтамат.

На фота 8 лепш відзён фрагмент правага боку вул. Сувальскай які ідзе ў бок Фарнага касцёла. Той самы бок, але ў супрацьлеглым кірунку паказаны на фота 9.



*8. Вул. Сувальская*



*9. Вул. Сувальская*

Прыблізна насупраць "Старой аптэкі" ў 1930 г. **З. Гольдвасар** адкрыў **"Магазін на еўрапейскі ўзор"**, у якім прапаноўваў кліентам швейныя машыны, равары, сепаратары, грамафоны, патэфоны і самыя розныя музычныя інструменты, такія, як скрыпкі, гітары, мандаліны, балалайкі, гармонікі, а таксама грамафонныя пласцінкі і запасныя часткі.

Паміж вуліцай Пераца і Лідскай была **малочная крама**.

**Народны яўрэйскі банк** быў размешчаны пад № 40. Там жа знаходзіўся і **Лідскі аддзел Аб'яднання тэкстыльных прадпрыемстваў у Лодзі** (горад ў Польшчы) **К. Шайблера і Л. Грохмана**.

Пад № 42 знаходзіўся дом, збудаваны ў першай палове XIX ст. у старасвецкім стылі. Гэта быў даўні гмах суда. Пад тым жа адрасам размяшчалася **"Хрысціянская крама абутку" Юзафа Ліпінскага**, які прадаваў абутак уласнага вырабу: жаночы і мужчынскі, у вялікім выбары і па даступнай цане.

Фабрыка галёшаў і гумовага абутку "Ардаль" мела тут свой **фабрычны склад** (Сувальская, 48).

Той адрэзак правага боку Сувальскай (ад Лідскай да бровара) складаў яшчэ прадаўжэнне гандлёвага цэнтра. Яго фрагмент ад вул. Лідскай і далей прадстаўляе фота 10.



*10. Вул. Сувальская ад вул. Лідскай (Таўлая) ў бок касцёла піяраў*

У доме № 52 размяшчалася крама славутай механізаванай вытворчасці вэнджанасцяў **Андрэя Радзевіча**, якая дзейнічала ад 1918 г., побач знайходзілася крама гандлёвай **Цэнтралі малочных кааператываў.**

У суседням доме з № 54 **кааператыў "Адзінства"** прадаваў гатовы абутак. А пры краме працавала абуткавая майстэрня.

Заснаваная ў 1937 г. **слясарна-такарная і механічная майстэрня Я. Няцецкага** займала адно з памяшканняў дома № 58, збоку знаходзілася **крама з абуткам фірмы "Баця"** і крама спажывецка-каланіяльная.

Камяніца з № 58 была вядомая тым, што за брамаю ў падворку знайходзіўся **кінатэатр "Эра"**. Аднак раней на тым участку, які належаў **Фларэнціну Длускаму**, стаяў гмах **кінатэатра "Нірвана" Ябланоўскага.**

Пра тое, як часта мянялася праграма можна прапанаваць ацаніць на падставе назваў фільмаў, якія ішлі ў студзені і лютым 1930 г.: "Дама пад маскай", "Мануляску – джэнтэльнен узломшчык", "Дзікае каханне", "Іх чацвёра", "Горад без жанчын", "Крыстына", "Грэшнае каханне" (польскі), "Сон пра каханне", "Бульварны матыль". У зале "Нірваны" арганізоўваліся таксама сходы, урачыстыя паседжанні, напр., з нагоды Свята Працы. На сцэне выступалі з гастролямі знакамітыя артысты. Летам 1932 г. "Нірвана" згарэла. Агонь паглынуў таксама і суседнія крамы.

На месцы "Нірваны" быў збудаваны сучасны кінатэатр "Эра". Аднак уладальнікам "Эры" быў паляк **Тамашэвіч**. Рэпертуар фільмаў, якія паказваліся, імпанаваў.

"Эра" мела найвялікшую глядзельную залу ў Лідзе, была даступна для арганізацыі ўрачыстасцяў з розных нагодаў, а таксама мітынгаў, напр., штрайкаваўшых работнікаў "Ардалю" у 1936 г. Тою залаю карысталіся таксама папулярныя артысты польскай сцэны. Кіно "Эра" знаходзілася прыблізна за цяперашняй бібліятэкай імя Я. Купалы (Савецкая, 16).

Некалькі далей, праз адзін або два дамы была невялікая **кнігарня. Р. Матэцкай.**

У камяніцы № 64 размяшчалася **вайсковая кнігарня В. Пухачэўскага**, а пад № 66 была **крама з капелюшамі Б. Гайлоўны**, адкрытая ў 1931 г., і фатаграфічная студыя.

За той камяніцай да вуліцы прылягаў сад айцоў піяраў, а ў ім стаяў драўняны будынак, у якім з 1927 года размяшчалася прыватная **6-класная ўсеагульная школа ксяндзоў піяраў**.

На фота 11 прадстаўлены касцёл айцоў піяраў. З правага боку відзён невялікі фрагмент старога школьнага будынка. У ім невялікія лекцыйныя памяшканні (4) займалі малодшыя класы ўсеагульнай школы, а з часам мужчынскія класы Купецкай гімназіі. Старэйшыя класы размяшчаліся на 1-м паверсе будынка, прылеглага да касцёла.



*11. Касцёл, сад і школа айцоў піяраў*

Рэктарамі гэтай школы былі **ксёндз Алойзы Наперач** (да 1935), пасля яго **кс. Клеменс Мар'ян Чабаноўскі**, у будучым вязень сталінскіх лагераў у 1951-56 гадах. Настаўнікамі ў ёй працавалі: **прэфект кс. Людвік Кароль Русек, кс. Юлій Павел Альшэўскі, Юзаф Безанюк, Ян Асіняк, В. Маленчык, брат Атаназы В. Шчапаняк, Млынарскі, Эма Чабаноўская, Пярсоўна** і інш.

Ва ўсеагульную школу хадзіла не больш за 100 вучняў (хлопцаў), якія паходзілі пераважна з сямей інтэлігенцкіх і вайсковых. Выхаванцамі школы сярод іншых былі **Зыгмунт і Ежы Каляцінскія, Ян і Станіслаў Цапуты (блізняты), Генрык Жураўскі і Уладзіслаў Сперскі.** Усе яны, як жаўнеры АК, палеглі ў Сурконтах у жніўні 1944 г.

Школьную тэрыторыю ад касцёла айцоў піяраў, пабудаванага ў класічным стылі і пасвечанага ў імя Язэпа Каласанты, аддзяляла агароджа з кратаў паміж мураванымі слупкамі, якая атачала святыню. У святочныя дні ў касцёл прыходзіла школьная моладзь у шыхце і са сцяжком.

На фасадзе касцёла ў 1938 годзе была ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць Людвіка Нарбута, вучня школы піяраў, героя студзеньскага (1863) паўстання. Цяпер няма агароджы, як таксама і дошкі, а касцёл у 1996 годзе перададзены праваслаўным.

У тым жа касцёле ў 30-я гады апрача раней названых ксяндзоў рэктараў душпастырамі працавалі: **а. Людвік К. Русек, а. Антоні Трацяк, а. Аўгустын Ступнік (Stenpnik), а. Юлій Павел Альшэўскі, а. Генрык Мішкурка і са жніўня 1939 г. а. Станіслаў Каласанты Роек**, апошні лідскі піяр і шматгадовы пробашч у фарным касцёле, які памёр у Лідзе ў 1996 г. і пахаваны побач з касцёлам . За касцёлам ксяндзоў піяраў спачатку знаходзілася **4-х класная мужчынская Купецкая гімназія**, ператвораная ў 1934 г. у **каэдукацыйную 4-х гадовую Гандлёвую школу**, якую называлі "гандлёўкай". Пра тую школу, настаўнікаў і вучняў абшырна піша ў сваёй кніжцы В. Нарушэвіч, выпускнік гэтай школы.

Тут жа за "гандлёўкай" пад № 70 **Шымон Зальдовіч** меў **друкарню, майстэрню штэмпеляў і пераплётаў**. У Зальдовіча друкаваліся **"Wiadomoscie Lidzkie"**, "Ziemia Lidzka", **"Вясковы лірнік" "Кароткі турыстычны праваднік па Лідскім і Шчучынскім паветах" А. Гржымалы – Пшыбыткі**, **"Прыпавесці"** лідскага паэта **Я. Альбірта**, а таксама часопісы на мове ідыш.

Паблізу друкарні знаходзілася невялікае кіно **"Маленькае"**, якое належала **Яблонскаму**. Яно было адкрыта неўзабаве пасля пажару "Нірваны".

Участак з № 72 належаў нашчадкам **Папірмейстара**. Яго займаў найстарэйшы лідскі бровар, які існаваў ад 1874 г., тартак (лесапілка)

і млын. Апрача піва гэтая фірма вырабляла халадзільныя напоі.

Пад адрасам Сувальская, 74 **Казімір Інгялевіч** меў вытворчасць цукраў (цукрыдаў).

Лідскі аддзел **Віленскага гандлёвага банка** размяшчаўся ў доме № 84.

Побач была пякарня **Давіда Гяршэвіча**.

**Браты Марак і Шымон Пупко** былі ўладальнікамі бровара, які існаваў з 1876 г.

Апрача піва гэтая фірма вырабляла халадзільныя напоі і ліманады. Асабліва выдатнай была "ананасаўка" з кавалачкамі ананасу. Тэрыторыю бровара пры Сувальскай, 88 займалі тры вялікія гмахі. А комін, мабыць, быў ці не найвышэйшай будаўнічай канструкцыяй у Лідзе. Акрамя таго там працаваў вальцовы млын і тартак.

Бровар працуе і зараз. Прадукцыя высокай якасці. Піва вядомае не толькі на абшарах Беларусі. Надзвычай высокую якасць мае і лідскі квас.

У драўляным доме. Сувальская, 90 знаходзілася Паштова-тэлеграфная установа, т. зв. Старая пошта, перанесеная ў 1938 г. у новы будынак па вул. Міцкевіча. У гэтым доме, паказаным на фота 12, размяшчалася таксама прыватная **Жаночая школа Кравецка-белашвейнага саюза надомнай працы жанчын і швейная майстэрня В. Жаўнерчыка**, якая вырабляла абутак пад лыжы, пад канькі, а таксама парусінавы і дамскі.

Фота 13 паказвае дом № 92, які належаў **Малеўскай**. У тым доме ў 1934-35 гадах жыў з бацькамі аўтар гэтага артыкула. На здымку я стаю каля бацькі.



***12. Старая пошта***

За домам № 92 цягнуліся пераважна драўляныя жылыя дамы, а ў іх невялікія эксплуатацыйныя памяшканні.

Пад № 124 **Міхал Лапко** з 1922 г. трымаў **шавецкую майстэрню**.

**Эдмунд Тубілевіч** у 1937 г. адкрыў **краму з вяндлінамі**, якая знайходзілася пад № 134.

Перад вул. Пастаўскай стаяў будынак



***13. Дом № 92 па вул Сувальскай***

**яўрэйскага шпіталя** (Сувальская, 130), а ў глыбіні направа, бліжэй да Лідзейкі быў **кірнут (яўрэйскія могілкі)**.

**Гандлёвы млын "Хіцім"** – кааперытыў з айцамі піярамі - меў адрас Сувальская, 140.

**Ліцейны завод і фабрыка сельскагаспадарчых машын "Бенланд"** займалі ўчастак з № 142.

Другі, большы, ліцейны **завод і вытворчасць сельскагаспадарчых машын братоў Я. і Э. Шапіраў**, заснаваны ў 1900 г. **Юдалем Лейбам Шапірам** размяшчаліся па № 170, сёння гэта ААТ "Лідсельмаш".

На канцы горада па адрасу Сувальская, 182, была пабудавана **Дзяржаўная рамесленапрамысловая школа,** якая займала двухпавярховы драўляны будынак. Навукі ў ёй набіралася каля 110 вучняў.

Перад пераездам чыгуначнай лініі Ліда-Маладзечна заканчвалася вуліца Сувальская, пераходзячы ў вуліцу Віленскую, яна сёння называецца вул. Свярдлова.



***Аўтар артыкула Лех Цехановіч (злева) і Лех Макрэцкі (абое Польшча) у Лідзе ў 2004 годзе (друкуецца ўпершыню).***

Гэта ўсё – незваротная мінуўшчына, не цалкам забытая.

***Лех Цехановіч, Польшча.***

***Гісторыя лідскіх вуліц і пляцаў***

# Вуліца Сувальская 1936-39 гг.
## паводле рэкламных праспектаў

**Левы бок.**

**Сувальская, 1.** Магістрат - гарадская ўправа. Дантыст Радуньска-Наваградская.

**Сувальская, 3.** Гарадская ўправа. Бурмістр-тэл. 42, віца-бурмістр-тэл. 13.




Бібліятэка і чытальная зала.




Рэдакцыя часопіса “Ziemia Lidzka” (1939 г.)

**Сувальская, 5.** Бар “Зямянскі” Браніслава Бароўскага.




Рэстаран “Mysliwska” (“Паляўнічы”).

**Праход на вул. Мацкевіча.**

**Сувальская, 7.** Швейнае прадпрыемства Б. Рудніцкага.




Кандытарская Канопкі.

Крама цацак Канцэленбогена.

Крама гатовай вопраткі.

Гатэль “Гранд” Б. Ландо.

Фатаграфія Мюлера.

**Сувальская, 9.** Механічная фабрыка вэнджанасцяў Аляксандра Вярсоцкага. Вэнджанасці да святаў. Найлепшыя гатункі каўбасаў. Заснавана ў 1919 г. Тэл. 7.




Хлебная крама.

Каўбасная крама.

**Сувальская, 11.** Крама з каланіяльнымі таварамі, вінамі, гарэлкай і лікёрамі Міхала Баркоўскага.

Адвакат Якуб Вагнер, тэл. 116.

**Сквер Збаўцы.** За ім у гыбіні:

**Сувальская, 13.** Фінаддзел падаткаў і фінансавых аплатаў, тэл. 45.

Фінаддзел акцызаў і дзяржаўных манаполій, тэл. 134.

**Сувальская, 15.** Павятовае староства. Стараста-тэл. 50. Віца-стараста, тэл. 49. Павято-



вы я доктар, архітэктар, камісар аховы лясоў.

**Мадэль авіяцыйнай бомбы.**

**Вуліца 3 траўня.**

**Сувальская, 19.** Кандытарская "Амерыка", шырока вядомая пад назвай "Амерыканка". На другім паверсе "Кола полек".




Крама А. Цыдаровіча па продажу бензіну, аліваў, кіслароду і карбіду. Склад аптэчны і касметычны.




Крама паперы і пісьмовых прыладаў С. Матэцкага.




Зубны доктар Мойжаш Дварэцкі, абсальвент Стаматалагічнай акадэміі ў Варшаве, тэл. 176. Дантыст М. Дварэцкая.

**Сувальская, 21.** Крама: тавары прадуктовыя і каланіяльныя, віны і гарэлка братоў Вінаградавых.

Рэстаран "Брыстоль" братоў Вінаградавых.

Крама "Электрарад" М. Крыгеля і М. Жыжамскага, новыя стэрэафанічныя прыёмнікі Філіпса, радыё- і электратэхнічныя тавары (1937).




Варшаўская ювелірная майстэрня М. Гавенскага.



Віленскі склад футра (з 10.10.1936) і футры дамскія Л. Златковіча.

У двары рэстаран "Варшавянка" Ігнацыя Расікона. Заснаваны ў 1936 г.

**Сувальская, 23.** Тавары электратэхнічныя братоў М. і М. Палячакаў.

**Сувальская, 27.** Старая аптэка Левінсона ў доме Бергмана.

Крама мэблі.

**Рынак. Вул. Гандлёвая.**

**Сувальская, 29.** Ювелірныя паслугі і рамонт гадзіннікаў А. Арановіча (1937).




**Сувальская, 43.** Хлебная крама.

**Сувальская, 45.** Старая аптэка Левінсона і Зеліковіча, тэл. 11.




Унутраныя хваробы. Доктар Ісаак Кантор, тэл. 123.

**Сувальская, 47.** Парфюмерная крама "Астра" І. Барана. Тавары касметычныя, перавязачныя і фатаграфічныя. З'явіўся вясной 1939 г.



Дантыст Бярловіч - Жыжэмская.

**Сувальская, 55.** Крама галантарэйная і гатовай вопраткі “Галіна” Міхала Слюсарчыка, адчыненая ў 1935 годзе.




Крама Якуба Вінера, філіял кандытарскай.

**Выезд з рынку.**

**Сувальская, 59.** Тавары мануфактурныя (шаўковыя) Г. Noймана і М. Рэзніка. Сукны камвольныя, шаўковыя, дываны, дарожкі, ходнікі.




Крама він і гарэлкі “Пратэр” Яна Межвы. Заснаваны ў 1923 г.

Кааператыў Таварыства спажыўцоў.

**Сувальская, 61.** Піўная.

**Сувальская, 63.** Аптэка Стукатара, тэл. 84.




Дантыст Ганна Стукатар, тэл. 84.

Хваробы горла, вуха і носа, доктар Л. Берлінерблаў.

**Вуліца Школьная.**

**Сувальская, 65.** Гатэль Варшаўскі.

Жаночыя хваробы. Доктар Галамбіоўскі, тэл. 58.

Прадстаўніцтва польскай дзяржаўнай латарэі, дырэктар Х. Ажахоўскі.




**Сувальская, 71.** Фельчар Р. Зарцын.

**Сувальская, 75.** Фельчар А. Гурвіч. Акушэрка Гурвіч. Акуліст Р. Зарцын.

**Сувальская, 77.** Скуравыя і венерычныя хваробы, доктар Вольфавіч, тэл. 90.

**Сувальская, 81.** Слясарна-механічная майстэрня В. Якубоўскага.

**Сувальская, 83.** Павятовая класіфікацыйная камісія пры скарбовай управе.

**Сувальская, 85.** Дантыст Р. Пупко.

**Сувальская, 95.** Назіральная вежа і гаражы Дабраахвотнай пажарнай дружыны.

**Сувальская, 99.** Фабрыка лямцавага абутку, воўнапрадзільная фабрыка, укатка сукна братоў Жыжэмскіх і Левіна.




**Сувальская, 107.** Павятовая тэлефоннатэлеграфная ўправа - тэл. 97, 23. Клуб PPW.

**Сувальская 109.** Фельчар В. Жыленас.

**Сувальская, 111.** Майстэрня помнікаў і вырабаў з цэменту Х. Крайновіча.




**Сувальская, 125.** Крама прадуктова-каланіяльная “Адзінства” (“Jednosc”). Асноўнае



бюро знаходзілася на вул Мацкевіча, тэл. 143. Крамы знаходзіліся па васьмі адрасах, у тым ліку па адрасах на Сувальскай: Сувальская, 125 і Сувальская, 6.

**Сувальская, 127.** Рамонт рухавікоў, паравых машын і сельгасабсталявання Пятра Бянкевіча.




**Сувальская, 131.** Піўны бар "Лідзянка" В. Кажанеўскага.




Хлебная крама.

**Сувальская, 133.** Крама вэнджанасцяў і каўбас Зыгмунта Капроўскага

Прадуктовыя тавары, газеты і часопісы В. Сушынскай, філіял кандытарскай.

**Вуліца Крупаўская.**

**Праваслаўныя могілкі і царква.**

**Сувальская, 137.** Бюро вымярэнняў (абмераў).

Гарадская электрастанцыя.

**Правы бок.**

**Сувальская, 2.** Шавецкая майстэрня Антонія Кужмы і Антонія Хведанека. Заснавана ў 1930 г.

Шпалерная майстэрня А. Дубчанскага.




**Сувальская, 4.** Скарбовая каса.

**Сувальская, 6.** Кнігарня і пісьмовыя прылады Марыі Шкоп, пазней Сабіны Шкоп. Заснавана ў 1907 г.




Крама прадуктова-каланіяльная "Адзінства" ("Jednosc").

**Сувальская, 8.** Сучаснае прадпрыемства - цырульня Ю Макуліцкага і Ю. Пупко. Тэл. 182.




Крама прадуктова-каланіяльная Л. Гайфуса з паўднёвай садавінай і слодычамі.

**Сувальская, 10.** Кінатэатр "Эдысон" Натана Левіна, М. Алькеніцкага і А Мясніка.

Друкарня Ю. Каплінскага.



DRUKARNIA
J. Kaplińskiego
LIDA
ul. Suwalska Nr. 10.

Wykonuje wszelkie roboty w zakres drukarstwa wchodzące.

CENY DOSTĘPNE.



Крама "Плутас". Садавіна, слодычы, тавары каланіяльныя.



**Сувальская, 12.** Крама Ёселя Ражанскага. Швейныя машыны, равары, музычныя інструменты радыёпрыёмнікі.

**Сувальская, 14.** Спецыяльная майстэрня ювелірна-гравіравальная М. Крашынскага.

SPECJALNA PRACOWNIA
JUBILERSKO-GRAWERSKA
M. KRASZYNSKIEGO
Lida, ul. p-ku. Suwalskiego 14.

Электратэхнік Х. Ажахоўскі.

KONCESJON. ELEKTROTECHNIK
Ch. Orzechowski
ul. im. Pułku Suwalskiego 14.
Wykonuję wszelką instalację elektryczną siły i światła. Oraz naprawa wszelkich grzejników elektrycz.

Фотастудыя А. Глаўбермана.

Каланіяльныя тавары і слодычы Далінкі.

Крама абутку С. Шварца.

**Вуліца Турэцкая.**

**Сувальская, 20.** Кафельная фабрыка ”Непер”. Будаўнічыя матэрыялы. Шымон Пупко і сыны. Тэл. 107.

Materiały Budowlane i Fabryka Kafli
Sz. PUPKO i S-wie
Lida, ul. Suwalska Nr. 20, telef. Nr. 107.
Poleca wszelkie materiały budowlane i malarskie oraz kafle własnego wyrobu najwyższych gatunków po cenach konkurencyjnych

**Сувальская, 22.** Хрысціянскае пашывачнае прадпрыемства К. Хутны - 2 паверх.

CHRZEŚCIJAŃSKI ZAKŁAD KRAWIECKI
K. CHUTNY
Lida, im. Pułku Suwalskiego 22
(I-sze piętro)
Wykonuję ubrania solidnie i rzetelnie

Адвакат Ізраел Каміёнскі, тэл. 136.

**Вуліца Шкляная.**

**Сувальская, 30.** Цукерня (кандытарская) “Кракавянка” Е. Цукерніка, тэл. 60.

CUKIERNIA E. Cukiernika
lida, Suwalska 30 tel. 60.
NAJLEPSZE WYROBY
cukiernicze i piekarskie

**Сувальская, 38.** Крама фабрыкі “Ардаль”.

**Вуліца Камерцыйная.**

**Сувальская, 40.** Лідскі сельскагаспадарчы сіндыкат. Кіраўнік І. Чацвярцінскі. Заснаваны ў 1929 г.

Фотастудыя Л. Залмана.

**Сувальская, 42.** Двухпавярховы цагляны дом Фрумы Крэйны Ілютовіч ды Пецярбургер.

На 1-м паверсе шавецкая майстэрня Галубовіча і слясарная майстэрня Шульмана.

Крама З. Гольдвасара. Швейныя машыны, равары, грамафоны, патэфоны, музычныя інструменты.

Крама тканінаў Б. Ковенскага.

Хрысціянская крама абутку Ю. Ліпінскага.

**Сувальская, 44.** Віленскі склад футраў Л. Златковіча.

WŁASNA WYTWÓRNIA FUTER DAMSKICH
HURT. DETAL.
WILEŃSKI
SKŁAD FUTER
L. ZŁATKOWICZ
LIDA. UL. SUWALSKA 44.
NAJNOWSZE MODELE
CENY KONKURENCYJNE
Otrzymaliśmy nowy transport kapeluszy

Электратэхнік Л. Фердман. Рамонт электра- і радыёпрыбораў.

Artykuły Elektrotechn. i Radiowe
Elektrotechnik Koncesjonowany
L. FERDMAN
Lida, ul. Suwalska Nr. 44.

**Вуліца Пераца**.

**Сувальская, 46.** Дантыст Бор-Хвідавіцкая.

Кнігарня і склад пісьмовых матэрыялаў Уладзіслава Пугачэўскага. Заснавана ў 1920 г.

Малочная крама.

**Вуліца Лідская (цяпер Таўлая).**

**Сувальская 52.** Крама. Механічная фабрыка вэнджанасцяў Андрэя Радзевіча, тэл. 24. Заснавана ў 1918 г. Узнагароджана залатым медалём на выставе 1931 г..

Mechaniczna Wytwórnia Wędlin
Andrzej Rodziewicz
Lida, ul. im. Pułku Suwalskiego Nr. 52
Telefon 24
Za wysoki gatunek wyrobów masarskich firma nagrodzona złotymi medalami w kraju i za granicą.

Гандлёвы цэнтр Малочнага таварыства.

**Сувальская, 54.** Кааператыў “Адзінства”. Выбар гатовага абутку. Рамонт абутку.

Spółdzielnia „JEDNOŚĆ” w Lidzie
ul. Pułku Suwalskiego 54.

W nowouruchomionym sklepie z obuwiem przyjmuje obstalunki.

Wielki wybór gotowego obuwia.

Przy sklepie warsztat cholewkarski.

Доктар Міхал Каплан. Хваробы нутраныя і нярвовыя. Тэл. 219.

**Сувальская, 58.** Майстэрня слясарна-такарная і механічная І. Няцецкага. Заснавана ў 1937 г.

Крама спажывецка-каланіяльная.

У двары ў доме Длускага кінатэатр “Эра”.

Школа дападрыхтоўкі спецыяльная і звычайная № 3.

Доктар Аляксандр Пружанскі. Хваробы жаночыя і вонкавыя.

**Сувальская, 58 б.** Польскае абутковае таварыства “Бата” (“Баця”).

Najtańsze źródło zakupu!

Polska Spółka Obuwia

Bata

Lida, ul. Pułku Suwalskiego 58B

Posiadamy najmodniejsze obuwie męskie, damskie i dziecięce, oraz wszelkiego rodzaju obuwia gumowego po cenach niskich

Wielki wybór pończoch i skarpet.

Na miejscu posiadamy WARSZTAT NAPRAWOWY OBUWIA

Wszelkie prace wykonujemy szybko, tanio i solidnie.

**Сувальская, 60.** Кнігарня Р. Мацецкай.

**Сувальская, 62.** Прадпрыемства гадзіннікава-ювелірнае Л. Гельфанда.

Zakład zegarmistrzowsko-Jubilerski

L. GELFANDA

Ul. Im. Pułku Suwalskiego Nr. 62

Wykonuje prace zegarmistrzowskie, jubilerskie, oraz optyczne.

**Сувальская 64.** Кнігарня В. Пугачэўскага і склад пісьмовых матэрыялаў.

W. PUHAZEWSKI

KSIEGARNIA I SKLAD MATERIAŁÓW PIŚMIENNYCH

Lida, ul. Suwalska Nr. 64

Poleca na sezon szkolny:

Podręczniki szkolne – Pedagogiczne dla nauczycielstwa. Dzieła fachowe z różnych zakresów. Beletrystykę – Kompletuje i tworzy biblioteki.
Dla szkół: zeszyty i wszelkiego rodzaju materiały piśmienne.
Dla biur, urzędów i zojmików: papier, atrament, kalki, różne przybory kancelaryjne. Kwitariusze. Linie. Teki. Registratory. Pieczątki. Bilety wizytowe. Nuty. Mody.

Абутковая крама Сам. Віняцкага.

Magazyn obuwia Sam. Winiacki

ul. Suwalska 64.

Poleca obuwie wszelkiego rodzaju fabryk krajowych i zagranicznych.

Прадпрыемства кушнерска-шапачна-гафтавальнае А. Чорнага (у двары).

PRACOWNIA

Kuśniersko-czapniczo-hafciarska

A. CZORNY

Lida, ul. Pułku Suwalskiego 64.

(w podworzu)

Рэнтген. Доктар Лявон Кац. Тэл. 22.

Дзіцячыя хваробы. Доктар Эйзенберг-Кац. Тэл. 22.

**Сувальская, 66.** Атэлье і крама дамскіх капялюшыкаў Браніславы Гойлы. Заснавана ў 1931 годзе.

GDY WIOSNA SIĘ ZBLIŻA!

Największy wybór kapeluszy Znajdzie Pani w firmie

Bronisława Gojłowna

Lida, Suwalska 66.

Ostatnie nowości wiosenne.

Фотастудыя Баршанскага Е., 1936 г.

Дантыст М. Драпкін-Каток.

**Сувальская, 68.** Прыватная 6-класная, усеагульная школа манахаў-піяраў.

Язэпаўскі касцёл.

4-х класная гарадская Купецкая гімназія. Піяры раней займалі тэрыторыю, якую ў 1938 годзе займалі дамы № 62-72 Хазановічаў, Камянецкіх, Каткоў, Сапатніцкіх, Зяльдовічаў і Папірмейстараў.

**Сувальская, 70.** Друкарня Шымана Зяльдовіча.

DRUKARNIA
i wytwórnia stempli

Sz. ZELDOWICZ
Lida, Suwalska 70

przy drukarni
INTROLIGATORNIA

Рэдакцыя газеты "Lider najs" ("Лідскія навіны", ідыш). Рэдактар Юзаф Альбірт. Тэл. 57.

„LIDER NAJS" „Nowiny Lidzkie"
Redakcja
Ul. pułku Suwalskiego 70 tel. 57.
redaktor JÓZEF ALBIRT
Przyjmuje wszelkie ogłoszenia, reklamy, oraz gratulacje i nekrologi.
Pismo rozpowszechnione na woj. Nowogródzkie i Wileńskie

Кінатэатр "Маленькі" Яблонскага.

**Сувальская, 72.** Піўзавод, саладоўня, тартак і вытворчасць газаваных водаў нашчадкаў Папірмейстара. Заснаваны ў 1874 г. Тэл. 74.

B R O W A R
spadk.
J. PAPIRMEJSTRA
egz. od r. 1871
LIDA, ul. Suwalska Nr. 72, tel. Nr. 74.
Wytwarza wysokie gatunki piwa i napojów chłodzących

B R O W A R
J. PAPIRMEJSTRA
LIDA, ul. Suwalska Nr. 72, tel. Nr. 74.

BROWAR, TARTAK
i wytw. wód gazowych
Spadk.
J. PAPIRMEJSTER
Lida, Suwalska 72, tel. 74

B R O W A R
Spadk.
J. PAPIRMĘJSTRA
Lida, im. Pułku Suwalskiego 72.
tel. 74.
Wytwarza wysokie gatunki piwa i napojów chłodzących

**Сувальская, 74.** Фабрыка цукраў Казіміра Інгялевіча. Заснавана ў 1934 г.

Межавы прысяжны Генрык Пашкоўскі, пак. 7.

Маер Станіслаў - сакратар іпатэчнага аддзелу ў Лідзе, акружнога суда ў Вільні. Тэл. 2.

Натарыюс Юзаф Дваракоўскі. Тэл. 77.

Натарыюс Вінцэнт Папкоўскі пры іпатэчным аддзеле. Тэл. 131.

**Сувальская, 84.** Лідскі аддзел Віленскага прыватнага гандлёвага банка. Тэл. 12.

WILEŃSKI PRYWATNY BANK HANDLOWY S.A.
Założony w 1873 r.
INSTYTUCJA CENTRALNA W WILNIE
BANK DEWIZOWY
ODDZIAŁ w LIDZIE
ul. im. Pułku Suwalskiego 84, tel. 12
Załatwia sprawnie i tanio wszelkie operacje, wchodzące w zakres bankowości.

Доктар Агушэвіч-Брамс. Дзіцячыя хваробы. Кварцавая лямпа. Тэл. 133.

Пякарня Давыда Гершавіча.

**Сувальская, 86.** Доктар Адольф Левінсон. Унутраныя хваробы. Тэл. 264.

**Сувальская, 88.** Піўны завод, вытворчасць газаваных водаў, вальцовы млын, механічная лесапілка братоў М. і С. Пупко. Заснаваны ў 1876 г. Тэл. 26.

Browar, słodownia, wytwórnia wód gazowych, młyn walcowy i tartak
B-ci M. i S. PUPKO
Lida, im. Pułku Suwalskiego 88.
Telefon 26.

Żądajcie znane ze swej jakości
PIWO
w butelkach LITROWYCH
Po cenie 66gr. za litr
oraz napoje chłodzące i lemoniady
BROWAR B-ci M. i S. PUPKO w LIDZIE.

B-cia M. i S. PUPKO
Lida, ul. Suwalska 88, tel. 26.
BROWAR, WYTWÓRNIA WÓD GAZOWYCH, MŁYN WALCOWY, TARTAK MECHANICZNY.
Polecają swe znane z jakości wyroby.

**Сувальская, 90.** “Старая пошта”.

Тэратарыяльная паштовая ўправа “Ліда-1”. Тэл. 139.

Obwodowy Urząd Pocztowy Lida 1
ul. Im. . Pułki Suwalskiego 90.
Naczelnik przyjmuje od 8-15, tel.62 m. Tel. 139

Раённая ўправа тэлефонна-тэлеграфная. Тэл. 97, 23.

Хрысціянская друкарня.

Drukarnia Chrześcijańska
LIDA
Ul. Im. Pułku Suwalskiego 90
WYKONUJE
DRUKI wszelkiego rodzaju
Fachowo, szybko i tanio.

Прыватная кравецка-бялізнярская жаночая школа Саюза надомнай жаночай працы.

Шавецка прасоўня В. Жаўнерчыка.

**Сувальская, 92.** Дом Малеўскіх.

**Сувальская, 94.** Дом Вітажэнца.

**Сувальская, 118.** Радыёстанцыя Яна Шчэпаняка з пазыўнымі SPIBX.

**Сувальская, 124.** Шавецкая майстэрня Міхала Лапко. Заснавана ў 1922 г.

**Сувальская, 130.** Яўрэйскі шпіталь. Заснаваны ў 1908 г.

**Сувальская, 134.** Крама вэнджанасцяў Эдмунда Тубялевіча. Заснавана ў 1937 г.

**Сувальская, 140.** Гандлёвы млын “Хіцім”.

**Сувальская, 142.** Жалезаліцейны завод і фабрыка “Benland”. Тэл. 87.

„BENLAND”
Spółka firmowa
Produkcja:
Maneże, młockarnie sztyftowe i cepowe, sieczkarnie ręczne i konne, wialnie, pługi i międlice

**Вуліца Пастаўская.**

**Сувальская, 162.** Механік Пётр Вяргейчык.

GAZOWE MOTORY
GAZOFIKACJA PALIWA
NAJNOWSZA EKSPLOATACJA SIŁY
MECHANIK
PIOTR WIERGIEJCZYK
Ul. im. Pułku Suwalskiego 162.

**Сувальская, 170.** Жалезаліцейны завод і фабрыка сельгасмашын братоў Ю. і Е. Шапіраў. Заснаваны ў 1900 г. Тэл. 75.

Odlewnia żelaza i fabryka maszyn rolniczych
Br. J. i E. SZAPIRO
Lida, ul. Suwalska 170, telefon 75, P. K. O. 700.908
MANEŻE, MŁOCARNIE SZTYFTOWE I CEPOWE, SIECZKARNIE RĘCZNE I KONNE, WARSZTATY MECHANICZNE, REMONTY I ODLEWY, CZEŚCI DO MASZYN Z WŁASNYCH I NADESŁANYCH MODELI.

**Сувальская, 182.** Дзяржаўная рамесная (механічная) школа. Двухпавярховы драўляны будынак.

***Сабрала і апрацавала***
***Наталля Сліўкіна.***

***Валеры Сліўкін***

# ЛІДСКАЕ ПІВА

## Піўзавод Пупко

### 1. Зараджэнне піўной справы на Лідчыне

У Вялікім Княстве Літоўскам піва з'явілася ў 14 ст. У 1546 г. была ўведзеная пасада ***піўнічага ВКЛ***. Першым піўнічым быў **Мікіта Мікалаевіч**, ён кіраваў вялікакняскімі піўніцамі і пастаўкамі піва да стала Вялікага князя *(ЭГБ, т. 5, с. 509)*.

У 16 стагоддзі на нашай зямлі з'явіліся бровары. У кожным прыстойным маёнтку меліся свае саладоўні, дзе "гадавалі" солад, неабходны пры варэнні піва. У гарадах солад рыхтавалі на продаж адмысловыя рамеснікі-саладоўнікі. У Смаргоні ў 1621 г. рыхтавалі солад пшанічны, жытні, ячменны, рысавы, з турэцкага аўсу. *(ДГА Літвы, Ф.525, воп. 8, с. 1193, арк.7)*.

Піва любілі ўсе станы. Ужывалі піва па святах і на вялікіх сямейных урачыстасцях. У вёсках піва варылі з ячменю, у некаторых выпадках з прапражаных сухароў з дадаткам ячменю, хмелю, мёду, духмянай травы. Склад кампанентаў і тэхналогія падрыхтоўкі піва вызначаліся народным каляндаром, у залежнасці ад гэтага піва атрымлівала назву: пакроўскае, змітраўскае, міхайлаўскае, мікольскае. Вядомыя былі таксама піва шляхецкае, манастырскае і сакавіцкае.

У 16-18 стагоддзях піваварства ў ВКЛ хутка развівалася, бровары з'явіліся ў Гародні, Мастах, Наваградку, Шчорсах, Ашмяне, Слоніме. Лідскія мяшчане права на будаўніцтва піўных заводаў атрымалі разам з магдэбургскім правам у 1590 г., але з умовай: *"Для бяспекі ад агню соладавы і піўны заводы павінны будавацца ўбаку ад горада"*. У 1680 г. у Лідзе 19 мядовых, гарэлачных і піўных корчмаў, 10 з іх утрымоўваліся хрысціянамі, 9 - габрэямі. У дваццатых гадах 19-га стагоддзя па ўспамінах паручніка лейб-гвардыі Фінляндскага палка Андрэя Розена на Лідчыне частавалі нямецкім сакавіцкім півам. Яшчэ ў 1863 г. разглядалася ў судзе справа аб таемным правозе піва Яўсеем Левіным і Бярковічам. Гэта ўскосна сведчыць аб адсутнасці на той час мясцовага бровара.

Дакладна, піўныя заводы з'явіліся ў Лідзе толькі ў другой палове 19 стагоддзя, прычым адразу тры. Першы піўны завод быў пабудаваны ў 1863 г. Гэта выцякае з прашэння, якое падалі мяшчане **Эйля Айзікавіч Ландо** і **Давыд Юдзелевіч Камянецкі** ў Будаўнічае аддзяленне Віленскага Губернскай управы:

***"Всепресветлейшій державнъйшій, Великій Государь Императоръ Александръ Николаевичъ самодержецъ всероссійскій, государь всемилостивъійшій. Просятъ обыватели г. Лиды мещане Эйля Айзиковичъ Ландо и Давидъ Юделевичъ Каменецкій о ниже следующем: Имъя в г. Лидъ на собственном плацъ деревянный пивоваренный заводъ, существующий уже пять лът, и, желая переделать его на винокуренный таковый, а для пивоваренного завода сдълать при оном новую деревянную же пристройку, представляемъ при семъ план мъстности и строений и всеподданнейше просим къ сему прошенію Дабы повелено было представляемый планъ утвердить и разрешить нам возведение предполагаемой пристройки.***

***1863 года августа 27 дня."***

У другой палове 19-га стагоддзя быў пабудаваны піўны завод у фальварку Дворышча Лідскага павету. *(Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. V. Спб. 1886, с. 19)*. Вядома, што ў 1868 годзе арандатар фальварка Дворышча Віктар Міхайлавіч Петухоў перадаў піўзавод у арэнду аднаму з сялянаў. *(ЦДГА Літвы, ф. 525, воп. 1, с. 1270, арк. 43-45.)* Будынак завода быў з дрэва. *(ЦДГА Літвы, ф. 525, воп. 1, с. 1270, арк. 131.)*. Вядома, што завод працаваў яшчэ ў 1880-я гады.*(Там жа.)* Звесткі пра яго далейшы лёс пакуль адсутнічаюць.

### 2. 1874 - 1876. Носель Пупко будуе піўны завод

У 1874 г. Я. Л. Папірмейстар заснаваў другі піўны завод у Лідзе, а ў 1876 г. лідскі мешчанін Носель Зелікавіч Пупко запусціў трэці піваварны завод. Завод Ландо і Камянецкага неўзаметку знік у 70-х гадах 19-га стагоддзя, піўзавод Папірмейстара ў 1944 г. быў перабудаваны ў камбінат харчовых канцэнтратаў, а піўзавод Носеля Пупко з часам ператварыўся ў **АТЗТ "Лідскае піва"** - самае знакамітае піўное прадпрыемства Беларусі.

Носель Зелікавіч Пупко, таксама як Эйля Ландо, Давыд Камянецкі і Якуб Папірмейстар, быў лідскім яўрэем. Прозвішча Пупко - было самым распаўсюджаным і шматлікім сярод жыхароў горада. У 1838 г. пры выбарах кагальных і рабіна сярод 89, якія галасавалі, чацвёра

былі з прозвішчам Пупко: Хаім- Груна Ноткавіч, Ёсель Вольфавіч, Ёсель Ханонавіч і Янкель Арэлавіч *(НГАБ у Гародні. Ф. 2, воп. 3, арк.12-15).* У 1903 г. у горадзе жылі 92 сям'і з прозвішчам Пупко, тады як Ілютовічаў было 35, а Палячакаў - 20. У сукупнасці яўрэяў з прозвішчам Пупко ў горадзе жыло каля 500 чалавек, гэта амаль 5 % гарадскога насельніцтва. *(НГАБ у г. Гародні. Ф. 1574, воп. 2, с.2-4).*

29 сакавіка 1873 г. Носель Пупко атрымаў згоду Лідскай павятовай паліцэйскай управы на будаўніцтва піўнога завода на ўласным участку па вуліцы Віленскай.

***Свидетельство № 12794.***

*Дано настоящее свидетельство из Лидского Уездного Полицейского Управления, вследствие постановления сего 29 марта 1873 года состоявшегося, еврею жителю города Лиды Носелю Зеликовичу Пупко в том, что как по штатному осмотру оказалось, пустопорожный плац его Пупка, расположенный в городе Лиде со стороны Виленской улицы, возле реки Лидзеи, имеет пространство длины 150 саж. и ширины 13 сажен, по бокам его тоже пустопорожние плацы дворян Остроуха и Потриковской и, что за тем на постройку на этом плацу, близ речки Лидзеи, пивоваренного завода со стороны полиции препятствий не имеется. В чем, подписываясь, приложением казенной печати по просьбе Носеля Пупки, удостоверяется.*

*Августа 28 дня 1874 года подписали:*
*И. д. Уездного Исправника Деркаев и*

***Пасведчанне ад 28.08.1874 г.***

*И.д. секретаря (неразборчиво) (М.П)*
*С подлинным верно.*
*И.д. Полиц. Надзир. города Лиды Тимофеев*
*Печать надзирателя города Лиды.*
*(ДГА Літвы. Ф. 382, воп. 2, с.758. арк.7.)*

З гэтага пасведчання выцякае, што ў 1873 г. Носель Пупко атрымаў згоду паліцыі на будаўніцтва піваварнага завода на незабудаваным участку, які належаў яму, плошчай 1950 квад-



***Корпус завода з надпісам на коміне: "Сущ. с 1876"***

ратных сажаняў, што раўназначна 88,5 соткам. Але з сведчання зусім не відно, што завод функцыянаваў. У жніўні 1874 г. пляц Пупко быў яшчэ пустапарожнім, г. зн. незабудованым, да будаўніцтва піўнога завода Н. Пупко мог прыступіць увесну 1875 г. І толькі ў 1876 г. была зварана першая партыя піва. Дата гэтая выкладзеная цэглай на завадскім коміне **"Сущ. с 1876"** і зафіксаваная на першых фірмовых этыкетках.

Разам з тым, у 90-х гадах Носель Пупко ў перапісцы неаднаразова сцвярджаў, што *"півper варны мой завод у г. Лідзе існуе з 1873 года"*; *"завод дзейнічае з 1873 года"*. Сярод даследчыкаў Лідскай піўной справы гэтыя сцвярджэнні спарадзілі надзеі адсунуць дату заснавання завода на 1873 г. Для гэтага досыць было адшукаць у архівах дазваленчыя пасведчанні Віленскай акцызнай управы. Але за мінулыя 130 гадоў дакументы не знайшліся.

### 3. 1893-1900. Н. Пупко пашырае вытворчасць, прасоўваепрадукцыю на аддаленыя рынкі збыту.

Аб першых шасці гадах піваварства на заводзе нічога невядома. У 1882 г. паведамляецца, што Носель Пупко мае ўласны піваварны завод па Віленскай вуліцы з 4 пакоямі, 2 уваходамі. У 1892 годзе гадавы абарот бровара складаў 1500 рублёў, а сума чыстага прыбытку за год - 150 рублёў. *(ДГА Літвы. Ф. 517, с. 1712, арк. 39, 40).* Гадавы абарот за 1893 год быў павялічаны да 2000 рублёў, колькасць працоўных на прадпрыемстве налічала 10 чалавек. *(ДГА Літвы. тФ. 517, с. 1714, арк. 130.).*

Участак, на якім Н. Пупко прыйшлося будаваць свой завод, быў выцягнуты з захаду на ўсход ад вул. Віленскай да рэчышча р. Лідзейкі. Шырыня яго была ўсяго 28 м пры даўжыні 320 м, да таго ж участак быў нахілены да Лідзейкі і ва ўсходняй частцы забалочаны.

Жылыя будынкі Н. Пупко пабудаваў паблізу ад вуліцы Віленскай, а завод і дапаможныя будынкі аднёс у глыбіню. Праходзячы па Віленскай цяжка было нават выказаць здагадку, што за невялікім цагляным домам хаваецца цэлы завод.

19 лютага 1893 г. Будаўнічае аддзяленне Віленскай губернскай управы звярнулася ў Лідскую павятовую паліцэйскую ўправу з пытаннем - ці сапраўды Носель Пупко валодае піваварным заводам у Лідзе, і з чыйго дазволу завод дзейнічае.

Папярэджваючы магчымыя, мабыць, адмоўнага характару наступства, мешчанін Носель Зелікавіч Пупко, заплаціўшы 1 рубель 60 капеек за дзве гербавыя маркі, падаў 18 сакавіка 1893 г. праз свайго ўнука Зеліка Іцкавіча Пупко ў Будаўнічае аддзяленне Віленскай Губернскай управы план піваварнага завода з подпісам Губернскага архітэктара і прасіў зацвердзіць чарцяжы і дазволіць далейшае існаванне завода. Пры гэтым ён паведаміў, што завод існуе ўжо дваццаць гадоў на яго ўласнай зямлі па Віленскай вуліцы. *( ДГА Літвы. Ф.382, воп 2, с.758, арк.1.).*



***План 1893 г.***



***Цагляны дом на 9 пакояў, з двухсхільным чарапічным дахам***

На плане 1893 г. відно, што на ўчастку меліся два аднапавярховых жылыя дамы: цагляны на 9 пакояў, з двухсхільным чарапічным дахам, плошчай 144 м2, з двума ўваходамі, пяцю прастакутнымі вокнамі і дзвюма парамі калон на фасадзе, адкрытым на вул Віленскую; драўляны 5-пакаёвы, 8-аконны дом з адрынай, агульнай плошчай у 227 м2; хлеў для жывёлы плошчай 102 кв. м.; стайня на 12 стойлаў і завод.

Завод быў пабудаваны папярок участка і складаўся з трох драўляных будынкаў.

1. Трохпавярховая сушня з печчу.

2. Двухпавярховы будынак з праездам. На першым паверсе размяшчаліся саладоўня, варачнае аддзяленне з водаварачным і сусла-





*Драўляны 5-пакаёвы, 8-аконны дом з адрынай, агульнай плошчай у 227 м2*



*Завод 1893 г.*



*План 1-га паверху*



*План 2-га паверху*





*Хлеў для жывёлы плошчай 102 кв. м.*





*Стайня на 12 стойлаў*

варачным катламі, кацёл для адваркі затору, а таксама фільтрацыйны чан. На другім паверсе знаходзіліся гарышча для збожжа, якое размяшчалася над саладоўняй, гарышча пры сушыні, кантора і жылое памяшканне з дзвюма кафлянымі печамі, у асобных пакоях стаялі заторны чан і запасныя чаны.

3. Аднапавярховы будынак плошчай 724 м2, у якім размяшчаліся брадзільнае аддзяленне з 10 чанамі, ляднік і разлівачная.

З атрыманнем плана Губернская ўправа, у адпаведнасці з дзейным тады парадкам, у той жа дзень звярнулася ў Лідскую гарадскую ўправу і да Лідскага павятовага спраўніка з запытамі - ці не маецца з іх боку якіх-небудзь перашкод да задавальнення хадайніцтва Пупко. У адказах павятовы спраўнік 27 сакавіка данёс, а Гарадская ўправа 3 красавіка апавясціла, "*што для далейшага існавання піваварнага завода ў горадзе Лідзе, які належыць мешчанінуНоселю Пупко, перашкод з боку паліцыі і ўправы не сустракаецца" (Там жа,*


ЖУРНАЛЪ ПРИСУТСТВІЯ
ВИЛЕНСКАГО
ГУБЕРНСКАГО ПРАВЛЕНІЯ

**Запіс у "Журнале присутствия Виленского губернского правления" ад 12 красавіка 1993 г. адносна справы з заводам Носеля Пупко ў Лідзе**


ПРОТОКОЛЪ

**Пратакол паседжання Будаўнічага аддзялення Віленскай губернскай управы ад 15 красавіка 1993 г. па разгляду справы з заводам Н. Пупко ў Лідзе**

*арк.2 і 3).*

15 красавіка 1893 г. на паседжанні Будаўнічага аддзялення Віленскай губернскай управы чарцёж піваварнага завода Н.Пупко быў зацверджаны, далейшая дзейнасць завода дазволена. Уладальніку было прапанавана неадкладна перарабіць трухлявы гонтавы дах з кроквамі над варачным аддзяленнем, замяніць драўляны слуп з подпорамі, які служыў асновай жылога памяшкання з печамі, на мураваную сценку, перарабіць печы так, каб усе яны мелі самастойныя карэнныя каміны, у саладоўні падвесці пад бэлькі цагляную сценку, завод аддзяліць ад саладоўні брандмурам і ўстанавіць ахоўны фільтр. *(Там жа, арк. 10.)*

21 красавіка Носель Зелікавіч Пупко атрымаў з Будаўнічага аддзялення копію чарцяжа піваварнага завода і выпіску з журнала з дазволам далейшага існавання завода. У той жа дзень ён даў падпіску азначаныя работы выканаць да 1-га верасня, і ў выпадку невыканання ўмоў пагадзіўся быць падвергнутым адказнасці па артыкуле 102 Статута аб пакараннях, якія накладваюцца міравымі суддзямі з магчымым закрыццём завода.

***Распіска Носеля Пупко ад 21 красавіка 1993 года ў атрыманні чарцяжоў завода.***

*(Носель Пупко быў малапісьменным, таму распіска напісана не ім, а ім пастаўлены толькі подпіс друкаванымі літарамі.)*

2 траўня выканаўца пасады паліцэйскага наглядчыка г. Ліды афіцыйна давёў да Н. Пупко Ўказ Віленскай губернскай управы ад 15 красавіка. Усё выкладзенае ва Ўказе Н.Пупко абавязаўся выканаць у дакладнасці і ізноў даў з гэтай нагоды падпіску. *(Там жа, арк. 12.)* 8 траўня Лідская павятовая паліцэйская управа прадставіла ў Губернскую ўправу распіску Н. Пупко аб аб'яўленні яму Ўказу. *(Там жа, арк. 11.)*

30 лістапада 1893 года, са спазненнем у два месяцы Носель Зелікавіч Пупко заявіў Губернскай управе, што ўсе работы на піваварным заводзе, паказаныя ў пратаколе Будаўнічага аддзялення, завершаныя, і прасіў аб аглядзе праведзеных работ тэхнікам Будаўнічага аддзялення. *(Там жа, арк. 13.)* 17 снежня завод быў агледжаны Губернскім інжынерам Айвазавым.

На наступны год, 12 траўня 1894 г., Н. З. Пупко ізноў звярнуўся ў Будаўнічае аддзяленне Віленскай губернскай управы з просьбай дазволіць яму пабудову каменнай сушні замест драўлянай і замену драўляных сценаў на мураваныя. Пры гэтым ён прадставіў чарцяжы і прасіў дазволіць работы праводзіць пад наглядам губернскага архітэктара Поладава. Атрымаць назад дазвол і зацверджаны план даверыў унуку Зеліку Іцкавічу Пупко. *(Там жа, арк. 14.)*

Паперы пайшлі пракладзеным шляхам. Губернская ўправа назаўтра звярнулася ў Лідскую гарадскую ўправу і Лідскую павятовую паліцэйскую ўправу - ці няма перашкод? На працягу тыдня Гарадскі галава і паліцэйскі спраўнік апавясцілі Губернскую ўправу, што да задавальнення хадайніцтва Носеля Зелікавіча Пупко аб дазволе пабудовы мураванай сушні замест драўлянай, а таксама замены існых драўляных сценаў мураванымі на яго піваварным заводзе, перашкод … не сустракаецца. *(Там*

***Заключэнне Лідскай гарадской управы з тым, што перашкодаў для пабудовы мураванай сушні заміж драўлянай няма***

*жа, арк. 15-16.)*

25 траўня 1894 г. на паседжанні Будаўнічага аддзялення прашэнне Носеля Пупко было разгледжана. Будаўнічае аддзяленне дазволіла Носелю Пупко правесці перабудову з умовай, каб работы былі праведзеныя ва ўсім паводле праекту і пад наглядам тэхніка, які мае на тое права, і каб па заканчэнні работ Н. Пупко заявіў Губернскай управе на прадмет агляду іх тэхнікам Будаўнічага аддзялення. Пасля зацверджання пастановы губернатарам Зеліку Пупко пад распіску выдалі копію праекту і выпіску з журнала, якія стала павінны былі знаходзіцца на заводзе. Для аб'явы Н. Пупко ўказ быў пасланы ў Лідскую павятовую паліцэйскую ўправу і апавешчана Лідская гарадская ўправа. *(Там жа, арк. 17-17 аб.)*

16 чэрвеня з Лідскай павятовай паліцэйскай управы за подпісам паліцэйскага спраўніка быў пададзены рапарт, да рапарта прыкладалася распіска мешчаніна Носеля Пупко *(Там жа, арк. 21)* наступнага зместу: *"Я, нижеподписавшийся домовладелец гор. Лиды Носель Зеликович Пупко, даю сию расписку Г. Полицейскому Надзирателю г. Лиды в том, что ... указ Виленского Губернского правления ... относительно разрешения постройки каменной сушильни и замены существующих стен деревянных на каменные на моем пивоваренном заводе, ... объявлен, в чем и расписуюсь. Носель Пупко."*

Распіску з яго ўзяў в. с. паліцэйскага наглядчыка г. Ліды Цімафееў. *(Там жа, арк. 22.)*

З траўня па верасень 1894 г. піва не варылася, на заводзе вяліся будаўнічыя работы. За 4 месяцы былі пабудаваныя з цэглы чатырохпавярховая сушня з комінам, двухпавярховая саладоўня з свіранам, а таксама драўляны аднапавярховы жылы дом плошчай 143 м 2 з двума ўваходамі і адрына плошчай 145 м 2.

Чамусьці Н. Пупко своечасова не паведаміў аб завяршэнні будаўнічых работ. Праз два гады, 27 чэрвеня 1896 г., Будаўнічае аддзяленне звярнулася да Лідскай павятовай паліцэйскай управы і прапанавала пераканацца на месцы, ці завершаныя работы на піваварным заводзе, і ў станоўчым выпадку абавязаць заводчыка неадкладна заявіць аб гэтым пісьмова на прадмет агляду тэхнікам Будаўнічага аддзялення. *(Там жа, арк. 23-23 аб.)*

Праз месяц, 29 ліпеня 1896 г. Лідская павятовая паліцэйская ўправа за подпісамі паліцэйскага спраўніка і сакратара рапартавала: *"Работы на піваварным заводзе, дазволеныя пастановай Губернскай управы 25 траўня 1894 г., скончаныя." (Там жа, арк. 24.)* Пры рапарце прыкладалася распіска Носеля Пупко ад 11 ліпеня ў тым, што ён неадкладна абавязваецца данесці пісьмова Губернскай управе, што работы па пабудове мураванай сушні скончаныя і драўля-



**Сушня з комінам**

**Разрэз**



**Драўляны аднапавярховы жылы дом плошчай 143 м 2 з двума ўваходамі**



**Адрына плошчай 145 м 2.**

ныя сцены піваварнага завода замененыя на мураваныя. *(Там жа, арк. 25.)*

Будаўнічае аддзяленне не задаволілася адказам і прапанавала 8 жніўня Паліцэйскай управе данесці ў дапаўненне да папярэдняга рапарта: *"ці знаходзіцца ў дзеянні піваварны завод Носеля Пупко, і калі дзейнічае, то з чыйго дазволу, і якія былі прынятыя меры з боку паліцыі ў адносінах праследу Пупко за адкрыццё дзейнасці без папярэдняга агляду завода тэхнікам Будаўнічага аддзялення". (Там жа, арк. 34-34 аб.)*

14 жніўня 1896 г. Будаўнічае аддзяленне нарэшце атрымала ад Н. З. Пупко заяву, у якой ён апавяшчаў, што *"усе работы на піваварным маім заводзе ў г. Лідзе, дазволеныя па пастанове Віленскай губернскай управы ад 25-га траўня 1894 г. мною скончаныя і выробленыя ва ўсім паводле плана, зацверджанага Будаўнічым Аддзяленнем". (Там жа, л.27.)* Ліст быў датавана 2 жніўня. Губернскаму інжынеру нічога не заставалася, як адправіцца на агляд завода.

20 жніўня Губернскі інжынер Вінер сумесна з лідскім павятовым спраўнікам агледзеў завод і выявіў, што *"перабудова завода праведзена з вялікімі адступленнямі ад дазволенага плану і з парушэннем правілаў будаўнічай тэхнікі і Будаўнічага Статуту".* Быў складзены акт, у якім Н.З. Пупко прапаноўвалася выправіць указаныя неадпаведнасці, перакласці план пабудоў завода, паводле таму, як ён існуе ў рэчаіснасці, і

***Ліст віленскага Губернскага інжынера лідскаму павятоваму спраўніку ад 22.08.1996 г.***

***Акт агляду завода ад 20 жніўня 1996 г., падпісаны Губернскім інжынерам Вінерам***

***Рапарт лідскага павятовага спраўніка ў Віленскую губернскую ўправу ад 29.08.1996 г.***

прадставіць гэты план у Губернскую ўправу на зацвярджэнне. *(Там жа, арк. 31.)*

Гэты акт Губернскі інжынер адправіў Лідскаму павятоваму спраўніку і прасіў пасля падпісання акта прывезці яго ў Будаўнічае аддзяленне з абавязальніцтвам Пупко зрабіць належныя папраўкі на заводзе і прадставіць чарцяжы ў 2,5 месячны тэрмін. *(Там жа, арк.30.)*

Праз тыдзень, 29 жніўня Лідскі павятовы спраўнік адправіў у Губернскую ўправу рапарт з рэзалюцыяй Губернскага інжынера, акт аб аглядзе піваварнага завода, а таксама падпіску Носеля Пупко з абавязальніцтвам зрабіць на заводзе належныя выпраўленні.

*"Я, нижеподписавшийся, владелец пивоваренного завода в г. Лиде Носель Пупко даю настоящую подписку Лидскому Уездному исправнику в том, что содержание акта, составленного 20 августа Исправником и Виленским Губернским Инженером об осмотре моего пивоваренного завода мне сего числа объявлено, и обязуюсь в 2.5 месяца сделать надлежащие, согласно акту, исправления на заводе, и представить в Строительное Отделение Губернского Правления чертежи завода. Носель Пупко."*

Заставалася адказаць *"з чыйго дазволу, і якія былі прынятыя меры з боку паліцыі ў адносінах праследу Пупко за адкрыццё дзейнасці без папярэдняга агляду завода"*. Павятовы спраўнік звярнуўся па тлумачэнні да паліцэйскага наглядчыка. Той данёс, што *"пивоваренный завод Носеля Пупко существует в г. Лида около двадцати лет и в течение всего этого времени находился безостановочно в действии, за исключением лишь в 1894 году с мая по сентябрь месяц включительно, по случаю некоторых переделок на заводе варка пива в нем не производилась. В виду того же, что завод этот действует в настоящее время, то на это со стороны моей разрешение даваемо не было и против него, Пупки по сему какого- либо преследования не возбуждено"*. *(Там жа, арк. 35)*

Паліцэйскі спраўнік, незадаволены падобным адказам, вярнуў паліцэйскаму наглядчыку яго тлумачэнне і запатрабаваў выпатрабаваць ад Носеля Пупко тлумачэнні - з якога часу існуе яго піваварны завод, і з чыйго дазволу ён пабудаваны. *(Там жа, арк. 37.)*

1 верасня Н. Пупко растлумачыў, што *"піваварны мой завод у г. Лідзе існуе з 1873 года"*; што на далейшае існаванне завода маецца дазвол Будаўнічага аддзялення Віленскай губернскай управы ад 12 красавіка 1893 года; што пасля заканчэння работ завод быў агледжаны Губернскім інжынерам Айвазавым 17 снежня 1893 года; што на пабудову мураванай сушні і замену драўляных сценаў на мураваныя быў атрыманы дазвол Губернскага ўправы; што аб заканчэнні работ было заяўлена Будаўнічаму аддзяленню ў першых днях жніўня; што выкананыя работы былі агледжаны губернскім інжынерам Вінерам сумесна з Лідскім павятовым спраўнікам, якія пасля агляду прапанавалі перарабіць паказаныя імі няспраўнасці, перакласці план пабудоў, паводле таму, як яны існуюць у рэчаіснасці і прадставіць гэты план у Губернскую ўправу на зацвярджэнне; і што ўсе гэтыя работы неабходна было зрабіць за 2,5 месяцы, якія будуць яшчэ мною выкананыя, у пасведчанне чаго адабраная была падпіска. *(Там жа, арк. 36).*

У той жа дзень паліцэйскі наглядчык прадставіў тлумачэнне Н.Пупко ў Лідскую павятовую ўправу. Паліцэйскі спраўнік 9 кастрычніка ізноў вяртае паліцэйскаму наглядчыку дакументы з загадам *"дазнаць ад Носеля Пупко, калі і кім выдаваліся патэнты і адмысловыя пасведчанні на піваварства, і кім яны падпісаныя"*. Паліцэйскі наглядчык ізноў звяртаецца па тлумачэнні да Носелю Пупко. Той тлумачыць, што піваварны завод існуе з належнага дазволу Губернскага начальства, аб чым ён ужо даваў тлумачэнні ў верасні, што завод дзейнічае з 1873 года, і штогод атрымлівае патэнты ад 5-й акругі Віленскай акцызнай управы; адмысловыя ж дазваленчыя сведчанні на кожнае варэнне піва выдаюцца той жа акругай, і што ўсе гэтыя дакументы за ўвесь перыяд часу з 1873 г. знаходзяцца ў Акцызнай управе, дзе маюцца звесткі пра тое, кім такія былі падпісаныя. Пры гэтым раздражнёна дадаў, што азначаныя звесткі зусім не патрэбныя Будаўнічаму аддзяленню. *(Там жа, арк. 38.)*

17 кастрычніка паліцэйскі наглядчык данёс Лідскай павятовай паліцэйскай управе, што на дзеянні піваварнага завода, пачынаючы з 1873 года, штогод атрымліваюцца патэнты ад 5 акругі Віленскай акцызнай управы; усе дакументы за перыяд часу з 1873 г. знаходзяцца ў Акцызнай управе.

19 лістапада Лідскі павятовы паліцэйскі спраўнік рапартаваў у Будаўнічае аддзяленне з паданнем усёй перапіскі і тлумачэнняў заводчыка, што піваварны завод Пупкі знаходзіцца ў дзеянні паводле дазволаў, якія выдаюцца Акцызнай управай 5 акругі. *(Там жа, арк. 33.)*

У лютым 1897 г., з спазненнем на тры месяцы, Носель Зелікавіч Пупко прадставіў у Віленскую губернскую ўправу план мураваных будынкаў піваварнага завода і ўсіх іншых памяшканняў, з натуры зняты, з паказам прыбудовы і надбудоў з просьбай прыбудову і надбудовы дазволіць і прыкладзены план зацвердзіць і пасля гэтага выдаць план на рукі. *(Там жа, арк. 40.)*

Будаўнічае аддзяленне вытрымала паўзу ў 2 гады і 8 месяцаў. І толькі 20 лістапада 1899 г. Губернскі інжынер Вінер прыехаў у Ліду і разам з



***План завода 1897 года***

павятовым спраўнікам агледзеў піўны завод. Да гэтага часу ўчастак Н. Пупко пашырэў да 32 м, мабыць удалося прыкупіць 2-сажанную паласу ў суседа Анушкевіча. Былі пабудаваныя невялікі драўляны ляднік, хлевушок з туалетам і падоўжана саладоўня. Хлеў для жывёлы быў перанесены бліжэй да Лідзейкі. Аддзяленні размяшчаліся такім чынам, што ячмень завозіўся ў далёкі кут участка, а піва пакупнікі і перавозчыкі атрымлівалі ў блізкім да вуліцы будынку, тэхналагічны працэс, які ператвараў ячмень у піва, перамяшчаўся з усходняга боку ўчастка да заходняга.

15 снежня 1899 г. Губернскі інжынер прадставіў у Губернскую ўправу складзены ім 20 лістапада акт агляду півэварнага завода Н.З. Пупко. *(Там жа, арк. 41.)* На паседжанні Будаўнічага аддзялення 28 снежня 1899 г. Вінер паведаміў, што агледзеў завод Пупко ў Лідзе і знайшоў, што прадстаўлены план піваварнага завода ў асноўным складзены адпаведна з натурай, завод находзіцца ў здавальняльным стане, і дзеянне яго можна дапусціць, але варта абавязаць уладальніка, каб ён перабудаваў лесвіцы, акаваў катлы металічнымі парэнчамі, трухлявую драўляную прыбудову для бакаў знёс і пабудаваў іншую лесвіцу з негаручага матэрыялу. Будаўнічае аддзяленне пастанавіла: разгледзеўшы хадайніцтва Носеля Зелікавіча Пупко ад 7 лютага 1897 года аб зацвярджэнні плана існых мураваных будынкаў, знятага з натуры, піваварнага завода яго ў г. Ліда і прымаючы да ўвагі, што завод гэты выбудаваны з дазволу Губернскай управы, а прадстаўлены Пупко план у выніку праверкі на месцы 20 лістапада гэтага года Губернскім інжынерам знойдзены складзеным згодна з натурай, а таму зацвердзіць план, дазволіць Пупко адкрыць дзейнасць у пазначаным заводзе, але з абавязковымі ўмовамі: 1) каб існыя на заводзе драўляныя лесвіцы былі замененыя негаручымі; 2) у аддзяленні піваварства для папярэджання няшчасных выпадкаў павінны быць агароджаныя металічнымі парэнчамі катлы для варэння; 3) трухлявую драўляную прыбудову для бакаў пры аддзяленні піваварства неабходна знішчыць і пабудаваць з негаручага матэрыялу; 4) пасля выканання прадпісаных работ Пупко абавязаны заявіць аб гэтым Будаўнічаму аддзяленню на прадмет паўторнага агляду завода тэхнікам і 5) пасля зацвярджэння сутнасці пратаколу спадаром губернатарам выдаць пад распіску Пупко копію з зацверджанага плана завода і выпіску з гэтага пратаколу, якая павінна стала знаходзіцца ў канторы завода, пра што для звесткі і аб'явы Носелю Пупко даць ведаць Лідскай павятовай паліцэйскай управе, прапанаваўшы яму распіску яго, Пупко, у аб'яве гэтага прадставіць у Будаўнічае аддзяленне. *(Там жа, арк. 43 - 44 аб.)*

17 студзеня 1900 г. Будаўнічае аддзяленне Віленскай губернскай управы паведаміла Лідскаму павятоваму паліцэйскаму спраўніку, што губернатар 28 снежня мінулага года дазволіў лідскаму мешчаніну Носелю Зелікавічу Пупко адкрыць дзейнасць на піваварным заводзе, змешчаным на ўласнай зямлі ў г. Лідзе, але з абавязковымі ўмовамі:

1) каб існыя на заводзе драўляныя лесвіцы былі замененыя незгаральнымі;

2) у аддзяленні піваварства катлы для варэння павінны быць агароджаныя металічнымі парэнчамі;

3) трухлявую драўляную прыбудову для бакаў пры аддзяленні піваварства неабходна знішчыць і пабудаваць новую з незгаральнага матэрыялу;

4) пасля выкананні прадпісаных работ Пупко абавязаны заявіць аб гэтым Будаўнічаму аддзяленню на прадмет паўторнага агляду завода тэхнікам.

Аб вышэйпададзеным для звесткі і аб'явы Носелю Пупко Будаўнічае аддзяленне, даючы ведаць паліцэйскай управе, прапаноўвае распіску яго, Пупко, у аб'яве гэтага прадставіць у Аддзяленне.

22 студзеня 1900 г. паліцэйскі павятовы спраўнік даручыў паліцэйскаму наглядчыку г. Ліды давесці пастанову Будаўнічага аддзялення да Н. Пупко.

8 лютага 1900 года купецкі сын Мейлах Носелевіч Пупко па даверанасці свайго бацькі Носеля Пупко даў распіску ў тым, што загад Будаўнічага аддзялення Губернскай управы ад 17 студзеня аб дазволе адкрыць дзейнасць на піваварным заводзе яму абвешчана. *(Там жа, арк. 49).*



*Ліст Будаўнічага аддзялення Віленскай губернскай управы Лідскаму паліцэйскаму спраўніку ад 17 студзеня 1900 г.*

21 лютага паліцэйскі наглядчык перапіску з распіскай Мейлаха Пупко прадставіў у Лідскую павятовую паліцэйскую ўправу, а Ўправа ў сваю чаргу адправіла ў Будаўнічае аддзяленне Віленскай губернскай управы.

Нягледзячы на складаныя адносіны з Будаўнічым аддзяленнем і фактычную адсутнасць дазволу на дзейнасць Н.З.Пупко працягваў варыць піва і актыўна ўкараняцца на новыя рынкі збыту. 1 студзеня 1898 г. кіраўнік акцызных збораў Гарадзенскай губерні дазволіў Н.Пупко адкрыццё аптовага склада піва ў Беластоку з правам продажу піва, портару і мёду толькі на вынас. У той жа год Н.Пупко атрымаў дазвол на адкрыццё аптовых складоў у Ляхавічах і Гарадзеі *(чыгуначная станцыя ў Нясвіжскім раёне)*. У 1900 г Н. Пупко меў 7 аптовых складоў піва і некалькі піўных крам.

У 1899 г. на заводзе было выпушчана 93200 вёдзер піва на суму 54 000 рублёў, прыбытак склаў 4000 рублёў. Па чыгунцы было адпраўлена 58 вагонаў піва ў колькасці 35380 вёдраў на склады ў Кобрыне, Беластоку, Пінску, Гарадзеі і Ляхавічах. (*ДГА Літвы. Ф. 515, оп.9, д.137, л.78).* У кожным вагоне мясцілася па 610 пудоў або 9760 кг. 58 вагонаў - гэта 566080 кг або 35380 вёдраў. Вядро з гэтага разліку роўна 16 кг, пры шчыльнасці 1.1 гэта 17, 5 літраў піва. Вядро піва каштавала 58 капеек, літр піва каштаваў 3,3 капейкі. Для параўнання дзённы заробак мужчыны чорнарабочага складаў 70 кап, жанчыны - 50 кап.

Відаць, прыбытак ад продажу піва быў некалькі большы. На 1900 г. піўзавод быў абкладзены раскладачным зборам у 190 рублёў. Пры разліку збору прыбытак па заводзе ацанілі ў 16,2 тысяч рублёў. Носель Зелікавіч абурыўся і напісаў пярэчанне: *“Признавая обложение меня раскладочным сбором за принадлежащий мне пивоваренный завод в размере 190 руб. и определенную прибыль с этого заведения в размере 16200 руб. преувеличенными, я имею честь возразить”…* Далей ён паведамляў, што існуе сур’ёзная канкурэнцыя з боку Віленскага “акцыянернага таварыства піваварства “Шапэн”, што гэтае таварыства мае ў Лідзе свой аптовы склад піва, яно вядзе ўпартую канкурэнтную барацьбу з мясцовымі півазаводчыкамі, адабрала ў іх *“дзве апошнія карчомныя ўстановы ў г. Лідзе, якія служаць месцам продажу піва”*, і прадае піва па самых нізкіх коштах. Пры такой моцнай канкурэнцыі, сцвярджаў ён, не можа быць прамовы ні аб павелічэнні абарачэнняў, ні аб павелічэнні прыбыткаў.

Пярэчанні не падзейнічалі. Раскладачная прысутнасць, у якую ўваходзілі найбуйнейшыя заводчыкі Лідчыны, пакінула суму збору без змяненняў

На пачатак 20 стагоддзя піўзавод Н. Пупко складаўся з 9 аддзяленняў.

1. Свіраны для ячменю плошчай 455 м2 займалі другі паверх над саладоўнямі ва ўсходняй частцы завода.

2. Саладоўні займалі тры блокі агульнай плошчай 544 м2 на 1 паверсе. У першым і трэцім блоках стаялі чаны для замочвання ячменю.



***Папярочныя разрэзы будынкаў піўзавода***

3. Млын для соладу плошчай 110 м2 знаходзіўся на другім паверсе над трэцім блокам саладоўні. На млыне выкарыстоўваліся ачышчальная ручная машына, арфы, млын ручны або драбільня, пад'ёмная платформа.

4. Сушня чатырохпавярховая для соладу размяшчалася паміж саладоўнямі і свіранамі. Там стаяла вертыкальная сушыльная печ з каналамі для халоднага паветра і трубамі для награвання. На 3 паверсе размяшчалася першая сушыльная пляцоўка плошчай 40 м2 і адтуліны для спуску соладу з верхняй пляцоўкі на ніжнюю, а з яе на другі паверх на млын, на 4 паверсе - другая сушыльная пляцоўка.

5. Аддзяленне для піваварства займала паўночны блок (147 м2). На 1 паверсе размяшчаўся дапаможны чан, а на другім паверсе - катлы для кіпячэння густой часткі затору, для варэння сусла з хмелем і для гарачай вады, а таксама заторны чан.

6. Аддзяленне астуджэння піва з кільшарамі плошчай 116 м2 знаходзілася на другім паверсе паміж аддзяленнямі піваварства і млыном.

7. Тут жа на першым паверсе знаходзілася аддзяленне разлівання піва.

8. Брадзільнае аддзяленне размяшчалася на першым паверсе пад млыном. Там стаялі 16 брадзільных чанаў і прыбор для астуджэння піва.

9. У заходняй частцы завода знаходзіліся леднікі агульнай плошчай 170 м2 з 39 бочкамі для піва і лёдам.

Завяршаўся завод невялікім складам (50 м2).

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Анастасія Каладзяжная***

# ПАРТЫЗАНСКІ АТРАД ІМЯ ВАРАШЫЛАВА

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Канфліктную сітуацыю выкарысталі немцы. Яны ўстанавілі кантакты з атрадамі АК, пачалі аказваць ім дапамогу зброяй і боепрыпасамі. Немцы пасля Сталінграда і Курска не гублялі надзеі, шукалі дапамогі ў тых палякаў, якіх ненавідзелі, якім у польскай сталіцы Варшаве ў 1939 годзе забаранялі ездзіць у аўтобусах разам з немцамі.

У ліпені 1943 года **"Рагнер" (Заянчкоўскі)** пасылае хадака ў Лідскі гебітскамісарыят дамовіцца з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі аб сумесных дзеяннях супраць партызан. Але дамова пакуль не было дасягнута. Гэтае пытанне будзе вырашана пазней, у студзені 1944 года будзе падпісана дамова з немцамі аб пастаўцы легіянерам Арміі Краёвай зброі і боепрыпасаў. У студзені-сакавіку 1944 года Наднёманскае злучэнне (**"Лех"**) атрымае ад немцаў 5 абозаў са зброяй і боепрыпасамі. *(У. І. Ермаловіч, З. У. Жумар. Агнём і мячом. Мн., 1994, стар. 37).*

23 ліпеня 14 партызан вялі бой з легіянерамі Арміі Краёвай каля в. Пескаўцы. Забіта 6 легіянераў.

Успамінае М.У. Макарава: *"Наш хутар часта акружалі, і мы былі напагатове - у нас былі чуткія сабакі. Учуўшы брэх сабак, праз пасеяны поруч хаты лубін уцякаем у лес. У 1941 годзе нарадзіўся брат. Падчас аблавы, маці спаўе і пакладзе яго ў лубін, а ён, нібы адчуваючы небяспеку, нават не пісне. Паліцыянты водзяць маму, катуюць, яна моцна крычыць, а мы сядзім у кустах."*

Легіянеры АК пераследавалі тых, хто меў сувязі з чырвонымі партызанамі, перапісвалі ў іх маёмасць, каб, не дай бог, яна не пайшла да партызанаў. Акаўцы перапісалі ў Говараў маёмасць і жывёлу, а Говар узяў ды і зарэзаў быка. Што было! Выратаваў сусед Урбановіч, у якога тры швагры знаходзіліся ў АК, той папрасіў не ўчыняць расправы. Ліпічанская пушча была далёка, Говары, калі ўзнікала такая неабходнасць, хаваліся ў в. Пудзіна (у зоне брыгады ім. Кірава). А калі вярталіся дадому, то ва ўмоўленым месцы (на печы) знаходзілі цыдулку: *"Быў Пецька", "Быў Колька"*.

Толькі ў невялікай вёсцы Масявічы легіянерамі АК было забіта 6 чалавек за сувязь з партызанамі. Сярод іх **Говар Сцяпан** (член РКП(б) з 1917 г., перад вайной - сакратар Ганчарскага сельсавету) і яго пляменнік, а ў сям'і **Быстрыцкіх** - 4 чалавекі: **Федзя** - партызан атрада, **Браніслава** - мачаха Федзі і дзве яе дачкі - **Саша** і **Зоя**.

Па ўспамінах І. Касмача, дайшло да таго, што для канспірацыі групы партызан тыя, хто адпраўляўся на заданне, пераапраналіся пад акаўцаў і ў дарозе размаўлялі толькі на польскай мове.

Легіянеры АК часта чакалі партызан каля пераправаў цераз Нёман, асабліва каля в. Пескаўцы. 20 ліпеня камандзір аддзялення Далінін пераправіўся цераз Нёман каля в. Моцевічы і наткнуўся на групу легіянераў Арміі Краёвай. Загінуў адзін легіянер.

За што забівалі адзін аднаго, за што змагаліся адзін з адным, за што рызыкавалі ўласным жыццём два славянскія народы? За ідэю, за ўласную дзяржаву, верылі ў яе безаглядна.

Нялёгка прыходзілася партызанам. Акрамя ворага - фашыста быў свой вораг - славянін. Некаторыя з партызан, рускія па нацыянальнасці, не маглі дапусціць такой масавай здрады славянскага народа і пайшлі на ўсход, там, лічылі, будзе лягчэй - адзін вораг. Сярод тых, хто пайшоў, быў і былы афіцэр Чырвонай Арміі **Вася Брычко**, які часта бываў на хутары ў Говараў.

Ліпень 1943 года. Партызаны здзейснілі 4 дыверсіі. 11 ліпеня на ўчастку Жалудок-Скрыбава пашкоджана 70 м чыгуначнага палатна. 14 ліпеня - крушэнне цягніка з жывой сілай каля в. Русінаўцы (чыгунка Гародня-Ліда). Разбіта 36 вагонаў з жывой сілай. За спушчаны пад адхон цягнік немцы выбілі і спалілі бліжэйшую вёску Русінаўцы. 20 ліпеня крушэнне цягніка з жывой сілай каля в. Заполле (чыгунка Гародня-Ліда). 21 ліпеня каля в. Далекія крушэнне цягніка з палівам і часткова з жывой сілай.

Неяк Макараў П.К., праязджаючы міма бульбяной ямы ў раёне Жалудка, заўважыў у ёй хлапчука. Хлопчык, які там хаваўся, вельмі спалохаўся, прыняўшы Макарава за фашыста. Бацькоў **Лёнькі** (так клікалі хлопчыка) забілі фашысты, і ён з сястрой хаваўся па вёсках. Макараў дастаў з ямы дрыжаўшага хлапчука, прывёз у атрад. Ён стаў "сынам палка", вельмі прывязаўся да Макарава П.К., і Макараў яго вельмі любіў, вазіў з сабой, лічыў яго сынам.

Дасціпнікі ў аддзеле жартавалі: *"У нашего командира есть адъютант личный и адъютант лишний"*. Аднойчы Макараў праязджаў з Лёнькам, і іх паклікала дзяўчынка: "Лёнька!" Сястра знайшла брата! (Сястра Лёнькі, **Ваўкавыская Зона Абрамаўна**, знаходзілася ў сямейным лагеры ў Ліпічанскай пушчы, пасля вайны эмігравала). Лёнька, акружаны ўвагай і клопатам, застаўся ў атрадзе і гаварыў Макараву: *"Дзядзька, калі ты ўбачыш немца, не забівай яго. Дазволь гэта зрабіць мне. Я яму скажу: "Гэта ты забіў майго тату, гэта ты забіў маю маму!"*.

Так званае "яўрэйскае пытанне" закранула і камандзіра Макарава П.К. Усе камандзіры атрадаў, выконваючы інструкцыі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, стараліся не залічваць яўрэяў у атрады, і, нават, праганялі іх далей ад размяшчэння свайго лагера. А побач з варашылаўскім атрадам размясціўся сямейны яўрэйскі лагер. І ў некаторых байцоў мільгала думка: а ці не яўрэй наш камандзір? Былі байцы-яўрэі і ў атрадзе. Цешча байца **Южакова - Коц**, хавала ў атрадзе яўрэйскай дзяўчынку, якую ёй падкінулі бацькі-яўрэі, калі ішлі на страту. Больш таго, калі ў яўрэйскім сямейным атрадзе захварэлі тыфам у 1944 годзе, жанчыны атрада па сваёй ініцыятыве збіралі прадукты для яўрэяў у мясцовага насельніцтва, стараліся дапамагчы хворым.

Што тычыцца адносін з мясцовым насельніцтвам Пушчы, у партызан засталіся самыя цёплыя ўспаміны. Простыя, чуллівыя, душэўныя і гаротныя людзі дапамагалі і дзяліліся з партызанамі ўсім, што ў іх было.

Чым харчаваліся партызаны, у што апраналіся? Па словах М.У. Макаравай, у кантраляваных партызанамі раёнах былі партызанскія каменданты, якія збіралі ў мясцовага насельніцтва прадукты, выгадаваныя і вырашчаныя для партызан. Здабывалі сродкі для існавання і ў баях, праз гітлераўскія пастаўкі. Па ўспамінах І.М. Касмача: *"На Шчары было дастаткова абмундзіравання Чырвонай Арміі - вопраткі, ботаў"*. Групы партызан, якія ішлі на чыгунку, харчаваліся ў мясцовага насельніцтва, там жа, калі было неабходна, і начавалі. Былі так званыя свае месцы - "вялікія лыжкі", дзе можна было добра паесці, і "малыя лыжкі" - там кармілі больш сціпла. Безумоўна, былі несвядомыя партызаны, марадзёры, але Макараў П.К. да марадзёраў быў бязлітасны, жорсткі і суровы. Нажаль, як было сказана, матэрыялы аб марадзёрстве пакуль недаступныя.

Жнівень 1943 года. Партызанамі праведзена 5 дыверсій. 16, 17 і 26 жніўня на ўчастку Скрыбава-Ліда і Жалудок -Скрыбава - крушэнне цягнікоў з жывой сілай. 21 і 26 жніўня на ўчастках Курган- Скрыбава і Ліда-Скрыбава праведзена 107 падрываў рэйкаў. Падрывы праводзіліся на стыках рэйкаў, пры гэтым адначасова выводзілася з ладу па два звяны. Ішла "рэйкавая вайна".

Не давалі спакою партызанам нямецкія карнікі. Так, 2 верасня 1943 года звяз партызан пад камандаваннем **Сямлыгіна** вёў бой з карнікамі каля в. Ганчары. Забіта 2 і паранена 3 гітлераўцы. У гэтым баі партызаны страцілі 4 байцоў. Праз 2 тыдні, 14 верасня - бой з карнікамі каля в. Бішавічы Навагрудскага раёна, дзе забіта 2 і паранена 2 паліцыянты.

За верасень-лістапад 1943 года на чыгунцы Ліда-Баранавічы падарвана 4 цягнікі, у тым ліку адзін - з жывой сілай, выведзена з ладу 840 м чыгуначнага палатна; на ўчастку Гаўя-Юрацішкі - праведзена крушэнне 6-ці цягнікоў і пашкоджана 840 м чыгуначнага палатна; на ўчастку Ліда-Масты - крушэнне 3-х цягнікоў. 18 лістапада зладжана засада на чыгунцы Ліда-Баранавічы, знішчаны 4 ахоўнікі.

У 1943 годзе партызанскі рух працягваў развівацца ўшыркі і ўглыб, набываючы сапраўдны масавы характар. Атрады папаўняліся новымі байцамі, умацоўваліся раней створаныя атрады, узнікалі новыя. У лістападзе 1943 года ў атрадзе налічвалася 126 чалавек. Шэраг паспяхова праведзеных баявых і дыверсійных аперацый спрыяў таму, што 24 лістапада 1943 года з партызанскіх атрадаў імя Варашылава Кіраўскай брыгады, імя Калініна Ленінскай брыгады і асобнага атрада імя Дзяржынскага арганізаваная партызанская брыгада імя Варашылава, камандзірам якой прызначаецца Макараў Пётр Кузьміч.

Пераход Макарава П. К. на пасаду камандзіра брыгады пацягнуў кадравыя змяненні ў атрадзе. Камандзірам атрада прызначаны Белякоў Мікалай Мікітавіч, камісарам - **Бесарабаў Віктар Пракопавіч**, начальнікам штаба **Смірноў Якаў Іванавіч**.

У снежні 1943 года байцамі атрада пушчана пад адхон 2 цягнікі супраціўніка.

Дыверсійная і баявая праца патрабавала мужнасці, вытрымкі, пастаяннай напругі сілаў, нярэдка падрыўнікі ахвяравалі сабой дзеля выканання баявога задання. Так, **Міхайлаў Мікалай** загінуў пры падрыве цягніка каля ст. Гаўя, **Борыкаў Васіль Ігнатавіч, Ваўкавыскі Леанід Абрамавіч** (той самы Лёнька, якога Макараў П.К. знайшоў у бульбяной яме, прагнуў адпомсціць ворагу за смерць сваіх бацькоў) загінулі пры мінаванні чыгункі Ліда-Маладзечна. Паводле ўспамінаў Л. Шамрэя, невядома ні аднаго факту ўзяцця партызана атрада ў палон. Так, **Шкрум Васіль**, патрапіўшы з байцамі атрада ў засаду ля в. Ходзевічы Слонімскага раёна, быў цяжка паранены (чаргой з кулямёта перабітыя абедзве нагі). Калі В. Шкрума акружылі, і ў яго скончыліся патроны, ён апошнюю кулю з пісталета накіраваў сабе ў галаву. Такіх прыкладаў вядома мноства, а колькі яшчэ невядома?

У 1944 годзе дыверсіі партызан на чыгунках яшчэ больш частыя і бязлітасныя.

У студзені здзейснены 4 дыверсіі: на чыгунцы Ліда-Баранавічы каля Руднянскага пераезду, каля ст. Сялец і каля ст. Яцукі падарваныя чыгуначныя масты; на чыгуначным участку Ваўкавыск-Баранавічы падарваны цягнік з вугалем каля паўстанка Касцелі.

Працягваецца кровапралітная барацьба двух славянскіх народаў - чырвоных партызан і легіянераў Арміі Краёвай. Так, 2 студзеня 1944 года ў раёне в. Масявічы растраляны 2 легіянеры Арміі Краёвай.

29 лютага 1944 года група партызан пад камандаваннем камандзіра роты Шубадзёрава Васіля Еўдакімавіча вяла бой з легіянерамі Арміі Краёвай у раёне в. Гезгалы на працягу 2-х гадзін. Забіта 15 і паранена 9 легіянераў. Страты партызан - 3 чалавекі. Вось як успамінае гэты бой камандзір Шчучынскага партызанскага злучэння **З. П. Шчупеня**: *"Камандзір роты Шубадзёраў В.Е. з групай партызан вяртаўся з баявога задання. Спыніліся на адпачынак каля в. Гезгалы Дзятлаўскага раёна. Легіянеры выявілі партызан у гадзіну ночы, акружылі вёску і павялі наступ. Вартавы заўважыў легіянераў і далажыў пра іх Шубадзёраву В.Е., які хутка падняў партызан, размешчаных у 4-х хатах. Група партызан налічвала 25 байцоў і была ўзброеная 6 кулямётамі, 4 аўтаматамі і вінтоўкамі. Завязаўся бой. Супрацiўнік лікава пераўзыходзіў партызан у 4 разы. Шубадзёраў вырашыў пайсці ў атаку на прарыў, і толькі дзякуючы яго знаходлівасці бой быў выйграны"*.

У лютым партызаны здзейснілі 7 дыверсій: на чыгунцы Ліда-Баранавічы крушэнне цягніка, на ст. Нёман уладкавана 2 засады, ля ст. Нёман падарваны чыгуначны мост даўжынёй 7 м; на чыгунцы Масты-Ліда арганізавана крушэнне 2-х цягнікоў; на чыгунцы Ваўкавыск-Слонім ля паўстанка Касцелі праведзена крушэнне цягніка.

Партызаны кантралявалі і шашэйныя дарогі, перашкаджаючы перамяшчэнню па іх супраціўніка, яго перавозкам. Засады на шашэйных дарогах былі і раней, у 1943 годдзе, але, пачынаючы з красавіка 1944 года, яны пачасціліся і наносілі ворагу адчувальны шкоду. Толькі за красавік у выніку мінавання шашэйных дарог забіта 17 гітлераўцаў, захоплена 2 аўтамашыны. А 11 траўня на шашэйнай дарозе Слонім-Дзяраўная каля в. Асакавічы забіта 32 і паранена 11, узята ў палон 2 гітлераўцы. Пры гэтым захоплена 2 ручныя кулямёты, аўтамат, 35 вінтовак, 10 адзінак асабістай зброі, абоз з харчам (30 вазоў). Нараўне з гэтым, працягвалі рваць і тэлеграфна-тэлефонную сувязь, для гэтага прыцягвалі мясцовае насельніцтва. За 1944 год выведзена з ладу ў агульнай суме больш 20 км тэлеграфна-тэлефоннай сувязі.

У сакавіку 1944 года здзейснена 12 дыверсій: на чыгунцы Масты-Ліда толькі каля ст. Ражанка 4 крушэнні цягнікоў; на чыгунцы Слонім-Ваўкавыск падарваныя цягнікі ў раёне Іса-Іўня, у раёне Касцелі - 2 цягнікі, 2 крушэнні ля паўстанка Грынькі, адно на ўчастку Азярніца-Слонім; на чыгунцы Ліда-Баранавічы ля ст. Яцукі падарвана 2 цягнікі супраціўніка.

Атрад імя Варашылава можна назваць рэзервай кадраў брыгады імя Варашылава. З атрада ў брыгаду перайшоў камандзір Макараў П.К. У красавіку 1944 года ў брыгаду пераходзіць Белякоў М.М., які быў камандзірам атрада і інш. А ў атрадзе наступныя змяненні: камандзір атрада - Шубадзёраў Васіль Еўдакімавіч, камісар **Алакозаў Мікалай Георгіевіч**, начальнік штаба **Сцяпанаў Пётр Ягоравіч**.

У красавіку 1944 года здзейснена 13 дыверсій на чыгунках: на чыгунцы Ліда-Баранавічы крушэнне цягніка ля в. Багданаўка; на чыгунцы Ваўкавыск-Слонім у раёне в. Чэмеры, 3 цягнікі ля в. Грынькі, па адным ля в. Пляцевічы і ля в. Азярніца; на чыгунцы Масты-Ліда ля в. Хадзюкі, 3 крушэнні ля ст. Ражанка і 2 крушэнні ля в. Багдановічы.

26 чэрвеня 5 партызанамі атрада каля пастарунка Ляса забіта 4 і паранены адзін паліцыянт.

Давялося атраду ім. Варашылава павяваць і з войскамі РВНА. Што гэта за фармаванне? Руская Вызвольная Народная Армія (РВНА) - вайсковае фармаванне з грамадзян СССР, утворанае гітлераўцамі ў канцы 1941 года ў Арлоўскай вобласці для барацьбы з партызанамі. Падраздзяленні РВНА з пераменным поспехам ваявалі з партызанамі. У жніўні 1943 года войскі Чырвонай Арміі нанеслі РВНА шэраг цяжкіх параз. Пасля гэтага войскі РВНА гітлераўцы эвакуююць у раён г. Лепеля, але і там РВНА не апраўдала надзей гітлераўцаў. У красавіку 1944 года войскі РВНА эвакуююць у Дзятлава - залога размясцілася ў в. Зачэпічы Дзятлаўскага раёна. Дзейнічалі супраць партызан і марадзёрствавалі.

7 чэрвеня 1944 года байцы атрада мінуюць шашэйную дарогу ў раёне в. Зачэпічы. У выніку выбуху забіта 8 гітлераўцаў з войскаў РВНА.

У ноч з 10 на 11 чэрвеня 1944 года атрады ім. Варашылава, Калініна, Дзяржынскага і "Барацьба" пад камандаваннем Макарава П.К. зрабілі налёт на залогу войскаў РВНА ля в. Зачэпічы. У выніку 2-х гадзіннага бою прарвана добра ўмацаваная лінія супраціўніка па шашэйнай дарозе Слонім-Дзятлава. Забіта 100 і паранена больш за 60 здраднікаў.

У гэты ж дзень Алакозаў М.Г., Сцяпанаў П.Я., Аўчыннікаў Г.Ф., **Замоцін П.І.**, **Арлоў А.П.**, Касмач І.М., палітрук роты **Васько Рыгор** пад камандаваннем камандзіра атрада Шубадзё-

рава В. Е. зрабілі засаду на шашэйнай дарозе Казлоўшчына - Руда Яварская ў раёне в. Мядзвінаўцы Дзятлаўскага раёна. Забіта 4, у палон узята 6 фашысцкіх прыхвастняў з войскаў РВНА, а таксама захоплена адна гармата.

У траўні 1944 года арганізавана 5 крушэнняў цягнікоў: 2 крушэнні ля станцыі Ражанка, адно ля в. Хадзюкі; на чыгунцы Слонім-Ваўкавыск ля Жалудка і ля паўстанка Грынькі.

Колькасць жанчын, баявых сяброўак, у аддзеле вагалася ад 5 да 15. Гэта былі:

**Абрамовіч Любоў Ізраілеўна;**
**Барысава Ганна Георгіеўна;**
Ваўкавыская Зона Абрамаўна;
Макарава Марыя Ўладзіміраўна;
**Дзярбук Марыя з Беліцы;**
**Дзерангоўская Галіна Іосіфаўна з сынам гадоў 8-9;**
Цімашэнка Людміла Дзмітраўна;
**Казлова Ганна;**
Касцякова Тамара Дзмітраўна;
**Касцякова Тацяна Дзмітраўна;**
**Касцякова Людміла Дзмітраўна;**
Коц - маці Южаковай Галіны;
**Лабарэвіч Любоў;**
**Новікава Ганна Дзянісаўна;**
**Подгайская Антаніна Захараўна;**
**Розенберг Сара Нахімаўна;**
**Санцэвіч (Лукашэвіч) Вера Іванаўна;**
**Сакалова Аляксандра;**
**Сакалова (Белякова) Тацяна Паўлаўна;**
**Шкрум Сафія Іванаўна з сынам 12-ці гадоў;**
**Южакова Галіна Ўладзіміраўна;**
**Люся са Слоніма.**


***Сакалова (Белякова) Тацяна Паўлаўна***

Жанчыны кармілі, абмывалі, абшывалі, лячылі, многія ваявалі нараўне з мужчынамі, хадзілі на чыгунку, стаялі на варце. Жанчыны на варце падчас вайны? Так, ды якія пільныя! Аднойчы на пасту стаяла Новікава А. Д. У гэты час у атрад прыбывае камісар брыгады ім. Кірава **Кандакоў С. М.** і начыста забывае пароль, патрабуе прапусціць. Як прапусціць? Новікава дала папераджальны стрэл у паветра. Прыбегла ахова, пачалі разбірацца. Доўга ў атрадзе хадзіў жарт, што Новікава хацела застрэліць Кандакова. Здаралася, і нараджалі ў аддзеле (Цімашэнка Людміла, Касцякова Тамара). Але нянчыць дзяцей не было калі. Кармілі і нянчылі дзяўчынку Цімашэнку мясцовыя жыхары - **Надзея Саўчук** з в. Стукалы і **Якубовіч Ганна** з в. Верчыкі ў Ліпічанскай пушчы. Аднойчы дзяўчынку Людмілы Цімашэнкі ледзь не расстралялі рвнаўцы. Успамінае Л. Д. Цімашэнка: *"Рвнаўцам падказалі, што ў в. Стукалы Надзея Саўчук корміць і выхоўвае партызанскае дзіця. Рвнаўцы пачалі катаваць Надзею Саўчук, тая ўпарта паўтарала, што гэта мой байстручок. Пасля катаванняў Надзея сказала сваёй маці: "Мама, буду прызнавацца". Прызналася. Рвнаўцы ўвайшлі ў хату Надзеі, прыгожая дзяўчынка Цімашэнка сядзіць у калысцы і міла ўсміхаецца, не адчуваючы небяспекі. І хоць гэта былі рвнаўцы, сэрца ў іх завагалася - не забілі дзяўчынку. "Мы яе выхаваем", - сказаў адзін з рвнаўцаў. Больш таго, загадалі солтысу, каб усе, у каго ёсць карова ў вёсцы, давалі па 0,5 літра малака дзяўчынцы, бо карову ў Саўчукоў яны забралі."* А Людміла Цімашэнка, калі дазвалялі ўмовы, прыбыўшы з выведкі, садзілася конна на каня і ехала, адведаць сваю дробку, маленькую дачушку.

Баявыя аперацыі партызан праводзіліся з нарастальнай сілай. Гэта, натуральна, не на жарт устрывожыла акупантаў. Яны вырашылі ачысціць Ліпічанскую пушчу ад партызан, сцягнуўшы сюды буйныя сілы. 3 чэрвеня 1944 года больш 1000 карнікаў, падтрыманых танкамі, артылерыяй, авіяцыяй былі кінуты ў бой. "Гэта было сапраўднае пекла, - успамінае М.У. Макарава. Гараць хутары, ляцяць ракеты. Мы уцякаем, падаем. Падбягае да мяне **Сідараў Іван**, пытае: "Ты не параненая?", і тут жа падае на маіх вачах, учапіўшыся за маю руку. Галя Южакова ляжала побач са мной, мы падняліся, бяжым. На нашых вачах падае яе муж - **Южакоў Васіль** -куля патрапіла яму ў рот. У гэты ж дзень загінула Лена Важэйка са Слоніма - яна ў аддзеле была з братам і бацькам. Уцякалі з намі ад нямецкай расправы Дзерангоўскі Вова са сваёй маці Галінай Іосіфаўнай. Бацька Вовы - палкоўнік, загінуў на вайне. Галіна Іосіфаўна з Мастоў, калі фашысты пачалі зганяць людзей у Нямеччыну, з хлапчуком пайшла ў партызаны. Хлапчук хадзіў з партызанамі на заданні, вядома стамляўся, і дарослым часта даводзілася несці яго на плячах. А калі на лагер наступалі фашысты, хлопчык іх заўважыў, узлез на дзот і крыкнуў: "Дзядзечка, бі! За Радзіму! За Сталіна!" Па ўспамінах **З.П. Шчупені**, фашысты 4 дні палівалі партызан агнём. Партызанам удалося прарваць умацаваную лінію карнікаў, выйсці ў раён станцыі Моўчадзь на чыгунцы Ліда-Баранавічы, дзе аддзелам 27 чэрвеня было забіта 35, паранена 17 і ўзята ў палон 88 гітлераўцаў. 9 ліпеня 1944 года аддзел пад камандаваннем камандзіра Шубадзёрава В.Е. сустрэўся ў баі з гітлераўскімі войскамі ў в. Яварская Руда Дзятлаўскага раёна. Забіта 55 гітлераўцаў, 28 паранена і 95 узята ў палон.

Паводле успамінаў І.М.Касмача, байцы атрада вярталіся ў лагер. Па дарозе рухаўся шэраг вазоў - паліцыянты з сем'ямі ўцякалі на Захад. На пераправе цераз р. Шчара іх затрымалі. Але тут атрад даганяе выведка Савецкай Арміі, а следам ідуць савецкія войскі. На нашу шматпакутную зямлю прышло вызваленне.

Атрад злучыўся з часткамі Чырвонай Арміі 15 чэрвеня 1944 года.

Касцякова Т.Д. успамінае: *"Ішла вайна і, вядома партызанская барацьба не абыходзілася без страт. Безумоўна, гэтыя страты не параўнальныя з франтавымі па сваіх маштабах, але яны былі вельмі адчувальныя і выключна балюча перажываліся ўсімі партызанамі атрада. Сваіх герояў, загінулых у баі, партызаны хавалі ўрачыста, з ушанаваннямі. Калі дазвалялі абставіны, то загінулых таварышаў пераносілі ў Ліпічанскую Пушчу, дзе на гары былі арганізаваны могілкі. На магіле кожнага ўсталёўвалася таблічка з прозвішчам пахаванага. Але шмат байцоў засталося ляжаць там, дзе яны загінулі, і магілы іх ці ледзь вядомыя".* Вечная ім памяць.

Велізарны ўклад у Вялікую Перамогу ўнеслі байцы партызанскага атрада імя Варашылава, ля вытокаў якога быў Пётр Кузьміч Макараў - адважны і мужны камандзір, які ў адкрытых баях і на дыверсійных аперацыях паказваў узоры настойлівасці, мужнасці і геройства. Пасля вайны Макараў П.К. працаваў на кіраўнічых пасадах у Жалудокскім, Лідскім і Дзятлаўскім раёнах. Памёр 24 сакавіка 1961 года. Імем Макарава П.К. названыя школа і вуліца ў г.п. Дзятлава. На адным з будынкаў гэтай вуліцы вісіць мемарыяльная дошка ў памяць аб Макараве П.К.

**Колькасны склад атрада на працягу ўсяго перыяду баявых дзеянняў паводле зводных справаздач аб дыверсійна-падрыўной і баявой дзейнасці:**

- з траўня 1942 па кастрычнік 1943 у атрадзе налічалася 113 чалавек;
- у лістападзе 1943 года - 126 чалавек;
- у снежні 1943 года - 115 чалавек;
- у студзені 1944 года -117 чалавек;
- у лютым 1944 года - 122 чалавекі;
- у сакавіку 1944 года - 135 чалавек;
- у красавіку 1944 года - 140 чалавек;
- у траўні 1944 года - 156 чалавек;
- на 15 ліпеня 1944 года (дзень злучэння з часткамі Чырвонай Арміі) у аддзеле налічалася 160 чалавек.

**Звесткі па асабовым складзе атрада па стане на 1 сакавіка 1944 года:**

Колькасць партызан - 122.

**З іх па нацыянальнасці:**

рускія - 67;
беларусы - 34;
украінцы - 9;
яўрэі - 6;
палякі - 1;
інш. нацыянальнасці - 5.



***Родзікаў Максім Іванавіч***

**Па прафесіях:**

- рабочыя - 10;
- калгаснікі - 2;
- ІТР - 2;
- медыкі - 3;
- настаўнікі - 2;
- іншыя -103.

**Па камплектаванні:**

- прыбылі з палону - 69;
- прыбылі з акружэння - 10;
- з мясцовага насельніцтва - 43.

Колькасць жанчын у атрадзе на 1 сакавіка 1944 года - 15.

**Звесткі па прафесійным складзе на чэрвень 1944 года:**

Усяго партызан - 160. З іх:
вайскоўцы - 18 чалавек;
калгаснікі - 88 чалавек;
навучэнцы - 4 чалавекі;
лекары - 1 чалавек;
настаўнікі - 2 чалавекі;
іншыя - 47 чалавек.

**Па ўзросту:**

да 18 гадоў - 18 чалавек;
ад 18 да 26 гадоў - 86 чалавек;
26-45 гадоў - 48 чалавек;
звыш 45 гадоў - 8 чалавек.

**Спіс камандна-палітычнага складу атрада з красавіка 1944 года**

| Пасада | Прозвішча, імя, імя па бацьку |
|---|---|
| Камандзір атрада | Шубадзёраў Васіль Еўдакімавіч |
| Камісар атрада | Алакозаў Мікалай Георгіевіч |
| Начальнік штаба | Сцяпанаў Пётр Ягоравіч |
| Нам. камандзіра атрада па выведцы | Замоцін Павел Ільіч |
| Начальнік асобага аддзелу | Родзікаў Максім Іванавіч |
| Камандзір роты | Сідараў Іван Пятровіч |
| Камандзір роты | Касмач Іван Міхайлавіч |
| Палітрук | Звераў Васіль Сцяпанавіч |
| Камандзір звязу | Галаванаў Васіль Міхайлавіч |
| Камандзір звязу | Ісцягін Іван Васільевіч |
| Камандзір звязу | Міхайлаў Хведар Аляксеевіч |
| Камандзір звязу | Далінін Іван Яўхімавіч |
| Камандзір аддзялення | Жыцельскі Мікалай Іванавіч |

Камандзір аддзял. Кумпяк Міхась Усцінавіч
Камандзір аддзял. Здабноў Зміцер Антонавіч
Камандзір аддзял. Васільеў Пётр Ягоравіч
Камандзір аддзял. Удавічэнка Мікалай Майсеевіч
Камандзір аддзял. Захараў Іван Сямёнавіч
Камандзір аддзял. Адалін Мікалай Васільевіч
Камандзір аддзял. Громаў Міхась Антонавіч
Камандзір аддзял. Грынчук Якаў Якаўлевіч
Камандзір аддзял. Самсонаў Яўген Кузьміч
Камандзір аддзял. Белавусаў Фёдар Міхайлавіч

**СПІС ПАРТЫЗАН**
**партызанскага атрада імя Варашылава брыгады імя Варашылава, якія пайшлі ў Савецкую Армію ў ліпені 1944 года**

| №№ п/п | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Год нараджэння |
|---|---|---|
| 1. | Адушкін Мікалай Андрэевіч (Слонімскі раён) | 1920 |
| 2. | Анашкевіч Сцяпан Іванавіч (в. Яманты) | 1920 |
| 3. | Андрыянаў Аляксей Іванавіч | 1917 |
| 4. | Андрушчанка Павел Мікітавіч | 1921 |
| 5. | Батаев Іван Фёдаравіч | 1921 |
| 6. | Белаконь Рыгор Яўхімавіч | 1921 |
| 7. | Васільеў Пётр Ягоравіч | 1911 |
| 8 | Вітко Аляксей Аляксандравіч (в. Чырвонае Жалудокскага раёна) | 1922 |
| 9. | Дзярбук Віктар Віктаравіч (в. Дуброўка Дзятлаўскага раёна) | 1923 |
| 10. | Дзярбук Вікенці Вікенцевіч | 1906 |
| 11. | Драмакін Пётр Рыгоравіч | 1924 |
| 12. | Еўдакімаў Анатоль Уладзіміравіч | 1917 |
| 13. | Жабскі Аляксей Іванавіч | 1915 |
| 14. | Жук Міхась Ільіч | 1910 |
| 15. | Заічкін Рыгор Васільевіч | 1922 |
| 16. | Захараў Сямён Пятровіч | 1909 |
| 17. | Заяц Леанід Іванавіч (в.Канюшаны) | 1924 |
| 18. | Зеляноў Міхась Іванавіч | 1921 |
| 19. | Іванчанка Мікалай Мікалаевіч | 1925 |
| 20. | Каторац Яўхім Якаўлевіч (Віцебск. вобл.,Чашнікаўскі р-н, в. Смошчны) | 1910 |
| 21. | Кіршын Сяльвестр Сяргеевіч | 1913 |
| 22. | Казёл Мікалай Іванавіч (в. Канюшаны) | 1921 |
| 23. | Мялешка Іван Герасімавіч (в. Грынкі Слонімскага раёна) | 1924 |
| 24. | Мялешка Мікалай Васільевіч | 1915 |
| 25. | Мушчанка Васіль Сцяпанавіч | 1929 |
| 26. | Папоў Рыгор Аляксеевіч | 1920 |
| 27. | Раманаў Васіль Мацвеевіч | 1920 |
| 28. | Рыжкоў Аляксандр Лявонцевіч | 1907 |
| 29. | Рымка Георг Георгіевіч (в. Рымкі Жалудокскага раёна) | 1916 |
| 30. | Рымка Хведар Мікалаевіч (в. Рымкі Жалудокскага раёна) | 1920 |
| 31. | Здабноў Зміцер Антонавіч | 1920 |
| 32. | Сівы Мікалай Рыгоравіч (в. Грынкі Слонімскага раёна) | 1923 |
| 33. | Траянаў Васіль Канстанцінавіч | 1910 |
| 34. | Філін Іван Фёдаравіч | 1923 |
| 35. | Філін Мікіта Анісімавіч | 1911 |
| 36. | Хапрычкоў Якаў Дзянісавіч | 1911 |
| 37. | Шаўчэнка Іван Фёдаравіч | 1909 |
| 38. | Якушаў Павел Цімафеевіч | 1923 |

**Агульныя вынікі баявых дзеянняў.**

**Усяго падарвана варожых цягнікоў:**

| | **1942** | **1943** | **1944** | **Усяго** |
|---|---|---|---|---|
| Чыг. Ліда-Баранавічы | 3 | 5 | 7 | 15 |
| Чыг. Ліда-Масты | 4 | 23 | 16 | 43 |
| Чыг. Ліда-Маладзечна | 4 | 8 | - | 12 |
| Чыг. Слонім-Ваўкавыск | 14 | - | 13 | 27 |
| **Разам** | **25** | **36** | **36** | **97** |
| | | | | |
| Разбіта валасных упраў | 6 | 9 | 5 | 20 |
| Разбіта залогаў | 5 | 3 | 1 | 9 |
| Разбіта складоў | 5 | 2 | 4 | 11 |
| Разбіта паўстанкаў | - | - | 1 | 1 |

# СПІС
## асабовага складу атрада імя Варашылава

**Абрамовіч Любоў Ізраілеўна**, 1920 г. н., яўрэйка з Слоніма.

**Аверкаў Васіль Пракопавіч**, 1916 г.р., беларус. Загінуў 16 траўня 1943 г. у баі каля в. Беліца, пахаваны ў в. Чырвонае.

**Авяр'янаў.**

**Адалін Мікалай Васільевіч**, 1917 г. н., рускі, з Мардоўскай АССР.

**Адамчук Мікалай.**

**Адушкевіч Мікалай Аляксандравіч.**

**Алакозаў Мікалай Георгіевіч**, 1920 г. н., рускі, камісар атрада з красавіка па ліпень 1944 года, з г. Марыупаля.

**Анашкевіч Сцяпан Іванавіч**, 1920 г. н., беларус, в. Яманты.

**Андрэеў Іван Фёдаравіч**, 1918 г. н., рускі, з Разанскай вобласці.

**Андрыянаў Аляксей Іванавіч**, 1917 г. н., рускі, з г.

Ярраслаўля.
**Андрушчанка Павел Мікітавіч**, 1921 г. н., украінец, з Кіеўскай вобласці.
**Анішчык Васіль Маркавіч**, 1914 г. н., беларус, з в. Баравікі Слонімскага раёна.
**Антуновіч**.
**Анушкевіч Барыс Ларыёнавіч**, 1925 г. н., беларус, з Віцебскай вобласці.
**Бабяк Аляксей**.
**Баран Аляксандр Рубінавіч**, 1921 г. н., яўрэй, г. Ліда.
**Басалыга Іван Васільевіч**.
**Бежанкоў**.
**Белавусаў Фёдар Міхайлавіч**, 1912 г. н., рускі, з г. Арцёмаўска.
**Белякоў Мікалай Мікітавіч**, 1917 г. н., рускі, з Арлоўскай вобласці. Камісар атрада з сакавіка 1942 па лістапад 1943 г., камандзір атрада з лістапада 1943 па красавік 1944г. У красавіку 1944 года пераведзены ў брыгаду ім. Варашылава.
**Белякова (Сакалова) Тацяна Паўлаўна**, 1923 г. н., руская, з г. Калініна. У красавіку 1944 года пераведзеная ў брыгаду ім. Варашылава.
**Бялянікаў П**.
**Бесарабаў Віктар Пракопавіч**, 1918 г. н., рускі, з Курскай вобласці. Камісар атрада з лістапада 1943 па красавік 1944 года.
**Білей**.
**Біч**.
**Бабылёў Іван Сяргеевіч**, 1920 г. н.
**Багданчук**.
**Бокараў Міхась**.
**Бокаў Аляксандр Архіпавіч**, 1918 г. н., рускі. з-пад Мензялінска. Загінуў 29 чэрвеня 1943 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Пацукі, пахаваны ля в. Парачаны.
**Бандарэнка Аляксей Мікалаевіч**, 1920 г. н., рускі, з г. Фрунзе.
**Борыкаў Васіль Ігнатавіч**, 1919 г. н., беларус. Загінуў 24 кастрычніка 1943 г. пры мінаванні чыг. Ліда-Маладзечна.
**Барысаў Іван Георгіевіч**, 1898 г. н., беларус, в. В. Канюшаны.
**Барысава Ганна Георгіеўна**, 1907 г. н., украінка.
**Борчанка Сямён Міхайлавіч**, 1919 г.р., Каз. ССР, г. Мерцы.
**Бачкоў.**
**Бразоўскі Марк Іванавіч**, 1902 г. н., беларус. Загінуў 2 верасня 1943 г. ля в. Ганчары. Пахаваны там жа.
**Брычко**.
**Бурдун Мікалай Канстанцінавіч**.
**Бутоўскі Зміцер Сяргеевіч**, 1917 г. н., рускі, г. Сталінабад. Загінуў 29 чэрвеня 1943 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Пацукі. Пахаваны ў в. Парачаны.
**Бутько Ў**.
**Быстрыцкі Аляксандр Восіпавіч**, 1922 г. н., беларус. Загінуў 16 верасня 1943 г. у баі каля в. Бішавічы Любчанского раёна. Пахаваны там ж.
**Бычак Іван Пятровіч**, 1919 г. н., беларус, з в. Ольжава.
**Бычкоў Аляксей Панфілавіч**, 1921 г. н., рускі, з Смаленскай вобласці. Загінуў у 1944 годзе.
**"Варшаўскі" Ванька**, прыбыў у атрад пасля ўцёкаў з лагера ваеннапалонных у Варшаве ўлетку 1943 г. У лістападзе 1943 года загінуў у перастрэлцы з легіянерамі АК.
**Васільеў Уладзімір Мацвеевіч**, 1914 г. н., рускі, з Калінінскай вобласці.
**Васільеў Пётр Васільевіч (Ягоравіч)**, 1911 г. н., рускі, з г. Томска. Загінуў у 1944 годзе.
**Васільеў Р. М.**
**Васько Рыгор** - палітрук роты.
**Венжык Аляксандр Васільевіч**, 1926 г. н., беларус, з Віцебскай вобласці.
**Вянскоўскі Уладзімір Фёдаравіч**.
**Вітко Аляксандр Аляксандравіч**.
**Вітко Ўладзімір**.
**Важэйка Алена**. Загінула ў чэрвені 1944 года.
**Важэйка К**.
**Важэйка С**.
**Волкаў Міхась Рыгоравіч**. 1914 г. н., рускі, з Варонежскай вобласці,
**Ваўкавыская Зона Абрамаўна,** 1922 г. н., яўрэйка з Лідскага раёна.
**Ваўкавыскі Леанід Абрамавіч**, 1929 г. н., яўрэй, загінуў 24 кастрычніка 1943 года пры мінаванні чыг. Ліда-Маладзечна.
**Вараноўскі Ўладзімір**.
**Гамзоў Мікалай Сяргеевіч**, 1923 г. н., рускі. 5 красавіка 1943 года забіты ў баі ля в. Ольжава, пахаваны там жа.
**Гірчук Г**.
**Галаванаў Васіль Міхайлавіч**, 1910 г.р., рускі, з Сталінградскай вобласці.
**Голуб З**.
**Голуб Іван Ігнатавіч**, 1919 г. н., рускі, загінуў 21 красавіка 1943 года пры выбуху міны на х. Ямантны. Пахаваны ў в. Ліпічанская пушча Дзятлаўскага раёна.
**Голуб С**.
**Гарнушка**.
**Гарадскі**.
**Гаранаў.**
**Грынчук Якаў Якаўлевіч**, 1924 г. н., беларус, в. Грынькі Слонімскага раёна.
**Граза**.
**Громаў Міхаіл Панцеляймонавіч (Антонавіч)**, 1916 г. н., рускі з Навасібірскай вобласці.
**Гузей Мікалай**, украінец. Забіты падчас аблавы на х. Шчурок каля В. Ольжава ў студзені 1943 года. Пахаваны на х. Шчурок.
**Гулінскі Рыгор Рыгоравіч**, 1922 г. н., беларус, з в. Парэчча.

**Гурын**.
**Даўлюд Мікалай Міхайлавіч**, 1924 г. н., беларус. з в. В. Канюшаны.
**Давыдаў У. І.**
**Дзяменцеў Васіль Васільевіч,** 1918 г. н., рускі. Загінуў 2 верасня 1943 года ў баі ў в. Ганчары.
**Дзянішчык А. Л.**
**Дзерангоўская Галіна Іосіфаўна**, 1906 г. н., руская, з г. Мазыр. У атрадзе была з сынам 8-9 гадоў, загінуў у чэрвені 1944 года.
**Дзярбук Віктар Вікенцевіч,** 1924 г. н., беларус, з в. Дуброўка Дзятлаўскага раёна.
**Дзярбук Марыя** з в. Беліца.
**Дзяругін**.
**Дзівіцкі Мікалай Якаўлевіч,** 1922 г. н., рускі. Загінуў 27 чэрвеня 1943 года пры выбуху шашкі ў в. Галубы Шчучынскага раёна. Пахаваны ў в. Ліпічанская пушча Дзятлаўскага раёна.
**Дзмітрыеў Ягор Дзмітрыевіч,** 1921 г. н., чуваш з Чувашскай АССР. З красавіка 1942 года пераведзены ў п. а. "Барацьба".
**Дабравольскі Сяргей Платонавіч,** з снежня 1942 па лістапад 1943 года - начальнік штаба атрада, пераведзены ў брыгаду ім. Варашылава.
**Далінін Іван Яўхімавіч,** 1919 г. н., рускі, з г. Канаш.
**Данскі Іван Васільевіч,** 1921 г. н., рускі. Загінуў 2 верасня 1943 года ў баі ля в. Ганчары. Пахаваны там жа.
**Драбрын Васіль Мацвеевіч**. Загінуў у 1944 годзе.
**Думаў Мікалай Аляксеевіч,** 1920 г. н. з Іванаўскай вобласці
**Дунай В. С.**
**Ягараў Васіль Ціханавіч,** 1913 г. р., рускі, з Разанскай вобласці.
**Ярмакоў Якаў Парфёнавіч,** 1913 г. н., беларус, з Магілёўскай вобласці.
**Ермантовіч Кастусь.**
**Яўхімаў (Ефимов) Павел Фёдаравіч,** 1918 г. н., рускі. 26 чэрвеня 1943 года выпадкова застрэліўся ў в. Пацукі. Пахаваны там ж.
**Жаваранкаў Іван Філіпавіч,** 1920 г. н., рускі,з Тульскай вобласці. Загінуў 29 лютага 1944 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Гезгалы Дзятлаўскага раёна. Пахаваны там жа.
**Жыцельскі Мікалай Іванавіч,** 1919 г. н., рускі, з Сумской вобласці. Загінуў 11 траўня 1944 года ў баі каля в. Дзераўная Слонімскага раёна. Пахаваны на х. Белуша каля в. Ліпічанская пушча.
**Жаўтко.**
**Жук Міхась Ільіч,** 1916 г. н., беларус, з в. Ходзевічы Слонімскага раёна.
**Забідараў М. А.**
**Забалотнікаў Міхась Іванавіч,** 1915 г. н., рускі. Загінуў 1 сакавіка 1943 года ля в. Цацкі, трапіўшы ў засаду легіянераў АК. Пахаваны ў в. Ліпічанская пушча Дзятлаўскага раёна.
**Заічкін Рыгор Васільевіч,** 1922 г. н., рускі, з Тульскай вобласці. Загінуў у 1944 годзе.
**Закрэўскі Анатоль Васільевіч,** 1919 г. н., украінец. Загінуў 29 лютага 1944 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Гезгалы Дзятлаўскага раёна, пахаваны там жа.
**Замоцін Павел Іванавіч,** 1920 г. н., рускі, з Горкаўскай вобласці.
**Зарэцкі.**
**Захаркаў Іван (Апанас) Сямёнавіч,** 1912г. н., рускі, з г. Туапсэ.
**Захараў.**
**Захар'еў.**
**Заяц Леанід Іванавіч,** 1924 г. н., беларус, з в. В. Канюшаны.
**Звераў Васіль Сцяпанавіч,** 1908 г. н., рускі, з г. Масква.
**Зеляноў Міхаіл Іванавіч,** 1921 г. н., рускі, з Чувашскай АССР.
**Зянько Мікалай Уладзіміравіч,** 1914 г. н. з г. Урупінск.
**Зубкоў.**
**Іваноў А.**
**Іваноў Іван Іванавіч,** масквіч. Загінуў у студзені 1943 года на х. Шчурок. Пахаваны там жа.
**Іваноў Пётр Максімавіч,** 1920 г. н., рускі, з Навасібірскай вобласці. Загінуў у 1944 годзе.
**Іванчанка Мікалай Мікалаевіч,** 1925 г. н., украінец з Кіеўскай вобласці.
**Ісаеў Леанід Віктаравіч** з в. Ёдкі, 1920 г. н. Забіты легіянерамі АК у 1943 годзе.
**Ісцягін Іван Васільевіч**, 1917 г. н.,рускі, з Варашылаваградскай вобласці.
**Калюта Міхась.**
**Канскі.**
**Капля Аляксей Іосіфавіч**, беларус, 1909 г. н. Забіты ў студзені 1943 года падчас аблавы на х. Шчурок каля В. Ольжава. Перапахаваны ў г. Ліда. (На помніку ў г. Ліда дата смерці - 12 снежня 1942 года).
**Караваеў Л.**
**Карэнін.**
**Каструлін Іван Дзмітрыевіч,** 1916 г. р., рускі з Калінінскай вобласці.
**Кацілеўскі Іван,** 1918 г. р.
**Кветка Ўладзімір.**
**Кветка Іван Лявонцевіч,** 1925 г. н., беларус, з в. Ліпічанская пушча Дзятлаўскага раёна.
**Кірэй У. Я.**
**Кірылаў У.**
**Кірычук Рыгор Паўлавіч,** 1920 г. н., рускі.з г. Кіеў.
**Кірушын У.**
**Кісялёў Аляксандр.**
**Клімаў Іван Васільевіч,** 1916 г. н., рускі, з Смаленскай вобласці.
**Каваленка Кузьма М.,** 1922 г. н., украінец. Загінуў 29 чэрвеня 1943 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Пацукі, перапахаваны ў в. Парачаны.
**Кандраценка Хведар.**
**Кодзік Мікалай Уладзіміравіч.**
**Кажэвікаў Аляксей Паўлавіч,** 1916 г. н., удмурт з

Удмуртскай АССР.
**Казёл Мікалай Іванавіч,** 1925 г. н., беларус, з в. В. Канюшаны.
**Казёл Аляксандр М.**, 1912 г. н. беларус, з в. Бялевічы.
**Казлоў Міхась Уладзіміравіч,** 1916 г. н.
**Казлова Ганна.**
**Казлоўскі Іван Пракопавіч,** 1920 г. н., рускі. Загінуў 29 чэрвеня 1943 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Пацукі. Перапахаваны ў в. Парачаны.
**Калдобін.**
**Калнавокаў Васіль Дзмітравіч,** 1920 г. н., рускі, з Краснадарскага краю.
**Каўпакоў Мікалай Рыгоравіч,** 1919 г. н., рускі. Загінуў 2 верасня 1943 года ў баі ля в. Ганчары. Пахаваны там ж.
**Каматоўскі.**
**Камлюк.**
**Касмач Іван Міхайлавіч,** 1921 г. н., украінец, з Кіеўскай вобласці.
**Касцюковіч.**
**Касцякова Людміла Дзмітраўна,** 1914 г. н., руская, з г. Масква.
**Касцякова Тамара Дзмітраўна,** 1916 г. н., руская, з Масквы. Начальнік асобага аддзелу да снежня 1943 года.
**Касцякова Таццяна Дзмітраўна**, 1925 г. н. руская, з Масквы. Загінула 29 чэрвеня 1943 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Пацукі, перапахаваная ў в. Парачаны.
**Кацельскі Іван Нікіфаравіч**, 1918 г. н., рускі, з г. Шахты.
**Коц Генрых**, з Рыгі.
**Коц** - маці Южаковой Галіны, з Рыгі.
**Качаргін Андрэй Мікалаевіч**, 1910 г. н., рускі, з г. Краснадар. Загінуў 16 траўня 1943 года ў баі ля в. Беліца. Пахаваны ў в. Чырвонае.
**Кравец Іван Фадзеевіч**, 1915 г. н., украінец, з Днепрапятроўскай вобласці.
**Крыпец**.
**Крычко Ў**.
**Крылоў Міхась Георгіевіч**, 1920 г. н., рускі. Загінуў 21 красавіка 1943 года пры выбуху міны на х. Яманты. Пахаваны ў в. Ліпічанская пушча Дзятлаўскага раёна.
**Кузняцоў Георгі Ільыч**, 1912 г. н., рускі, з Краснадарскага краю.
**Кузняцова Надзея Рыгораўна**, 1896 г. н.
**Кулік А. І.**
**Кулікоўскі Павел**.
**Кумпяк Міхась Усцінавіч**, 1919 г. н., з в. Масявічы.
**Курданаў Сяргей**, 1915 г. н., рускі. Загінуў 20 студзеня 1943 года (ненаўмысны самастрэл). Пахаваны на х. Белуша ў Ліпічанской пушчы Дзятлаўскага раёна.
**Кучынскі**.
**Латышаў Іван Рыгоравіч**, 1918 г. н., рускі, з г. Ленінграда.
**Ляўцееў Міхась Дзмітрыевіч**, 1925 г. н., рускі, з Калінінскай вобласці.
**Ланскі А. А.**
**Лабарэвіч Любоў.**
**Ласінянскі.**
**Лахмакоў Захар Пятровіч**, 1917 г. н., беларус, з Магілёўскай вобласці. Загінуў 16 жніўня 1943 года ад выбуху снарада пры разраджванні ў в. Чэмеры Слонімскага раёна. Пахаваны ў в. Ходзевічы Слонімскага раёна.
**Ліснеўскі Ілля Яўсеевіч**, 1924 г. н, яўрэй з Вільні. Загінуў 21 красавіка 1943 года пры выбуху міны на х. Яманты. Пахаваны там жа.
**Лугаўцаў Барыс Сяргеевіч**, 1918 г. н., рускі. Загінуў 29 чэрвеня 1943 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Пацукі. Перапахаваны ў в. Парачаны.
**Лукашэвіч Аляксей Сямёнавіч**, 1906 г. н., беларус, з в. Восава.
**Лушчанка.**
**Мазур Анатоль Васільевіч,** рускі, 1923 г. н. Памёр 09.05.1942 пасля ранення пры разгроме паста-рунка Беліца.
**Мазураў.**
**Макараў Пётр Кузьміч,** 1916 г. н., рускі, з Варонежскай вобласці. Камандзір атрада з сакавіка 1942 па 24.11.1943, камандзір брыгады, з 24.11.1943.
**Макарава (Говар) Марыя Ўладзіміраўна**, 1925 г. н., з в. Масявічы.
**Макарэвіч Сяргей Міхайлавіч,** 1920 г. н., беларус, з в. Масявічы.
**Малер Я. К.**
**Малыгін Аляксандр Сцяпанавіч,** 1911 г. н., рускі, з-пад г. Салікамска,
**Марахін Пётр Кандратавіч,** 1915 г. н., рускі з Паволжа. Загінуў у баі 20 красавіка 1944 года ля ст. Мікелеўшчына Мастоўскага раёна. Пахаваны там жа.
**Масленікаў.**
**Мядзведзев Сямён Іванавіч,** 1917 г. н., рускі. Загінуў 29 чэрвеня 1943 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Пацукі. Перазахаваны ў в. Парачаны.
**Мялешка Іван Герасімавіч.**
**Мялешка Міхась.**
**Меляшкоўскі.**
**Мікульскі.**
**Міско Ў. Д.**
**Міхайлаў Мікалай**, 1920 г. н., рускі. Загінуў пры падрыве цягніка на чыг. Ліда-Гаўя. Пахаваны ў в. Гаўя.
**Міхайлаў Хведар Аляксеевіч**, 1920 г. н., рускі, з г. Верхні Валачок.
**Макачоў.**
**Маісеенка Мікалай Мікалаевіч.**


*Макарэвіч Сяргей Міхайлавіч*

**Марозаў Міхась Васільевіч,** 1916 г. н., рускі, з Смаленскай вобласці, 15 лютага 1944 года паранены пры абстрэле чыг. цягніка Баранавічы-Ліда ў раёне ст. Нёман. Пахаваны на х. Белуша ў Ліпічанскай пушчы.
**Мароз Уладзімір.**
**Мароз Міхась Пятровіч.**
**Мароз Мікалай.**
**Марозаў Мацвей Сафронавіч,** 1900 г. н., рускі, з г. Віцебска.
**Марозаў Міхась Васільевіч.** Загінуў у 1944 годзе.
**Музафараў Усман Захаравіч,** 1921 г. н., татарын, з г. Петрапаўлаўска.
**Муратаў П. М.**
**Мурын П. Д,**
**Мушчанка Васіль Сцяпанавіч,** 1919 г. н., украінец, з Сталінская вобласці,
**Найгабаўэр Вацлаў Антонавіч,** 1907 г. н., чэх.
**Мікалаеў Васіль Якаўлевіч,** 1921 г. н., рускі, з Ленінградскай вобласці.
**Несцераў А. І.**
**Мікалаеў У. Я.**
**Мікалаеў Мікалай Гаўрылавіч,** 1922 г. н., рускі. Загінуў 29 чэрвеня 1943 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Пацукі. Перазахаваны ў в. Парачаны.
**Новікава Ганна Дзянісаўна,** 1926 г. н., руская, з Смаленскай вобласці.
**Навасельцаў І. І.**
**Аўчыннікаў Георгі Фёдаравіч,** 1921 г. н., рускі, з Арджанікідзеўскага краю.
**Олар Зміцер Іосіфавіч,** 1921 г. н., рускі. Забіты памылкова ў в. Карытніца. Пахаваны ў в. Ліпічанская пушча Дзятлаўскага раёна.
**Анішчанка.**
**Анішчык У. М.**
**Арлоў Анатоль Платонавіч,** 1921 г. н., рускі, з Горкаўскай вобласці.
**Арлоў А.**
**Арлоў Васіль Мацвеевіч,** 1924 г. н., рускі, з Арлоўскай вобласці.
**Арлоў І. С.**
**Паўлаў Пётр Васільевіч,** 1919 г. н., рускі, з Калінінскай вобласці.
**Паўленка.**
**Панасевіч Уладзімір Астапавіч.**
**Пятроў.**
**Пісьменны.**
**Падгайская Антаніна Захараўна,** 1905 г. н., беларуска, з в. Ямантаы.
**Падгайскі Іван Мікалаевіч,** 1925 г. н., беларус, з в. Яманты.
**Падгайскі М.**
**Падгайскі Хведар Захаравіч,** 1925 г. н., з в. Яманты. Загінуў у 1944 годзе.
**Паўтарак Іван.** Загінуў пры разгроме пастарунка ў в. Тарнова 19.06.1942.
**Паўтарак Мікалай Іванавіч,** 1921 г. н., рускі з г. Камсамольска.
**Папоў Рыгор Аляксеевіч,** 1920 г. н., рускі, з Харкаўскай вобласці,
**Пралыгін Іван Аляксандравіч,** 1917 г. н., беларус, з Магілёўскай вобласці. У будучым камандзір п. а. “Балтыец” брыгады ім. Кірава.
**Пракаповіч М.**
**Пузій Данііл Аляксандравіч,** 1916 г. н.
**Пучак Міхась Яўхімавіч,** 1921 г. н., рускі. Загінуў 16 верасня 1943 года ў баі ля в. Бішэвічы Любчанскага раёна. Пахаваны там жа.
**Рэйман Віктар Лявонцевіч,** 1918 г. н., яўрэй, г. Адэса.
**Рыштафовіч.** -
**Родзікаў Максім Іванавіч,** 1913 г. н., рускі, з Арлоўскай вобласці.
**Радзівонаў Пётр**, камандзір аддзялення. Загінуў 25 кастрычніка 1942 года ў баі ля в. Руда Яварская Дзятлаўскага раёна.
**Розенберг Юлі Беркавіч,** 1911 г. н., яўрэй, з в. Дзярэчын Баранавіцкай вобласці.
**Розенберг Сара Нахімаўна,** 1919 г.р., яўрэйка, з г. Наваградка.
**Рочанка Міхась.**
**Рудзінскі** з в. Канюшаны
**Рыжкоў Аляксандр Лявонцевіч**, 1907 г. н., рускі, з Валагодская вобласці,
**Рыжкоў Іван Гаўрылавіч,** 1918 г. н., беларус, з Гомельскай вобласці,
**Рымка Георг Георгіевіч.**
**Рымка Іван Міхайлавіч.**
**Рымка Хведар Мікалаевіч.**
**Рышкевіч.**
**Саванец Уладзімір.**
**Саўчук Васіль Кліменцевіч.**
**Саўчук Іван Якаўлевіч.**
**Самсонаў Яўстаф (Яўген) Кузьміч**, 1919 г. н., чуваш, з Чувашскай АССР.
**Санцэвіч Вера Антонаўна.**
**Санцэвіч Іван Іванавіч.**
**Здабноў Зміцер Антонавіч,** 1920 г. н., рускі, з Сталінградскай вобласці.
**Сябякін Аляксандр Сяргеевіч,** 1921 г. н., рускі, з г. Тулы.
**Сямлыгін Аляксандр Пятровіч,** 1920 г. н., рускі, з Маскоўскай вобласці. Загінуў 29 лютага 1944 года ў баі з легіянерамі АК ля в. Гезгалы Дзятлаўскага раёна. Пахаваны там жа.
**Сікорскі.** Загінуў у 1943 годзе.
**Сівы Мікалай Рыгоравіч.**
**Сідараў Іван Пятровіч**, 1920 г. н., рускі, Арджанікідзаўскі край. Загінуў у чэрвені 1944 года пры аблаве немцаў на Ліпічанскую пушчу.
**Скіба Апанас Фёдаравіч,** 1916 г. н., украінец, з Харкаўскай вобласці.
**Склыгін.**
**Смірноў І. М.**
**Смірноў Якаў Іванавіч,** 1913 г. н., рускі, з Калінінскай вобласці. З лістапада 1943 па снежань

*авечак, пакідаючы толькі на пры-плод.*

*Коней было трое: двоерабочых і адзін выязны. Падчас вайны 1939-1945 гг. колькасць ждывёлы была меншай.*

*З пабудоў было гумно на 4-5 сох (дакладна не памятаю), хлеў для жывёлы і дом. Усё пабу-давана ў 1934-1937 гадах.*

*З сельгасінвентару былі: параконны плуг, барана, культыватар (спружыноўка), веялка (арфа), малатарня, драўляны манеж ці прывад, сячкарня, жняярка (напалам з бацькавым братам).*

*На пасьбу жывёлы бацька наймаў пастуха. У 1944 годзе жывёлу пасвіў я. У наступныя годы колькасць жывёлы рэзка паменшала і спраўляліся самі.*

*На пасяўную бацька наймаў аднаго работ-ніка, на сенакос 1-2 работнікаў, на жніво 2-3 чалавекі.*

*Была студня з жураўлём. Двор быў абнесены дашчатым плотам. Дошкі для плоту бацька нарэзаў на цыркулярцы, якая праводзілася ў рух коньмі.*

*У доме была кухня, камора, спальня, дзіця-чая, зала і два ганкі: парадны і рабочы.*

**20 красавіка 1952 г.**

У 5 гадзін 30 хвілін цягнік здрыгануўся і павольна рушыў. Мы адпраўляліся з Мала-дзечна. Раніца была туманная, і я скрозь шчыліны вагона бачыў знаёмыя, сходжаныя шмат разоў на працягу года месцы, што праплывалі міма.

Ранішні туман як бы стараўся схаваць знаёмыя мне месцы, каб яны не нагадалі мне лішні раз па шчаслівы год вучобы ў настаўніцкім інстытуце, які, нажаль, дрэнна скончыўся зноў жа з-за майго паходжання.

Цягнік узяў кірунак на Менск. Ззаду застаўся кароткі шлях па родных месцах, а ўдалечыні ляжала далёкая невядомая дарога ў невядомыя, чужыя, далёкія краі. Хутка ідзе цягнік і толькі зрэдку спыняецца на станцыях. Вось і Менск – сталіца БССР. Цягнік два разы спыня-ецца на таварным і пасажырскім вакзалах. Яго сустракаюць супрацоўнікі МДБ і стараюцца хутчэй адправіць, быццам у ім знаходзіцца нешта непрыемнае і небяспечнае. Менск жыў сваім жыццём, па вуліцах бегалі трамваі, ішлі салдаты, распяваючы “Ласточку-косаточку”, снаваў народ.

Сёння вялікдзень. Мы разгавеліся тым, што нам падалі ўчора. Зноў замільгалі тэлеграфныя слупы, аднатонна стукаюць колы. Неба спрэс пакрыта хмарамі, якія, здаецца, вісяць зусім нізка над нашай галавой. Вось і Барысаў: стары і новы. Вакол відны сляды беднасці. Станцыя невялікая, і цягнік, коратка прапыніўшыся, ідзе далей. Вось невялікі раз’езд Навасады. Лагер заключоных цягнецца на кіламетр па левым баку. Вось вагон з лесам, яго разгружаюць вязні. Вось яны глядзяць на наш цягнік: быць можа ў гэтых вагонах вязуць сям’ю ні аднаго з іх. Ці ведаюць яны пра гэта? Ці ведае мой бацька, які знаходзіцца тут, за гэтым плотам з дошак і дроту наверсе, што мы едзем, Бог ведае, куды. Зноў палі і дрымучыя лясы, і нізка навіслае пад намі шэрае неба Беларусі. Пасля дванаццаці надвор’е разгулялася і з першымі промнямі сонца, што выглянула з-за хмараў, уся прырода ачуняла, быццам пасля сну і загаманіла на радаснай і несур’ёзнай мове вясны. У Оршу прыбылі ў 14 гадзін і прастаялі да 18 . Тут мы даведаліся, што перад намі ідуць яшчэ два такія ж цягнікі. Я тут упершыню выйшаў па ваду і ўпершыню акінуў поглядам наш цягнік: які ён доўгі! Колькі людзей едзе ў ім? А колькі з іх вернецца назад?

Пад вечар неба стала чыстым, і пад раніцу абяцаўся мароз. За акном віднеліся палі з сям-там раскіданымі па іх невялікімі вёсачкамі. Вось яны дорогі Смаленшчыны. Якая беднасць, якое жабрацтва кідаецца на кожным кроку ў вочы. Палі запушчаныя, няворaныя, парослыя дзікай высокай травою, быццам іх ніколі не краналася рука чалавека. Хаты малыя, крытыя саломаю, з маленькімі акенцамі, у якіх памяшчаюцца разам з гаспадарамі і ўся гаспадарка, таму што ў дварах ніякіх іншых пабудоў няма. У чырвоных прамнях заходзячага сонца яны падаваліся настолькі нікчэмнымі і жабрацкімі, што нявольна ўяўляўся фронт, які праходзіў тут і знішчыў усё і ўсіх на сваім шляху, але я ніяк не мог уявіць сабе, як гэта людзі, жывыя людзі, не маглі нічога лепшага зрабіць за восем гадоў пасля таго, як прайшоў фронт. Няўжо яны так жылі і будуць жыць? Пад самым Смаленскам раскінулася шырокае кал-гаснае поле, узаранае восенню. Удалечыні віднеліся вялікія калгасныя пабудовы. У Смаленск мы прыбылі ў 9 гадзін вечара. Горад ужо быў ахутаны цемраю і акінуць яго поглядам не было магчымасці. Але па колькасці агнёў можна было лічыць, што гэта даволі вялікі горад, размешчаны амфітэатрам адносна станцыі. Тут мы прастаялі да 4 гадзін і рушылі далей. Так прайшоў дзень нашага вялікадня 20 кастрычніка. Ці думаў я калі-небудзь, што так буду яго праводзіць? Так “натура – руда, лёс – індзейка, а жыццё цяпер капейка”. Што так будзе ў гэты святы дзень Хрыстова ўваскрэшання, я ніколі не думаў. Не думаў некалькі гадоў назад, калі ў гэты дзень хадзіў пад хмяльком, а вечарам ішоў з кіно вясёлы і смяшлівы, балаболячы з сябрамі, Бог ведае пра што. Не думаў роўна тыдзень назад, калі вечарам мы бадзяліся па вуліцах Гародні, думаючы, як бы трапіць на танцы. Цяпер табе тут усё: і інстытут, і вучоба, і танцы, і кіно, і гарэлка, і дзяўчаты, і таварышы - весяліся, смейся, радуйся і спявай.

**21 красавіка 1952 г.**

Пахмурная вясновая раніца. Манатонна стукаюць колы вагона на стыках рэяк. Цягнік ідзе на ўсход. Прыпынкі на раз’ездах у чаканні сустрэчнага цягніка. Вось цягнік набліжаецца да нейкай невялікай станцыі. Паравоз павольна паўзе па станцыі, быццам баіцца паказаць, які прывёз груз. За акном павольна праплываюць пабудовы станцый і службовыя аддзяленні, размешчаныя ў старых вагонах. На дварэ холадна. Неба месцамі пачало праясняцца. Ад стрэлачнікаў мы даведваемся, што прыбылі на станцыю Хімічы (13ч. 20хв.). Да Масквы засталo-ся 260

км, і яна зараз знаходзіцца збоку. Значыць цераз Маскву нас не павязуць. Вечарам праяз-джалі каля вялікага горада, відаць каля Калугі. Падзолістыя глебы саступалі месца чарназёму. Значыць мы знаходзімся ў чарназёмным цэнтры. Дык вось дзе я апынуўся. Ці думаў я калі, што да- вядзецца ехаць тут за кратамі і пад штыком.

**22 красавіка 1952 г.**

Я прачнуўся раніцай. Калі ў вагоне яшчэ гарэла святло, аза акном было цёмна. "Вялікі горад", - сказаў нехта з суседняй полкі, - ужо даўно едзем каля яго". Сапраўды, з левага боку было бязмежная мора агню. Па раздаваўшыхся выстралах, адзіночных і чэргамі, я здагадаўся, што мы праязджаем каля Тулы, якая здаўна вядомая сваімі ружэйнымі заводамі. Я глянуў на гадзіннік, было 5 гадзін раніцы. Мы доўга кружылі вакол горада. Таму што чыгуначная каляя абгінала яго.

У 8 гадзін раніцы прыбылі на станцыю Вузлавая. Глеба чарназёмная. Мы зноў уехалі ў Маскоўскую вобласць, але праехалі яе хутка. Чарназём пачаў саступаць месца падзолістым глебам. Вечарам прыбылі ў Рыжск. Ехалі мы ў паўднёва-ўсходнім кірунку. Надварэ было яшчэ дастаткова холадна. Было разводдзе. Калгаснікі пачалі жыць больш культурна. Сям-там удале-чыні віднеліся, разбураныя часам, а, магчыма, і людзьмі, цэрквы. Сапраўдны рускі край, край, які прачынаецца ад зімы і прагна ўдыхае ў сябе све-жае паветра вясны.

**23 красавіка 1952 г.**

Учора мы не атрымалі абеду, а таму сёння рана разбудзіў нас баец суправаджэння з войскаў МУС, якому былі даручаны чатыры апошнія вагоны 45, 46,47, 48. Я глядуў на гадзіннік, які вісеў на сцяне вагона ў сетцы: было 4 гадзіны 45 хвілін. Мы хутка ўзялі вёдры, і нас хуткавы-пусцілі з вагона. Кожны раз, калі выпукалі ці ўпускалі ў вагон, мы павінны былі дапамагаць адчыняць дзверы, калі пачуецца скрып пры адкручванні шрубы, якою замыкалі нашыя дзверы. Той хто дапамагаў адчыняць дзверы, звычайна першым выходзіў з вагона, а таму дапамагчы адчыніць дзеры звычайна імкнуўся кожны. На гэты раз ахвотнікаў не было, і мы без цяжкасцяў аказаліся па-за вагонам. Пасля таго, як мы дапамаглі замкнуць дзверы, нас зшыхта-валі ў калону па два, спераду стаў баец з аўтаматам, а збоку наш праваднік, і мы рушылі ў сталоўку, дзе павінны былі атрымаць прадукты. Раніца была хмурная, хмары, здавалася, віселі над самай галавой. Нам давялося абходзіць такі ж цягнік, які наш, які, мабыць, прыбыў трохі раней, таму што ён неўзабаве адправіўся. Там былі спецпасяленцы з Берасцейскай вобласці. Гэта мы даведаліся ад чалавека, які высунуў галаву з акенца вагона, і з якім нам удалося перакінуцца некалькімі словамі.

Мы ўзышлі на платформу невялікай стан-цыі і прайшлі міма некалькіх ларкоў, што стаялі каля самых платформаў і падняліся на насып, на якім знайходзілася сталоўка і станцыйная пабу-довы. Пакуль мы атрымоўвалі абед, цягнік, які ятаяў побач з нашым, адправіўся, а на яго мейсца прыбыў пасажырскі. Калі мы вярталіся і праходзілі міма самых вагонаў, я даведаўся, што гэты цягнік ідзе з Сталінграда ў Маскву. "Сталінград-Масква" выразна было выведзена, як заўсёды ў пасажырскіх цягніках, на белых дошчачках, прымацаваных пасярэдзіне вагона. Стаім мы, відаць, у Тамбоўскай вобласці. Вязуць нас у паўднёва-ўсходнім кірунку, гэта нас крыху радуе, магчыма, мы трапім не ў суровыя сібірскія краі, а ў Сярэднюю Азію, дзе на нашую думку цёпла, і будзе значна лепей, чым у Сібіры. Мы думалі так таму, што кепска ведалі і ўяўлялі пустынную прыроду сярэднеазіяцкіх рэспублік. Потым хадзілі па ваду і кіпяток. Ізноў такая ж цырымонія пы адкрыванні дзярэй, шыхтаванне ў калону па два, праваднік і вартаўнічы канвойны МУСнік наперадзе з аўтаматам. Так было кожны раз, калі нас выпускалі з вагона па ваду ці прадукты, ці што небудзь купіць у перонных ларках. Больш нас ніколі з вагона не выпускалі.

Вада была брудная, і мы з неахвотай напаўнялі ею свае вёдры, не ведаючы пра тое, што ў будучым нам ніколі не давядзецца піць ужо чыстай вады.

Мы праязджалі па Пензенскай вобласці. Зямля чарназёмная. У некаторых месцах яшчэ стаіць суцэльная зіма. Калгаснікі жывуць крыху больш культурна, чым у папярэдніх абласцях. Буйныя гарады па дарозе не сустранаюцца.

Вечарам 23-га прыехалі ў Пензу. Вакзал вялікі, прыгожы, увесь зіхаціць у электрычным святле. "Пенза", - прачытаў я на дошцы, якая вісіць на бакавой сцяне вакзала. На станцыі хадзілі па кіпяток. Паветра чыстае і свежае, напоўненае водарам вясны.

Калі мы ішлі па абед, то якраз была пасад-ка на цягнік "Навасібірск-Харкаў", і нашыя калоны пагубіліся і расшыхтаваліся ў суматосе народу. У гэты момант, канешне, можна было зрабіць "абрыў", але, відаць, ніхто на гэта не адважыўся, не ведаючы ўсяго таго, што нас чакае наперадзе. Нас паспяшаліся прыбраць з перона, каб нас менш бачылі. МДБ усё-такі баялася, або, дакладней, не хацела паказваць народу ўсё, што яно тварыла.

- Чаго тут так шмат народу? - буркнуў незадаволена капітан і загадаў байцу, які суправаджаў нас, адвесці нас у вагон. Вывелі нас на той самы вакзал, ужо пусты, у 23 гадзіны 30 хвілін. Давалі суп-лапшу, у якім макароніна макароніну даганяла, кашу ячменную з соўсам. Пры атрыманні харчавання ўсе размяшчаліся ў парадку нумароў вагонаў, і, калі лейтэнант называў нумар вагона, прадстаўнікі ад яго распісваліся за атрыманыя прадукты, бралі іх і адходзілі ў бок, чакаючы пакуль усе з калоны іх не атрымаюць. Потым усе шыхтаваліся ў калону, спераду канваір, і ішлі да свайго вагона.

**24 красавіка 1952 г.**

Ехалі цэлую ноч. Праехалі Ульянаўскую і ўехалі ў Куйбышаўскую вобласць, а разам з гэтым чарназём уступіў месца падзолістым глебам. З'явіліся і сасновыя лясы. Неба стала блакітным, высокім: удалечыні

віднеліся вялікія сёлы з разбуранымі цэрквамі, якія ўсё яшчэ ўзносілі свае крыжы ў блакітную вышыню нябёсаў. Хаты ўпрыгожаны разнымі акяніцамі. Адчувалася набліжэнне Волгі. У 11 гадзін праехалі ў Сызрань, дзе мы павінны былі пераехаць цераз Волгу. Гарадок невялікі, але станцыя не малая. Наш цягнік спыніўся, пераехаўшы вакзал. Па баках ад станцыі стаялі цыстэрны і помпы. Тут, відаць, перапампоўвалі нафту з параходаў у чыгунач-ныя цыстэрны. У Сызрані мы стаялі тыдзень, і, калі выехалі з яе, адразу стала відна Волга. Шырыня яе дасягала метраў 500. Правы бераг больш круты, левы палогі, парослы лесам. Волга яшчэ не кранулася, але лёд, які зрабіўся матавым ад цёплых промняў сонца, ужо ў некаторых мясцах на шырыню цэлай рэчкі ўступіў месца вадзе. На берагах Волгі, залепленых невялікімі хатамі, ішла тралёўка лесу. Тут жа стаялі баржы і лодкі. Усе збіліся каля акна, стараючыся паглядзець на Волгу, гэтую калыску рускага народу. Нейкае хваляванне ахапіла нас.

Вось невялікі прыпынак і удалечыні стаў відзён мост, па якім ішоў сустрэчны цягнік. Мост і цягнік здалёк здаваліся цацачнымі, быццам гэта было не наяву, а ў сне. Мы зрушыліся, як толькі прайшоў цягнік. Ехалі павольна ўздоўж берага, потым паравоз рэзка павярнуў направа і ўзышоў на мост, які размяшчаўся ў тым месцы, дзе Волга была найвузейшая, і стаяў ён на 12 быках. З апошніх вагонаў нам выразна было відно, як першыя вагоны ўзышлі на мост. Каля маста лёд спрэс пакрываў Волгу. Відно было, што тут у зімовы час праходзіла дарога. За Волгай пачаліся заліўныя волжскія лугі, якія месцамі змяняліся дубовымі гаямі. Якое тут усё дзіўнае: і лугі, і дубовыя гаі, што прачынаюцца ад зімавага сну, і блакітныя, высокія нябёсы. Неўзабаве пачаўся чарназёмны заволжскі стэп, палі якога былі узараны, відаць, яшчэ восеннюю і былі відны настолькі, наколькі магло бачыць вока чалавека. Толькі ўдалечыні, дзе здавалася, што неба сходзіцца з гарызонтам, відно было невялікае паселішча. Дык вось ён чарназёмны, урадлівы, заволжскі стэп – жытніца Расіі.

Днём было даволі горача. Цягнік хутка бег на паўночны ўсход, коратка прыпыняючыся на раз'ездах у чаканні сустрэчнага цягніка. На адной невялікай станцыі нас абагнаў такі ж а цягнік, як і наш. Праязджалі цераз Чапаеўск. Невялікі гарадок з некалькімі вуліцамі і беспа-радачна раскіданымі дамамі з прыгожым пом-нікам Чапаеву, пастаўленым каля вакзала. За Чапаеўскам пачаліся дубовыя гаі, якія з ободвух бакоў падступалі да самай чыгункі. Неўзабаве дарога стала чатырохкалейнай, па якой беспера-пынна снавалі цягнікі; вагоны і паравозы ўсе былі новага выпуску і абсталяваныя па апошнім слове тэхнікі. Нашаму цягніку даводзілася падоўгу прастойваць на раз'ездах, уступаючы шлях цягнікам больш важнага празначэння.

Але вось і сам Куйбышаў, прыбліжэнне якога так доўга адчувалася. На пад'ездзе да Куйбышава па абодва бакі чыгункі былі раз-мешчаны велізарныя склады. Побач з імі зна-ходзіліся лагеры заключоных, абцягнутыя паверх плоту дротам, з вартавымі вежамі па вуглах. Дык вось яны вялікія будоўлі камунізму, якія вяліся побач з новай тэхнікай і рабскай працай. Колькі людзей знойдзе тут свой канец, але пра гэта ніхто і слова не можа сказаць.

Куйбышаў горад даволі вялікі, са старым, шэрым, чатырохпавярховым вакзалам, з такімі ж шэрымі літарамі наверсе. Цераз станцыю пера-кінуты два пераходныя масты, на якіх тлуміўся народ, які глядзеў, калі нас выводзілі па воду і прадукты. З супрацьлеглага боку вакзала раз- мешчаны вакзал электрацягнікоў, якія хадзілі ў ваколіцах горада. Горад, відаць, вялікі і шмат-людны. З боку вакзала даносіўся голас гармоніка, а неўзабаве з'явілася гурма дзяўчат і хлопцаў. Куйбышаў – сапраўдны рускі горад з тыповымі рускімі звычаямі і норавамі. Выехалі з Куйбышава ў 21 гадзіну.

**25 красавіка 1952 г.**

У 21 гадзіну кранул іся з Куйбышава; на дварэ было зусім цёмна, і над нашым цягніком раз-пораз узвіваліся ракета за ракетай. МДБ не задавальняла тое святло, якое давалі фары і электрычныя лямпачкі, развешаныя па ўсім цягніку. Адна з такіх лямкачак вісела і на нашым вагоне. Паралельна з нашым цягніком ішоў электрацягнік, які то абганяў нас, то адставаў. Прыгожыя, камфартабельныя вагоны, якія былі заліты яркім электрычным святлом. Пасажыраў у ім было мала, і яны не заўважалі нашага цягніка, але пад канец яны, відаць, угледзелі і пачалі ціснуцца да вокнаў вагонаў, стараючыся праз цемру разгледзець наш цягнік. Неўзабаве элек-трацягнік ад нас адстаў, і мы апынуліся ў моры цемры, якая нарушалая яркімі споламі ракетаў. Цяпер нас непакоіла адна думка, куды нас павязуць: у Сібір ці Сярэднюю Азію. У 7 гадзін 25 хвілін прыбылі ў Бузулук. Усю ноч мяне тывожыла думка, куды нас павязуць? Хаця б у Сярэднюю Азію, там цёпла і добра. Але як моцна я памыляў-ся, таму што знаў Сярэднюю Азію толькі з кніжак. Якое радасна пацуццё ахапіла мяне, калі я прачытаў на вагоне: "Самаркандская чыг.". Сонца свяціла ярка і сваімі промнямі залівала невялікую станцыю, а на сотні кіламетраў ад яе расцягнуўся стэп, якому ўступіў сваё месца лес. Глеба па-ранейшаму заставалася чарназёмнай, але калгаснікі жывуць зусім кепска. Хаты іхнія былі гліняныя, але гэта былі не тыя мазанкі, якімі любуешся на Украіне. Ехалі цэлы дзень і цэлую ноч да Чкалава, падоўгу прастойваючы на невялікіх прыпынках. З левага боку была відна рэчка Самара, а далей стэп ды стэп, пакрыты зялёнай травой, якая хвалявалася пад ветрам быццам мора.

**26 красавіка 1952 г.**

У 3 гадзіны прыбылі ў Чкалаў, былы Арэнбург. Калі мы пайшлі на світанні па пра-дукты, я стараўся разгледзець, дзе мы апынуліся. "Чкалаў", - прачытаў я. Станцыя вялікая і прыгожая, але пра горад, які спаў моцным ранішнім сном, я не магу сказаць нічога.

Вада на станцыі праціўная: мы думалі, што гэта з-за разводдзя, але, як мы даведаліся пасля, у гэтай мясцовасці яна наогул такая. Раніцай, калі развіднялася, выехалі з Чкалава і адразу ж за горадам пераехалі раку

Урал. Глеба станаві-лася ўсё менш чарназёмнай і нарэшце савсім ператва-рылася ў падзолістую. Разораны стэп уступіў месца неапрацаванаму, у якім толькі пасвілася жывёла. Цягнік ішоў проста на Поўдзень. Пе-раехалі Ілецк, павярнулі на паўднёвы ўсход і ў 5 гадзін вечара прыбылі ў Ак-Булак, дзе хадзілі па ваду. У 12 гадзін ночы прыехалі ў Акцюбінск. Пачаўся Казахстан са сваімі галоднымі стэпамі і пустынямі ды адсталым народам.

**27 красавіка 1952 г.**

У гадзіну ночы ў Акцюбінску хадзілі па ваду, а потым па прадукты, якіх далі на два дні з разлікам, што на наступны дзень прадуктаў даваць не будуць, таму што ўжо пачнецца пустыня. Уяўленняў пра горад Акцюбінск я амаль не маю, відаць, такі невялікі гарадок, ускраіны якога нагадваюць кітайскій горад з нізкімі глінабітнымі домікамі, дахі якіх былі таксама з гліны. Сёння нядзеля. Ужо другі тыдзень, як мы ў дарозе. Вакол бязлюдны панылы стэп з бясконцым морам зялёнай стэпавай расліннасці, сярод якой ярка гарэлі чырвоныя макі. Толькі зрэдку каля раз'ездаў пасвіліся адзінокія ішакі і вярблюды. Едзем даволі хутка. Паравозы замянілі на цепла-возы, якія здалёк здаюцца, быццам не маюць ні галавы, ні хваста, таму што кожны з іх склада-ецца з двух штук зчэпленых задамі. Чыгунка абсталявана даволі нядрэнна ў параўнанні з еўрапейскай тэхнікай. Насельніцтва амаль усё казахі, але на станцыях большасць рускіх.

Праязджалі цераз самую паўднёвую ака-нечнасць Уральскіх гор. Горы зусім старыя і разбураныя, нагадваюць сабой узгорыстую мясцовасць, але ў тых месцах, дзе былі зроблены высечкі для чыгункі, ясна былі відны скалы: па большасці яны былі шэрыя, але сяды-тады чыр-воныя і жоўтыя. Глыбіня выемак у некаторых месцах дасягала вышыні вагона. На паверхні ясна былі відны пласты пяску-вынік выветрыван-ня. Чыгунка часта рабіла павароты, абгінаючы катлаваны і горы. Мейсцамі скалы выступалі на паверхню, і тады ясна было відно, што тут некалі былі горы.

Пад вечар прыбылі на невялікую станцыю, пабудаваную ў паўпустыні толькі для змены паравозаў і паравозных брыгад, якія змяняліся сяды-тады і на раз'ездзде, дзе стаяў адзін стары вагон для зменных брыгад. Вакол станцыі не было відно ні аднаго паселішча - толькі аддзін сыпучы пясок, парослы беднай пустыннай расліннасцю. На самой станцыі акрамя будак стрэлачнікаў і дэпо для цеплавозаў амаль не было ніякіх пабу-доваў. Стаялі тут гадзіны тры. На гэтай станцыі нам у першы раз дазволілі адчыніць дзверы на цэлую гадзіну.

- Вам то дадуць пытлю, - сказаў з украін-скім говарам абходчык.

У 20 гадзін 15 хвілін прыбылі на станцыю Чалкар, якая мне вельмі спадабалася. Сама стан-цыя была невялікая. На станцыі стаяў пасажырскі цягнік, з акна якога нас адразу заўважылі. Як толькі наш цягнік спыніўся, нас выпусцілі па ваду, якую мы набралі тут жаз калонкі.

- Куды вы едзеце? – спыталі нас з вагона.
- Не ведаем, - адказалі мы.
- Вы заключонныя? – зноў пачуўся голас.
- Не.
- Дык чаму ж вы пад замком?

Гэтыя людзі былі, відаць, яшчэ не заёмыя са спецпасяленцамі, хаця і ехалі яны з краю, дзе спецпасяленцаў было вельмі шмат. Пасля адпраў-лення цягніка мы хадзілі па кіпяток і абед, хаця ўжо быў вечар.

На невялікім пероне гуляла моладзь "Гу-ляў некалі так і я", - нявольна прыйшло ў галаву, а надушы зрабілася невыносна цяжка, быццам нехта неасцярожна закрануў балючае месца, рану, якая была нанесена Міністэрствам Дзяр-жаўнай Бяспекі, хаця я і неўяўляў небя спекі для дзяржавы. Вясна тут ужо прыйшла цалкам. Дрэвы былі апрануты ў маладое лісце, што блішчала пад электрычным святлом. У час чакання абеду я разгаварыўся са сваімі суседзямі па вагонах. Сярод іх былі і цудоўныя дзяўчаты, з якімі ў іншы час можна было б добра пагуляць. Міма нас прайшлі дзяўчаты, з якімі наш праваднік перакінуўся некалькімі жартоўнівымі фразамі. "Некалі за такімі бегаў і я, а цяпер не да гэтага", - падумаў я.

- Што гэта за жыццё? – сказаў патрульны. Размаўляючы з адным з нашых хлопцаў, - ужо чацвёрты год служу. Хаця і вольным лічуся, а сам сабе не гаспадар і свабоды мала бачу. У гэтым годзе абяцалі адпусціць, а ўсё яшчэ не пускаюць.

Падчас размовы мне спадабалася адна дзяўчына, якой я зусім не ведаў раней і якую цяпер ведаў толькі, як суседку па вагону. "Калі будзем разам, то абавязкова пакручу з ёю". Але гэта не спраўдзілася, таму што жыць разам нам не давялося, і сустракаліся мы з ёю толькі зрэдку.

-Калі атрымалі абед, нас адразу замкнулі ў вагон. Рэпрадуктар на пероне трансляваў канцэрт з Масквы. Сёння ж нядзеля, перадаюць вельмі добры канцэрт па заяўках. Пасля за-канчэння канцэрту пачаліся апошнія навіны. Стоячы, прыціснуўшыся да дзвярэй і гледзячы цераз шчыліну на перон, я чуў знаёмыя словы дыктара, якія слухаў некалькі гадоў падрад амаль кожны дзень. Разам з голасам дыктара, які даносіўся з боку перона, да мяне даносіліся ўспаміны майго мінулага жыцця, якое цяпло так далёка: дома і ў Лідзе, у Маладзечне і Гародні. І ўсё мінулае цяпер скончылася, быццам сон.

**28 красавіка 1952 г.**

Бесперапынна, цэлую ноч ступалі калёсы вагонаў на стыках рэйкаў, адлічваючы пятую тысячу кіламетраў, а за вагонам у цемры ночы. Быццам бяссменныя вартавыя, якія пільнуюць стальную дарогу, мільгаюць тэлеграфныя слупы. Раніцай пачаў дуць халодны вецер з поўначы, быццам стараючыся нагнаць хуткія вагоны і прылашчыць іх яшчэ раз сваім халодным поды-хам. У 8 гадзін 40 хвілін раніцы прыбылі на невялікую станцыю, размешчаную сярод сыпучых пяскоў. Пясок тут быў усюды: ён, як вада, імкнуўся пранікнуць у самую малую шчыліну. Самы малы подых ветру падымаў пыл, ад якога ўсё станавілася шэрым.

Мы хадзілі па воду навадакачку. Калі я кінуў погляд на зямлю, што была ў мяне пад нагамі, то мне падалося, што гэтая зямля ніколі не бачыла вады. Каля вагонаў праходзілі казахі; апрануты яны ў нацыянальную выпратку, асабліва жанчыны, якія на хаду займаліся ручной працай, трымаючы ў кішэні клубок, а ў руках пруткі.

Невялікія прыпынкі на раз'ездах, дзе нікчэмныя глінабітныя нізкія хаткі заносіць сыпучы пясок, і дзе вада на вагу золата, і мы едзем далей і далей. Нішто не можа парушыць пустату ў моры пяску і беднай раслiннасці. Колькі б не ехалі, здаецца, што мы стаім на месцы ці ад'ехаліся зусім недалёка: пясок і калючка – усё, што аздабляе пейваж, які цягнецца ўжо другія суткі за вузкім акном вагона.

Вось невялікая станцыя "Аральскае мора", размешчаная на беразе заліва Аральскага мора, на якую мы прыбылі гадзін у 11. Невялікая колькасць домікаў, сярод якіх выдзялялася некалькі пабудаваных па еўрапейскаму тыпу, была раскідана без усякага парадку, быццам не ведаючы, да чаго прыхінуцца, да чыгункі ці да прыстані. Па крывых завулках, вуліцах і пусты-рах вецер падымаў пыл, хаця вада была тут жа; пры высаханні вады заставаліся белыя паласы, якія ўказвалі на былую яе прысутнасць. Вада, відаць, была салёная. За станцыяй былі відны некалькі баржаў, якія быццам чайкі драмалі на пясчаным беразе. Сама станцыя зусім невялікая і хутчэй нагадвае раз'езд у нашых месцах, чым станцыю. Праязджалі ў некаторых месцах каля возера, якое было зусім пустое. Пясок і вада: вось якое ўражанне засталося ў мяне ад Аральскага возера. Пад вечар на двух прыпынках, размеш-чаных, відаць, паблізу ад Аральскага мора, з'явіліся казахі, якія прадавалі варанае малако, воўну, сырую і вэнджаную рыбу. Малако куплялі з сумненнем, гаворачы, што яно вярблюджае, рыбу вэнджаную куплялі ахвотна, але наесціся яе было нельга, таму што яна была моцна высушана, сырую рыбу і воўну ніхто не купляў, таму што воўна нікому не была патрэбная, а сырую рыбу нам не было дзе варыць. Казахі тут займаліся жывёлагадоўляю і рыбалоўствам, а мы ехалі праста на поўдзень. Зусім пустэльная мясцовасць з беднай пустэльнай раслiннасцю пачала саступаць месца больш ажыўленай, але ўсё яшчэ дзікай паўпустэльнай раслiннасці.

З правага боку сталі відаць залівы рэчкі Сыр-Дар'і, парослыя тыснягом.

**29 красавіка 1952 г.**

Раніца 29 красавіка не прынесла з сабой нічога новага: зноў неба ды пясок, які струменіўся і пераліваўся з месца на месца ад найменшага падыху ветру. Падвечар прыбылі на станцыю Кзыл-Арда. Якая з'явілася так жа знянацку, як пасля і знікла. Гэта быў невялікі гарадок з пабудовамі еўрапейскага тыпу пераважна каля вакзала. Увесь у зелені, са стройнымі паўднёвымі таполямі, якія высока ў неба ўзносілі свае вяр-шыні. Насельніцтва ў асноўном рускае, якое са здзіўленнем глядзіць на нас, і ахвотна з намі размаўляе.

Гэта было тыповае сярэдне-азіяцкае пасе-лішча. Стаянка была нядоўгай і неўзабаве за акном вагона знікла прыгарадная зелень, і зноўку задыміліся пяскі; толькі ў некаторых месцах былі відны залівы Сыр-Дар'і. якія падходзілі да самай чыгункі зараслямі трыснягу. Я падоўгу прастойваў каля шчыліны, выразанай намі ў дзвярах вагона, каб можна было стоячы бачыць, што робіцца за вагонам, таму што цераз акенца ўсім глядзець было не зручна, ды і сядзець ужо надакучыла. Тут я ўпершыню ў сваім жыцці ўбачыў, як малоцяць быкамі, ганяючы іх круж-ком па кукурузе.

**30 красавіка 1952 г.**

Ноччу было халаднавата, хаця і ехалі ў паўднёва-ўсходнім кірунку. Пустыня пачала ўступаць месца стэпу, дакладней, паўпустыні. Але была вясна, і паўпустыня была пакрыта морам траў з ярка-чырвонымі макамі, што выра-зна выдзяляліся на фоне травы: восенню ўвесь стэп выгараў, станавіўся жоўтымі панылым, адна-абразным на сотні кіламетраў. Па дарозе су-стракаліся толькі раз'езды, у якіх не было нават назваў, а толькі нумары. У 11 гадзін прыбылі на станцыю Арысь, размешчаную на злучэнні дзвюх калей у зусім паўпустыннай мясцовасці.

Хаця пасажыры называлі яе "галоднай Арыссю", але нас яна сустрэла не голадна, таму што нам давалі абед. Дзень быў цудоўны, цёплы, на небе ні аблачынкі, адно толькі сонца, як распалены дыск, ззяла на ім. Мы выйшлі на перон, упрыгожаны з нагоды Першага траўня. Два вялікія партрэты Леніна і Сталіна і вялікі белы голуб-сімвал міру, упрыгожаныя электрычнымі лямпачкамі красаваліся на сярэдзіне вакзальнага будынка. У праходзе, які вёў на прывакзальную плошчу, таўклося шмат народу, купляючы ў ларках, размешчаных па абодва бакі, усё неаб-ходнае на свята.

На прыакзальнай плошчы, засаджанай дрэвамі, была размешчана сталоўка, якая раз-мяшчалася тут толькі на лета.

- Мы вас тры дні чакалі, - сказала нам маладая павcovарыха.

- А мы вас усё жыццё чакалі,- адказаў я.

За Арыссю, якую мы пакінулі прыблізна ў гадзіну дня, зноў пачаўся стэп. Хаця да Таш-кента засталося 120 км., але мы не даехалі да яго нават да вечара, таму што прастойвалі на раз'ездах. Нас папярэдзілі, каб збіралі рэчы. Усе пачалі капашыцца, збіраючы і звязваючы ўсё тое, што было распакована ў час дарогі. Так пра-даўжалася каля гадзіны, а пасля гэтага наступіла маўчанне ці нават плач. Нешта журботнае авалодала ўсімі; відаць кожны прадчуваў тое цяжкае жыццё, якое чакала нас. Цяпер нашая дарога сюды падавалася нам ужо радаснай і светлай.

Хаця б даехаць да Ташкента, такое жа-данне авалодала кожным, хто глядзеў на галодны стэп. З гэтым жаданнем сустрэла нас і ноч, абарваўшая яго, і разам з ім наша падарожжа пад штыком.

**1 траўня 1952 г.**

У ноч з 30 красавіка на 1 траўня 1952 г. мы прыбылі на невялікую станцыю, на якой павінны было

скончыцца нашае падарожжа. Паравоз пачаў манеўраваць, заганяючы наш цягнік на бакавую каляю пад рампу і нарэшце спыніўся. Усё гэта я адчуваў толькі праз сон, і прачнуўся я, калі мы ўжо стаялі побач з рампай. Цёмнае паўднёвае неба, усыпанае безліччу яркіх у паўднёвых шыротах зорак. Стройныя вяршыні паўднёвых таполяў, сілуэты якіх чарнелі ў змроку, аганькі ў станцыйным доміку - вось і ўсё, што мы маглі бачыць у змроку ночы цераз вузкае акенца таварнага вагона, з якім ужо прыйшоў час расстацца. Недзе поблізу чулася грубая руская лаянка, якая згладжвала аднатонны шум фнтана. У дзверы пастукаў наш праваднік і сказаў, каб ішлі ў вагон па інструмент (пілы, сякеры, рыдлёўкі і г.д.), калі хто іх здаваў. Я выскачыў з вагона і адчуў пад нагамі ходнік, які пераходзіў у рампу каля наступнага вагона. Тая ж карціна, што была відна з акна вагона, толькі больш абшырная, рассцілалася вакол нас. Пасля гэтага нас больш не выпускалі з вагона. Куды нас завязуць: у калгас ці на будоўлю – вось асноўная думка, якая нас трывожыла. З на-ступленнем світання мы даведаліся, што стаім на невялікай станцыі Кемчсе Ташкенцкай чыгункі за 12 км. ад Ташкента. Наш цягнік зноў пачалі папіхаць то ўзад, то ўперад. І за акном нашым праплывала пышная расліннасць поўдня. Народ святочна апрануты, пачаў збірацца на вакзале ў чаканні прыгараднага цягніка, каб адправіцца ў Ташкент на святкаванне Першага траўня. Тут былі старыя і дзеці, украінцы і рускія, узбекі і казахі. Але ўсё, што іх аб'ядноўвала, гэта лёгкая паўднёвая вопратка. Некаторыя казахі і ўзбекі, асабліва жанчыны, былі апрануты ў нацыя-нальнае адзенне. Увесь гэты натоўп, пярэсты ў сваіх яркіх каляровых апранахах, амаль абыя-кава, не выказваючы ніякага здзіўлення, глядзеў на нас. Недзе чуўся гармонік. Я ўсё гэта бачыў цераз шчыліну вагона. Ці думаў я калі небудзь, будучы школьнікам, калі мы ў гэты дзень, у гэты час збіраліся ісці на дэманстрацыю, што праз некалькі гадоў буду сядзець у вагоне, замкнёным на замок, і глядзець, як народ збіраецца ехаць у Ташкент, каб там адсвяткаваць Першае траўня. Не думаў я пра гэта і летась, калі Першае траўня сустракаў у Маладзечне студэнтам настаўніц-кага інстытута.

Помніцца надвор'е з раніцы было цудоў-нае, і мы збіраліся каля інстытута, каб адтуль ісці ў арганізаваных прадку на дэманстрацыю. Мы зшыхтаваліся. Паперадзе ішлі тыя, хто нёс плакаты і партрэты, а за імі фізкультурныікі. Калі мы прышлі на па-святочнаму прыбраную плош-чу, то пачало вельмі парыць. Збіралася на-вальніца. Пасля адкрыцця мітынгу пачалася дэманстрацыя. Мы перад трыбунай паказвалі фізкультурныя нумары. Па дарозе назад у інстытут нас застала навальніца. Пасля дэ-манстрацыі нам давялося добра выпіць у майго гаспадара. А вечарам былі танцы, але я не хадзіў, таму што трэба было ехаць дадому, і я павінен быў ісці на цягнік. Так было год назад. Так было ці падобна на тое, а, можа быць, і яшчэ весялей два, тры… гады таму назад. Хіба можна было згадаць усе штукі, утвораныя ў гэты дзень. А сёння я маю права толькі паглядзець цераз шчыліну вагона на тое, як збіраецца народ, дакладней нямногія для гэтай мясцовасці, як я даведаўся пазней, каб адсвяткаваць гэтае свята, а праз некалькі гадзін я буду пазбаўлены і гэтай магчымасці, будучы закінуым далёка ад гэтай станцыі і ўсяго культурнага свету ў паўпустынны стэп, дзе людзі, мясцовыя жыхары, канешне, у большасці сваёй не маюць ніякага ўяўлення пра сапраўднае свята, а ведаюць толькі адно – працаваць. Вось падышоў прыгарадны цягнік, і народ, які сабраўся на пероне, адправіўся. Каля нашых вагонаў пачалі з'яўляцца, акрамя мэ-бэшнікаў і людзі ў цывільным. Іх пазней празвалі "купцамі" за тое, што яны нас куплялі, ды толькі грошай не плацілі, а МДБ давала нас ім бяс-платна. Гэта быў старшны гандаль, продаж белых рабоў, які адбываўся ў 20-мы стагоддзі пад кіраўніцтвам Міністэрства дзяржаўнай бяспекі і па ўказанні ўраду. Да нас прышоў наш правад-нік і яшчэ нейкі чалавек высокага росту ў цывільным. Праваднік сказаў, што ён больш не мае ніякай справы і, паказваючы на чалавека ў цывільным сказаў, што гэта наш будучы гас-падар, і што нас адправяць у калгас. Наступіла ўсеагульная журба. Слова "калгас" зусім па-дарвала настрой, які і так быў, ніжэй не бывае. Пасля гэтага чалавек у цывільным з'яўляўся яшчэ некалькі разоў, сказаўшы, што ён прад-стаўнік з калгаса імя Сталіна, у які нас адправяць у колькасці апошніх шасці вагонаў. Гэта быў экспедытар з калгаса імя Сталіна, размешчанага ад станцыі Кемсе за 70 км., па імені Жарабай, як я даведаўся пры гэта пазней. Потым ён ізноў з'явіўся і сказаў, што два апошнія вагоны адабралі, і яны пойдуць у калгас "Камуна" за 35 км ад гэтай станцыі. Як я потым даведаўся ад яго самога, срава была ў тым, што МДБ з нагоды свята не хацела доўга вазіцца з намі і старалася хутчэй нас распіхаць у бліжэйшыя калгасы, і яму было адмоўлена, але ён падаў заяву прадстаў-ніку з Масквы, які тут быў, і тады яму далі чатыры вагоны.

Мы ўжо бачылі, як у пярэдніх вагонах ішла выгрузка, але вось наш цягнік, дакладней, апошнія яго вагоны падагналі да рампы. Дайшла чарга і да нас. Да нашага вагона наблізіўся натоўп эмдэбэшнікаў начале з самім палкоўні-кам. Адчынілі дзверы, загадалі нам усім сесці і ска- залі, што калі будуць называць прозвішча, кожны павінен сам сказаць: "Я". Вось маёр, які прывёз нас, дастаў спісы кожнай сям'і і падаў іх пал-коўніку-казаху, які крэхчучы павольна называў нас кожнага па празвішчы, імені і імені па бацьку. Скрозь аркуш паперы, які прасвечваўся, я бачыў, як у слупок былі ўпісаны ўсе члены сям'і, пачы-наючы з галавы сям'і, а ўнізе стаялі подпіс і пячатка. Гэта быў сапраўдны дакумент, які сведчыў, што мы спецпасяленцы. Пасля таго, як палноўнік называў новае проазвішча, ст. лейтэнант запісваў яго на лісток паперы. Пасля заканчэння гэтай цырымоніі палкоўнік злажыў спісы ў сумку, сказаў нам, каб выгружаліся і нікуды не адыходзілі, і ўсе адправіліся да на-ступнага вагона.

Мы выгрузіліся на рампу хутка, таму што нас бесперапынна падганялі.

Дзень быў гарачы, і я заліўся потам. Зараз можна было адпачыць, пакуль пададуць машыну пад пагрузку. Я стараўся даведацца сёе-тое пра калгас, у які нас адправяць. Звесткі былі не вельмі прыемныя.

Кароткімі фразамі я перакідваўся з тымі, хто быў спадарожнікамі і таварышамі па дарозе і па будучым жыцці.

Але вось падагналі машыну, мы пагрузілі-ся, і машына стала ў шэраг машын, гатовых да ад’езду. Усе сядзелі на машынах, каля якіх снавалі МДБэшнікі, лічачы і пералічваючы нас. Вось мы крануліся. На нашай машыне аховы не было. Мы выехалі са станцыі і паехалі па шашы, абсаджа-най таполямі. Дзень быў выдатны, і вяршыні гор, здавалася, быццам гараць у алмазах, ззяючы снегам на сонцы. Тое, што дома я мог бачыць у кіно ці на паперы, то тут бачыў наяву. Якія прыгожыя гэтыя горы, што блішчаць на сонцы сваімі векавымі снягамі на фоне блакітнага вясенняга паветра. Як далёк арыгінал ад выявы на паперы.

Шаша перайшла ў гасцінец, па абодва бакі якога рассцілаўся стэп. Пасля прыпынку ў невялікім гарадку, па-моему ў Сары-Агачы нашы дзве машыны адсталі і паехалі па іншай дарозе, чым папярэднія. Вакол быў стэп. У адным месцы насустрач нам выйшаў чалавек: “Co na rodzina jedziece?” – сказаў ён з варшаўскім акцэнтам. - “ Juz my sobie palac postawili”, пасля чаго ён паказаў на глінабітны домік. Неўзабаве пачалася дрэнная дарога і шафёр неаднаразова лаяў рэспубліку і яе парадкі. Спыніліся ў адным калгасе, нам сказалі, што гэта Калгас імя Абая, што да “Сталіна” 8 км. Але вось і само Сталіна. Ужо некаторыя выгрузіліся. Нас павезлі далей.

– Кантор, кантор? – гаварылі казашкі, паказваючы на глінабітны будынак са сцягам на доўгай тычцы. Мы страцілі ўсялякую арыенці-роўку і ехалі быццам бараны, якіх вязуць, дзе хочуць. Якая дзікасць. Быццам у кінафільме “Тарзан”. Я ніколі не ўяўляў, што людзі могуць жыць так дзіка. Маладыя казашкі, якія ўлезлі да нас у машыну, былі апрануты па-нацыяналь-наму: на галаве чырвоная хустка, завязаны назад, прызнак таго, што яны дзяўчаты, а не жанчыны. З-пад хустак былі відны чорныя косы, з уплеценымі ўпрыгожваннямі з ланцужка спая-ных капеек, а на канцы заканчваліся кутасамі з чорных нітак у бляшанай аправе. На саміх былі апрануты чорныя гарсэты з аксаміту паверх чырвоных або ярка-чырвоных сукенак. На правай і левай руках былі бранзалеты з бляхі. На нагах былі драхлыя боты, на якіх былі надзеты галёшы з востраверхімі насамі. Амаль ніхто з іх па-руску не ведаў ні бум-бум, акрамя аднаго хлапчука, які ведаў некалькі дзесяткаў рускіх словаў. Вось машына сустрэла такую ж машыну са спецпаяленцамі і спынілася.

- Дзе ж Сталіна, - спытаў я ў шафёра.

- Вось гэта і ёсць, - адказаў ён.

На нашую машыну селі два МДБэшнікі, і мы паехалі далей. Пад’ехаўшы да канторы машына спынілася, а потым заехала на вялікі двор для жывёлы, абнесенага глінабітнай сцяной і пад’ехала да ляпнянкі з невялікім акенцам, у якім заміж шыбаў тырчалі жалезныя пераркладзіны.

- Што, тут згружацца? - спытаў я.

Некалькі казахаў і шафёр пагаварылі паміж сабой, а шафёр, выходзячы з цёмнай ляпнянкі, з якой паскудна несла, сказаў:

-Жывуць спецперасяленцы і ў не такіх. Гэта яшчэ добра.

Завялі машыну і ўжо выязджалі з двара, як падышлі малодшы і старэйшы лейтэнанты і вылаяўшыся чатырохпавярховым матам сказаў:

- Што яны, у… іх маць, галаву тут дураць. Якіх кватэры яны яшчэ хочуць? Куды мы іх яшчэ павязём?

Але перакінуўшыся паміж сабой некалькімі словамі змоўклі і павезлі далей. Вось удалечыні паказаўся невялікі садок і дзясяткі два ляпянак. Мы пад’ехалі да першай ляпянкі, якая стаяла каля дарогі, і пачалі выгружацца…

**Пра першыя два гады жыцця ў Казахстане.**

Участак Бярлік калгас імя Сталіна лічыўся трэцім, быў дальнім. Усе тры ўчасткі былі раз-мешчаны з правага боку рэчкі Куркелес. З правага і левага бакоў рэчкі былі ўзгоркі Га-лоднага стэпу. Пасялілі нашу сям’ю і яшчэ пяць сямей на ўчастку Бярлік. Гэта былі сем’і Лінга. Бальцэвічаў і Стрыбуцяў. Прозвішчы яшчэ дзвюх сямей не памятаю. Адна з іх складался са старой хворай жанчыны, якая ў 1953 годзе памерла і дзвюх дочак, адну з якіх звалі Гэляй, другая сям’я складалася з маладога мужа, жонкі і дваіх дзяцей ва ўзросце да 10 гадоў.

Жытло ўяўляла сабой старыя глінабітныя домікі з адным ці двума вокнамі без рамаў, проста ў сцену ўстаўлена шкло.У праходах збітыя з дошак дзверы, сякія-такія агмені цяпла. Акрамя нашых сямей былі сем’і азербайджанцаў і грузін. іх пасялілі раней, і жытло ў іх было лепшае. Прыкладна цераз 10 дзён пасля пасялення пры-ехаў малады казах у форме лейтэнанта МДБ. Загадаў усім сабрацца каля доміка, дзе жыла сям’я Стрыбуцяў, прадставіўся камендантам спецкамендатуры, а свайго памочніка прадставіў надзірацелем, аб’явіўшы, што спецкамендатура знаходзіцца ў пасёлку Учахты, дзе і МТС калгаса. Зачытаў правілы паводзінаў, у якіх дазвалялася перамяшчацца толькі па тэрыторыі спецкамен-датуры. Пры выездзе за межы спецкамендатуры трэба браць дазвол у яго, іначай будзе лічыцца ўцёкамі. Кожнаму паўналетняму ўручыў ліст паперы, у якім трэба было падпісацца, што азнаёмлены з рашэннем прэзідыюму ўраду СССР аб перасяленні навечна ў гэтую мясцовасць Казахстана. У выпадку ўцёкаў будзеш асуджаны на 25 гадоў катаржных работ. А таксама пера-лічваліся правы і абавязкі перасяленца. Захоў-валася права выбіраць і быць выбраным, права на адукацыю. Кожны працаздольны павінен працаваць, як я запомніў.

На другі дзень пасля пасялення ў двары зрабілі з падручнага матэрыялу прымітыўныя агмяні для прыгатаўлення ежы. Крыніцай цяпла была сухая вярблюджая калючка і розная ле-ташняя сухая трава, якая была каля дома. Студні на ўчастку не было, ваду бралі з цэнтральнага арыка. Вада была светлакарычневага колеру ад растворанай у ёй гліны. За ноч гліна выпадала ў асадак, і вадой можна было карыстацца. Быў пачатак траўня. Трэба было саджаць

агарод. Я разам з маці ўскапаў агарод каля арыка, каб можна было паліваць, г.зн. пускаць ваду з арыка на агарод. Параблілі разоры, як прадзіў мясцовы жыхар-сусед, які трохі гаварыў па-руску, і па яго парадзе пасадзілі агарод. Я расканаў за домам участак, і пасадзілі бульбу. Я хадзіў на бавоў-навыя палі і разам з казахамі падпраўляў разоры пасля трактара для паліву бавоўны. Карыстаўся вялікай матыкай, якая называлася "кітмен", а мая прафесія "кітменшчык". Пасля я перайшоў у арбанешы, г.зн. у возчыкі, развозіў угнаенні на параконнай брычцы. Так там называлі воз. Маці хадзіла на работу ў паляводную брыгаду. Туды ж хадзіла і дачка Лінга, і старэйшая дачка Бальцэвіча. За адзін працадзень калгас даваў адзін кг. кукурузы, у асноўным на паперы. Маці даглядала агарод, а адзін раз у тыдзень ноччу я паліваў. Днём ваду для паліву не давалі.

Прадукты, прывезныя з Беларусі скончы-ліся і давялося пераходзіць на тутэйшы корм. Пазычалі ў казахаў жорны, якія ўяўлялі два плоскія камяні, у адным у сярэдзіне была скразная дзірка і адна "сляпая" з краю. На разасланы на падлозе абрус клалі камень са штыром, а на яго камень з дзіркай. У сляпую дзірку ўстаўлялі кавалак палкі, сядаліся каля камянёў і, насы-паўшы кукурузу ў скразную дзірку, пачыналі круціць. Атрымоўвалася нешта падобнае на крупы. З гэтых крупаў маці на вадзе рыхтавала кукурузную кашу, якою і харчаваліся. Калі на агародзе з'явіліся агуркі, дыні і іншая гародніна харчаванне стала больш разнастайным.

Брыгадзір параіў дыні і кавуны адвезці ў стэп і ў чабаноў абмяняць на ягня ці казляня, што я і зрабіў. Два дні бадзянняў па галодным стэпе не далі вынікаў. Затое я ўбачыў, як жывуць вандроўнікі (качэўнікі).

З сярэдзіны чэрвеня пачалася 42 гр. гара-чыня. Травы ў стэпе высахлі, я некалькі разоў пяшком хадзіў у райцэнтр Абай у пошуках працы. Звычайна выходзіў у гадзіны тры пасля абеду з дому і ішоў, пакуль не пачынала цямнець. Калі цямнела, уладкоўваўся ў бліжэйшым стозе і спаў да раніцы. Раніцай падымаўся і ішоў далей у МТС Учахты да камендатна. Прасіў у яго дазволу схадзіць у Абай, прыдумаўшы для гэтага прычыну. Ад Берліка да Учахты было 40 км. А ад Учахты да Абай-Базара – 12 км, але гэты шлях можна было праехаць на спадарожнай машыне. Абай-Базар быў райцэнтр сельскага тыпу, і знайсці ў ём працу было цяжка: і я вяртаўся на наступны дзень ні з чым, таксама пяшком.

Пасля доўгай сухой восені пачаліся зама-разкі. На полі заставалася шмат недаспелых каробачак бавоўны, якія збіралі ўручную. За 40 кг. каробачак плацілі 2 кг. пшаніцы. Маці пры зборы каробачак абмарозіла пальцы на руках.

З малодшай сястрой і братам згадзілася займацца настаўніца, якая вяла рускую мову ў казахскай школе, за адпаведную плату.

Я нарабіў з гліны нечага падобнага на цагліны і склаў пліту ў доміку, прыспасобіўшы яе да старога коміна. Зімой на пліце рыхтавалі ежу, і яна давал трохі цяпла. Было галадна і холадна.

Вясной 1953 года пачалося ўсё спачатку: агарод, у калгасе пасяўная. Але я ўжо працаваў улікаўцом у МТС у калгасе імя Сталіна. За працу атрымоўваў мала. У пачатку кожнага месяца трэба было ісці да старшыні калгаса і выпрош-ваць гектары апрацоўкі. Інакай трактарыст не толькі нічога не зарабляў, а заставаўся б віна-ватым, асабліва гэта тычылася тых трактары-стаў, хто працаваў на калёсных трактарах ХТЗ, перарасход паліва і змазачных матэрыялаў быў вялікі.

У жніўні 1953 года сярэдняя сястра пасту-піла ў Камплабекскі с-г тэхнікум. А мяне накі-равалі настаўнікам матэматыкі ў школу. Жыць я пачаў у дапгасе № 1 САОУВСМУС. У кастрыч-ніку да мяне прыехала маці з малодшымі братам і сястрой. Тут можна было купіць у краме хлеб, топлены свіны тлушч. Вясной маці пачала працаваць у парніках. Можна было тайком на калгасаўскай машыне з'ездзіць у горад Янгі-Юль, Ташкент. Была зарплата. Жыць стала лягчэй.

### *З АЎТАБІЯГРАФІІ*
### *Бельскага Мікалая Уладзіміравіча*

*… У калгасе працаваў у 1952 г. кетменшчы-кам (паліваў бавоўну), арбакешам (возчыкам) і ў пачатку 1953 г. – уліковец трактарнай брыгады Учахцінскай МТС у калгасе імя Сталіна. У верасні 1953 г. прызначаны настаўнікам матэматыкі ў рускіх класах школы ў калгасе імя К. Маркса. Побач з калгасам імя К. Маркса знаходзіўся падгас № САОУВСМУС, дзе жылі рускія, украінцы, карэй-цы, спецпасяленцы з Беларусі, таму ў школе былі класы з рускай мовай навучання. У 1954 г. я атрымаў дазвол у спецкамендатуры для паездкі ў абласны горад Чымкент, дзе паступіў на завочнае аддзяленне Чымкенцкага настаўніцкага інстыту-та, які закончыў з адзнакай у 1956 г. на гэты час з мяне было знята спецпасяленне, і я мог жыць у любой мясцовасці акрамя Гарадзенскай вобласці, Масквы і Ленінграда. Я вырашыў выехаць з Казах-стана. Дзяржэкзамены ў інстытуце закончыліся ў першай палове жніўня, і я адразу выехаў у Бела-русь…*

***Яшчэ трохі пра бацьку Бельскага Уладзіміра Іосіфавіча, асноўнага "вінаватага" майго зло-манага жыцця.***

*Пасля майго ад'езду з Казахстана ў Бела-русь бацька шмат працаваў. Пасля працоўнага дня на будоўлі плотнікам бацька з Жамойдзінам Вікенціем ішлі на шабашку. Г.зн. на будоўлю дамоў у прыватным сектары, дзе працаваў да 23 гадзін. А раніцай ішлі на 8 гадзін на дзяржаўную працу. Сабраўшы трохі грошай, у першай палове 60-х гадоў мінулага стагоддзя бацька купіў дом далёка не першай маладосці з участкам у 6-7 сотак і часовай будкай недалёка ад цэнтра старога горада. Бацьку давялося шмат папрацаваць, каб прыдаць купленаму жыллю выгляд прыдатны для жыцця. Была заменена старая страха на доме і будцы на шыферную, была пераслана падлога ў доме, заменена частка акон і дзвярэй, пабудаваны навес, рэканструявана студня. Пабудаваны хлеў, з катухамі для ўтрымання свіней, курэй, пад склад. Перад гэтымі пабудовамі была майстрэня для работы па дрэву. З механічных*

*інструментаў была толькі цыркулярка, астатнія работы выконваліся уручную. Тут бацька парабіў філёнкавыя дзверы для дома, вокны, а ўжо пазней і для дачок. Замяніўбольшую частку агароджы, зрабіў браму для ўваходу і ўезду ў двор. Плошчу двара забетанаваў, праклаў дарожку з цыменту ад дома да хлява. З аднаго боку дарожкі раслі розныя сарты віна-граднай лазы. Каля навеса пабудоваў два парнікі па 6-7 м. пазней пабудаваў міні-цяпліцу з водным ацяпленнем і летні душ. У парніках і цяпліцы вырошчвалі агуркі, расаду памідораў і памідоры. У хляве гадаваліся свіні. Лішкі прадуктаў прада-валіся на гарадскім рынку. І ўсё гэта рабілася пры аднач асовай працы на будоўлі. У канцы 60-х быў пабудаваны вадаправод і падведзены прыродны газ. Траншэі пад вадаправод і газаправод глыбінёй больш за метр у глiністым грунце бацька выкапаў уручную сам. У доме было зроблена вадзяное ацяпленне. Перад тарцом дома быў газон для кветак. Усё гэта было зроблена на сёмым дзесятку гадоў жыцця бацькі.*

### *З АЎТАБІЯГРАФІІ*
### *Бельскага Мікалая Уладзіміравіча*

*... У Міністэрстве асветы ў Менску мне адмовілі ў накіраванні на працу, спасылаючыся на адсутнасць свабодных рабочых месцаў, і я вырашыў ехаць у Ліду. Быў пачатак трэцяй дэкады жніўня месяца, шукаць працу ў іншых абласцях было позна. У Лідскім раёне мне далі накіраванне ў Баброўскую сямігадовую школу, дзе я прапрацаваў да другой паловы красавіка 1957 г. У красавіку месяцы мяне выклікалі ў міліцыю г. Ліды, і начальнік міліцыі загадаў на працягу трох сутак пакінуць Гарадзенскую вобласць. Хаваўся ў сваякоў, нелегальна жывучы на Гарадзеншчыне. У чэрвені месяцы паехаў у Калінінград і паступіў на завочнае аддзяленне педінстытута, а ў жніўні працаўлад-каваўся ў Быценскім раёне Берасцейскай вобласці дзе прапрацаваў да снежня 1972 г.*

*У Берасцейскай вобласці ў Даманаўскай сярэдняй школе мне трохі шанцавала. У 1960 г. закончыў педінстытут.*

*Мае вучні па матэматыцы паспяхова апраўдвалі свае адзнакі пры паступленні ў ВНУ г. Менска і Берасця. Мне была аб'яўлена падзяка заг. Рано г. Івацэвічы. У 1967 г. быў узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства асветы БССР. Са снежня 1972 г. па жнівень 1992 г. працаваў у школах г. Ліды настаўнікам матэматыкі. Узна-гароджваўся ганаровай граматай Лідскага гарана і Ганаровай граматай аблана.*

*З 01.09.1992 г. па 21.02.2000 г. працаваў вартаўніком у групе гаспадарчага абслугоўвання Лідскага раёна. Агульны стаж працы – 52 гады. Зараз на адпачынку. Жанаты, маю двух дачок. Старэйшая – доктар, працуе ў Маскве. Малодшая (Жалудовіч) – настаўніца пачатковых класаў 14-й школы г. Ліды.*

*Рэабілітаваны 25 траўня 1992 г.*

*Гады знаходжання па спецнасяленні мне залічаны ў працоўны стаж удвайне, да пенсіі даплачваецца 25% мінімальнай пенсіі.*

Я наведваў бацькоў цераз год ці цераз два, з сям'ёю ці адзін. Гэта быў лепшы час у маім жыцці.

У 1977 годзе памерла маці, а ў 1982 годзе памёр бацька. У доме бацькоў пачала жыць малодшая сястра са сваёй сям'ёю.

23 студзеня 1991 года Вярхоўны суд БССР пераглядзеў справу Бельскага У.І. і прыгавор Гарадзенскага абласнога суда ад 25 студзеня 1950 года і вызначэнне Вярхоўнага суда БССР ад 10 лютага 1950 года адмяніў, і справа была спынена за адсутнасцю складу злачынства. Бельскі У.І. па гэтай справе рэабілітаваны.

У траўні 1992 года мною была атрымана з УУС Гарадзенскага аблвыканкаму даведка аб рэабілітацыі ўсіх членаў сям'і Бельскага У. І.

У студзені 1993 года нам была выплачана кампенсацыя за канфіскаваную маёмасць па 20 тысяч рублёў на кожнага члена сям'і бацькі, застаўшыхся ў жывых, што складае мізэрную частку ўсяго канфіскаванага.

За жылы дом бацькі мы ад грашовай кампенсацыі ў 17448 руб. адмовіліся, таму што за яе ў той час нельга было купіць нават уваходныя дзверы. У вяртанні дома нам было адмоўлена.

### **Лёсы рэпрасаваных лідзян.**

У 1956-57 гадах было цалкам знята спецпасяленне з усіх рэпрасаваных, што жылі ў Паўд-нёва-Казахстанскай вобласці.

У 1957-58 гадах усім, хто лічыўся па дакументах палякам была дадзена магчымасць выехаць у Польшчу, чым і скарысталіся 98-99% пераселеных. Пра іх далейшыя лёсы я не ведаю.

Мае землякі ў Польшчу не выехалі таму, што на дакументах значыліся беларусамі.

У канцы 50-х гадоў мінулага стагоддзя мой бацька, **Бельскі Уладзімір Іосіфасіч**, наведва-ючы родных у Беларусі, спраўваў працаўлад-кавацца ў будаўнічыя арганізацыі Гародні і Ліды. Але атрымаў адмову з-за ўзросту. Вярнуўся ў г. Чымкент і працаваў плотнікам да лютага 1977 года ў Чымкентбудзе. Цераз усё сваё жыццё бацька пранёс любоў да працы, да зямлі, да будаўніцтва. Памёр у 1982 годзе ў г. Чымкенце.

Маці, **Бельская Сафія Пятроўна**, восенню 1956 г. з малодшымі дзецьмі пераехала да бацькі ў г. Чымкент, працавала кухарам у дзіцячым садку, а пасля выхаду на пенсію дапамагала дочкам гадаваць унукаў. Памерла ў 1977 годзе.

Сястра, **Бельская Ірына Уладзіміраўна**, 1936 года нараджэння, перавялася з Камплабек-скага сіхтэхнікума ў Мар'інагорскі с/г тэхнікум. У 1957 г. скончыла і працавала аграномам у калгасе Іўеўскага раёна Гарадзенскай вобласці. У 1959 г. вярнулася ў Чымкент да бацькоў паступіла на завочнае аддзяленне ВНУ у г. Алма-Аце па спецыяльнасці эканоміка. Працавала эканамістам у будаўнічых арганізацыях г. Чымкента. Замужам, муж - доктар, ураджэнец Навасібірскай вобласці. Іх дачка Ніна працуе ў Іркуцку

доктарам.

Малодшая сястра, **Бельская Тацяна Уладзіміраўна**, закончыла сярэднюю школу ў г. Чымкенце і Чымкенцкі тэхналагічны інстытут. Працавала тэхнолагам у "Чымкентбудзе", замужам. Муж ураджэнец Алтайскага краю. Іх дзеці Лена і Анатоль маюць вышэйшую адука-цыю. зараз занятыя сярэднім бізнесам. Сама Тацяна Уладзіміраўна на пенсіі.

Брат, **Бельскі Анатоль Уладзіміравіч**, 1940 г. нараджэння, пасля заканчэння сямі класаў паступіў у Чымкенцкі будаўнічы тэхнікум, трагічна загінуў на ўборцы бавоўны ў 1959 г.

У 1958 годзе ў Беларусь з пасялення вяр-нуўся **Бельскі Пётр Іосіфавіч** са сваёй сям'ёй, якая складалася з жонкі **Бельскай Вольгі Іванаўны**, дочак **Тамары** і **Ганны**. Сын **Святаслаў** быў прызваны ў войска пасля зняцця пасянення яшчэ ў Казахстане. Пасяліліся яны ў сваёй былой каморцы. Свой дом яны прадалі для ўплаты падаткаў яшчэ ў 1946 годзе. Цераз некалькі месяцаў ім прапанавалі пакінуць месца жыхар-ства і выехаць з Гародзенскай вобласці. Яны нелегальна засталіся жыць сярод сваякоў і дабівацца дазволу жыць у Стоках. Такі дазвол быў атрыманы. Вярнуўся з войска сын Бельскі Святаслаў Пятровіч і пайшоў працаваць тракта-рыстам у калгасе ў Беліцы.

**Бельскі Пётр Іосіфавіч** заняўся агародам, сабралі трохі грошай, купілі карову.

Дачка **Тамара** пайшла працаваць афіцы-янткай у сталоўку ў Дзятлава, а малодшая **Ганна** ўладкавалася санітаркай у Лідскую бальніцу.

**Бельскі Пётр Іосіфавіч** пражыў у сваёй каморцы да смерці ў 1973 г.

**Бельская Вольга Іванаўна** хадзіла на працу ў калгас, працавала на падворку сына, а калі занемагла, яе забрала дачка Ганна ў Ліду, дзе яна і памерла ў 2001 годзе.

Сын **Бельскі Святаслаў Пятровіч** прапра-цаваў усё сваё жыццё ў калгасе імя Гагарына трактарыстам за добрую працу яго фатаграфія вісела на дошцы пашаны каля Лідскага райвы-канкаму. Калгасам яму была выдзелена кватэра каля Беліцы. Памёр ён у канц 90-х гадоў. Яго два сыны – трактарысты ў Беліцы.

**Бельская Тамара Пятроўна** выйшла замуж, па мужу **Шэндрык**, працавала прадаўцом у краме Беліцы. Зараз на пенсіі. Жыве ў Беліцы. Яе сын скончыў у Менску Інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Зараз прадпрымальнік у Менску. Дачка Тамары **Тацяна** рабочая завода "Оптык": у Лідзе.

**Бельская Ганна Пятроўна** ўсё жыццё пра-цавала санітаркай у бальніцы г. Ліды. Замужам, па мужу Гындзяк. У яе дзве дачкі. Старэйшая жыве і працуе ў Беліцы, малодшая – рабочая Лідскай абутковай фабрыкі.

Сям'я **Жамойдзіка Вікенція Антонавіча** і жонкі Любы складалася з дачкі **Іны Вікенцеўны** 1933 года нараджэння і двух сыноў **Веніяміна** і **Мірона.** Нарадзіўшыся ў канцы 30-х гадоў 20-га стагоддзя.

**Жамойдзік Вікенцій Антонавіч** асуджаны за няўплату падатку на 10 гадоў лагераў у канцы 40-х гадоў. У 1953 годзе ён быў этапам дастаўлены ў Паўднёвы Казахстан і далучаны да сям'і, якая на той час жыла ў раённым цэнтры Абай- Базар. Працаваў вартоўнікам. У 1957 г. пераехаў разам з сям'ёю ў г. Чымкент і пайшоў працаваць у "Чымкентбуд" плотнікам. Адкуль і пайшоў на пенсію. Памёр у 1980 годзе.

Яго жонка **Жамойдзік Любоў** пасля пера-езду ў г. Чымкент працавала нянечкай у дзіцячым садку. Памерла ў пачатку 80-х гадоў.

Іх дачка **Іна Вікенцеўна** ў Абай-Базары працавала ў райкаме камсамолу. Завочна закончыла Чымкенцкі педінстытут і працавала настаўніцай, завучам у школах Чымкмета. Была замужам. Нарадзіла і выхавала сына і дачку. Памерла ў 1978 годзе. сын Жамойдзік Веніямін Вікенцевіч закончыў сярэднюю школу ў г. Чым-кент і Чымкенцкі тэхналагічны інстытут. Праца-ваў у "Чымкентбудзе" інжынерам. Жанаты мае двое дзяцей.

Другі сын **Жамойдзік Мірон Вікенцевіч** закончыў сярэднюю школу. Быў рабочым на віназаводзе ў адным з раёнаў Чымкенцкай воб-ласці. Памёр яшчэ пры жыцці сваёй маці.

Сям'я **Панкевіч** складалася з мужа **Вінцука**, жонкі **Надзі** і чатырох дзяцей.

**Панкевіч Вінцук** быў глухі. У канцы 40-х гадоў быў асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі за няўплату падаткаў. Адбываў тэрмін у Навасадах Барысаўскага раёна. У 1953 годзе этапам быў дастаўлены ў Казахстан і далучаны да сям'і. якая на той момант жыла ў райцэнтры Абай-Базар, дзе ён і памёр у канцы 50-х гадоў.

Яго жонка **Надзя** памерла ў канце 50-х гадоў у Абай-Баразы. Іх старэйшая дачка **Стэфанія** выйшла замуж за рускага і паехала жыць у Ташкент.

Сын **Мадэст** жаніўся на настаўніцы рускай мовы. Вёў вандроўны лад жыцця па Сярэдняй Азіі. Памёр у 2002 годдзе ў Туркменіі.

Другі сын **Сямён** паехаў у Сібір. Жаніўся, іх дачка ў гэты час жыве ў Канадзе.

Дачка **Панкевіч Соф'я Вікенцеўна** жыве ў Алма-Аце.

**Паслямова. Мае вучні.**

Як ні кідалі мяне жыццёвыя нягоды, але ім не ўдалося далёка адкінуць ад асноўнай жыц-цёвай сцяжыны. У выніку большую частку свайго жыцця я займаўся тым, з чаго хацеў пачаць у ранняй маладосці, а менавіта, настаўнічаў.

У мяне, як і ў любога настаўніка, які ўсё сваё працоўнае жыццё аддаў школе, вучняў было шмат. Я іх сустракаю на вуліцах горада, у грамадскім транспарце, але больш за ўсё на юбілеях школаў, у якіх я працаваў.

Мае першыя вучні - дзеці рабочых дапгасу ў галодным стэпе паўднёвага Казахстана. З хваляваннем я ўглядваюся ў іх твары на пажаў-целай фатаграфіі 1954 г. і ўспамінаю прозвішчы: Казлоўскі, Мангяла, Ламанашвілі, Баязітава і інш.

У 1957 - 1972 гадах я працаваў на станцыі Даманава Берасцейскай вобласці. У Даманаўс-кай школе маімі вучнямі былі: Курленя Лідзія Міхайлаўна, па мужу Міхневіч. У 1957-58 навучальным годзе

вучылася ў 5-м класе. Закон-чыла педінстытут у Менску, працавала загад-чыцай дзіцячага садка на ст. Даманава, стар-шынёй сельсавета ў Даманаве. Зараз на пенсіі;

Шабан Зоя Уладзіміраўна, пасля закан-чэння педінстытута працавала настаўніцай у Даманаўскай школе. Зараз на пенсіі;

Мароз Уладзімір Вікенцевіч, закончыў тэхналагічны інстытут у Менску і завочна літаратурны інстытут у Маскве, працаваў у дзіцячым выдавецтве ў Менску;

Мароз Алег Вікенцевіч, пасля заканчэння школы паступіў у БДУ, жыве і працуе ў Менску;

Піваварава Ніна Захараўна, закончыла педінстытут у Берасці і працуе ў адной са школ Берасця;

Кавалеўскі Анатоль Мікалаевіч, закончыў палітэхнічны інстытут у Менску і працуе ў Менску;

Курленя Сяргей Міхайлавіч, закончыў будаўнічы інстытут у Берасці;

Бенясік Ганна, закончыла інстытут замеж-ных моваў у Менску, працуе ў Пінску;

Шкаратаў Алег Цімафеевіч, закончыў вышэйшую марскую навучальню і служыў на расійскім паўночным марскім флоце;

Нярэціна Валянціна, закончыла стамата-лагічную навучальню і працуе стаматолагам у Даманаўскім медпункце.

Многія з маіх былых вучняў Даманавіцкай СШ уліліся ў рабочы клас Берасця, Баранавічаў, Менска, саўгаса "Даманава".

У 1973 - 1986 гадах працаваў у школах рабочай моладзі г. Ліды. Маімі вучнямі былі маладыя рабочыя заводаў, фабрык і арганізацый г. Ліды, а ў асноўным завода "Оптык" і мікра-раёна "Слабада".

У 1986 - 92 гадах працаваў у СШ №9 г. Ліды. Вучні, якіх я пачаў вучыць у 4-м класе, у 1992 годзе закончылі дзевяць класаў. Частка з іх дзеці вайскоўцаў выехалі разам з бацькамі, тутэйшыя ўжо абзавяліся сваімі сем'ямі.

***Мікалай Бельскі.***



***Выпускнікі 1981 г. Сельгастэхніка.***



***Выпускнікі 1983 г.***



***СШ №9, 5 "В" клас, 1988-89 г.***

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**У выдавецтве "Мастацкая літаратура", г. Менск, выйшла кніга Кастуся Цвіркі "Камяні тых сядзібаў". Наклад 2000 асобнікаў. 304 ст.**




**У выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя", г. Менск, выйшаў 1-шы том энцыклапедыі "Беларускі фальклор". 768 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




**У выдавецтве "Радыё Свабоды", выйшла кніга Аляксандра Лукашука "Прыгоды АРА ў Беларусі". 500 ст.**



**У выдавецтве БДПУ г. Менск, выйшла кніга "На раздарожжы. Беларусы і палякі ў час парасялення (1944 - 1946 гг.)". 320 ст. Наклад 100 асобнікаў.**



**У выдавецкім цэнтры БДУ, г. Менск, выйшлі матэрыялы Міжнароднай навуковай фальклорна-этналінгвістычнай канферэнцыі 14-15 красавіка 2005 г. "Комплекснае даследаванне фальклору і этнакультуры Палесся". 340 ст. Наклад 100 асобнікаў.**




**У выдавецтве "Беларусь", г. Менск, выйшла кніга Вітаўта Чаропкі "Лёсы ў гісторыі". Наклад 3000 асобнікаў. 360 ст.**



**У выдавецтве "Беларускі кнігазбор", г. Менск, выйшла кніга Марыі Ганько "Каб сьведчылі пра Беларусь" Наклад 500 асобнікаў. 192 ст.**



**Вялікі князь Гедзімін ля сцен Лідскага замка.** ***Народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў. Палатно. Алей. 2004 г.***